БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЭТА. ЗАСНАВАНАЯ Ў 1906 Г. У ВІЛЬНІ. АДНОЎЛЕНАЯ ТАМСАМА Ў 1991 Г. З 1 САКАВІКА 1996 Г. ВЫХОДЗІЦЬ У МЕНСКУ. ВЫДАВЕЦ РЭДАКЦЫЯ ГАЗЭТЫ «НАША НІВА»




# НАША НІВА

№ 3 (100) 9 лютага 1998 г.

## Залатая пятля

Абяцаны ў ранейшых нумарах артыкул — на старонцы 3.

## Кальварыйскія могілкі ў Менску

Разьдзелы з кнігі на старонках 6-7.

## Прыстойнасьць і хамства

Рэпартаж зь вёскі Траскоўшчына Менскага раёну на стронцы 8.

## «У лесе я сустрэў шмат такіх, як я»

Інтэрвію з камандзірам беларускіх партызанаў на старонцы 15.

## «Канвэер сьмерці»

Прэзэнтацыя новай кнігі выдавецтва «НН» на старонцы 10.

## Чужаземцы пра Беларусь

Некаторыя ўражаньні старажытных падарожнікаў на старонцы 5.

## Палявыя дасьледаваньні ўкраінскага сэксу

Урывак з нашумелага ўкраінскага рамана. Старонкі 20-21.

ДАРАГІЯ НАШАНІЎЦЫ!

Віншуем са 100-нумаровым юбілеем! «Наша Ніва» ня мае патрэбы ў афіцыёзных панэгірыках. Кожны сумленны беларус, якому дарагая родная культура і нашая дзяржава, чытае «Нашу Ніву». Гэтае шчырае прызнаньне тысячаў чытачоў ёсьць найвышэйшая ацэнка выданьня, якое стала адным з жывых сымболяў нацыянальнага адраджэньня. Мы ўпэўненыя, што круглая лічба — толькі пачатак, і мы будзем чытаць 1000-ы нумар калектыўнага плёну таленавітых творцаў і мысьляроў.

*Выконваючы абавязкі старшыні Беларускага Народнага Фронту "Адраджэньне"*
*Лявон Баршчэўскі*
*Прэс-сакратар Беларускага Народнага Фронту "Адраджэньне"*
*Валеры Буйвал*

* * *

БЕЛАРУСКАЯ АСАЦЫЯЦЫЯ ЖУРНАЛІСТАЎ адзначае мужнасьць рэдакцыі ў шчыраваньні на глебе беларушчыны, і жадае сілы духу і веры, зваротнай сувязі з чытачамі, і моцы ў працяглым змаганьні за нашае Сьвятое, Роднае — Беларускае.

*БАЖ*

* * *

РАДЫЁ 101,2, схіляючы галаву перад намаганьнямі зрабіць нацыянальнае канкуровым, і ведаючы, якія ахвяры гэтае вымагае, жадае посьпехаў, і агучвае цяпер ужо на старонках — Жыве Беларусь!

*РАДЫЁ 101,2*

АД РЭДАКЦЫІ. Мы шчыра дзякуем усім сваім чытачам, якія павіншавалі нас з 100-м нумарам «НН». Няхай нас усіх будзе болей!

# Віншую

Піша вам студэнтка філялягічнага факультэту БДУ, якая вельмі любіць вашую газэту і пастаянна яе чытае. Нават зараз, знаходзячыся на стажыроўцы ў Нямеччыне.

Віншую вас з сотым нумарам і жадаю, каб гэта была не апошняя сотня ў жыцьці «Нашай Нівы». Працуйце, жывіце добра, трымайце высока галовы і сьцяг над імі. А я буду крочыць далей па вулках далёкай краіны і расказваць пра маю Радзіму, лепш за якую няма, нягледзячы ні на што.

Жыве Беларусь!

**Вальжына Крывіч**

# На маскоўскі лад

Я, канечне, цалкам за тарашкевіцу, бо гэта тое, што створанае беларусамі, а не бээсэсэраўцамі, але, на мой погляд, сучаснаму беларускаму альфабэту не хапае маленькай дробязі, каб цалкам адпавядаць той самай тарашкевіцы ды слушнаму беларускаму вымаўленьню. Дробязь гэтая вось у чым: я разумею тых саўкоў, якія, пабачыўшы тарашкевічны правапіс, раздражняюцца, злуюцца або падсьміхваюцца са словаў «Лёндан», «парлямэнт» ці «філялёгія». Вядома, для іх гэта нешта незвыклае й незвычайнае, бо не па-савецку й не па-расейску. Але ў па-беларуску, я думаю, таксама трэба пісаць ТРОХІ ня так, бо словы «Лондан», «калонія», «калос» або «салон» вымаўляюцца крыху ня так, як «клён», «лён» альбо «плён». Тое самае і зь «ля» ў словах «каля», «пляма», «пляшка» — ня тое, што ў «парлямэнт». Таму не зашкодзіла б, а было б на карысьць — для найбольш слушнага вымаўленьня — мець у альфабэце крыху іншую літару «л»; бо «калёсы» — яны ж зусім невялікія, накшталт возу, ці мажары (на іх яшчэ «калхозьнікі» сена возяць), а гуркі «салёныя» не ў «салонах» прадаюцца, а ў звычайнай краме ці на базары. Дый чаму гэта ва ўсіх народаў (акрамя, мабыць, ангельцаў, ці яшчэ каго), што карыстаюцца лацінкай, у альфабэтах, ДЗЕЛЯ ЛЕПШАГА ВЫМАЎЛЕНЬНЯ, існуе мноства ўсялякіх дыякрытыкаў, а ў наш кірылічны альфабэт такія-сякія ўдасканаленьні хіба нельга ўнесьці? Ці мо РПЦ з ППРБ не дазваляюць? А хіба «і» ды «ў» ужо ня ёсьць адхіленьнем ад «клясычнай» кірыліцы? Дый для вымаўленьня гэтыя літары практычна ніякай ролі не іграюць, бо «і» ўсё роўна што «и» (маск.), а «ў» — на 96% як «в». Для тых, хто ведае, як трэба вымаўляць «ў», дык няхай бы яно й было.

А вось «нашыя» дыктары РБ, пэўней сказаць, тэле- й радыёпрастытуткі (таму што на мове гамоняць толькі ў эфіры за грошы), мабыць ня ведаюць, што гэта за «ў» такое, таму і атрымліваецца ў іх: «дэпутатоу, градусоу, мільёноу долороу», а іншым разам дык і ўвогуле: «прадпрыемствуув, пытаннюу...». Можа, каб напісаў ім замест «ў» ды «в»: «дыктарав, прадпрыемствав», дык і літару «а» яны б вымаўлялі дакладна. Але пераскочыў я ўжо нешта на «дыктароу», пра іх пазьней, хацелася б яшчэ колькі словаў пра альфабэт выказаць. Мабыць, вы і так ужо мяне ў якія-небудзь вар'яты залічылі, але выкажу сваю думку да канца.

На мой погляд, для таго, каб напісаньне цалкам адпавядала вымаўленьню, трэба, каб у альфабэце былі яшчэ дзьве літары: для гукаў [дз] і [дж], бо гэтыя гукі калі, да прыкладу, параўноўваць з [ў], дык значна больш адрозьніваюцца ад асобна вымаўленых [д] і [з], [д] і [ж] («дзень», «дождж»), чым [ў] адрозьніваецца ад [в], асабліва пры пераносе з радка на радок: «адрад-жэньне». Таму, калі ёсьць у альфабэце «ў», то няхай бы й гэныя літары былі. Тады б кожны, хто вырашыў прачытаць што-небудзь па-беларуску, быў бы проста вымушаны даведацца, што гэта за літары такія, і як правільна вымаўляць гукі, якія гэтыя літары абазначаюць. Ня так ужо й цяжка ўсё гэта і зрабіць, калі мы хочам, каб мова была паўнавартаснай і пашыралася сярод насельніцтва.

Ну ды годзе ўжо пра «высокие материи», бо для вас ўсё роўна гэта пакуль што БСК (брэд сівой кабылы). Я вось пра што хацеў запытацца: мо, вы ў Менску жывяце, дык ведаеце — па якім гэта прынцыпе «ў нас» (у РБ) дыктараў адбіраюць? Яны ж нават тое, што надрукавалі ім на бээсэсэраўскай «мове», дык і то дакладна прачытаць ня могуць, толькі знакі прыпынку вельмі добра «соблюдают» ды галасы ўсе маюць надта мілагучныя! Але ж брыдка слухаць усе гэтыя «тепер, шыноўнікі, вушні, зезюля, біроза, бізмен, виселле, вісёлка (гэта, мабыць, тое, што вісіць-боўтаецца)...» Словы каверкаюць «от и до», дзе трэба «я», кажуць «і» дый наадварот («гэтыя пытання»). Самы час аб'яўляць конкурс сярод «дыктароу»: «Хто лепш над мовай пазьдзекуецца». А найлепш гэта робіць, на мой погляд, вядучы тэлепраграмы «Відзьмо-нявідзьмо» Філімоноу: «Амеріка, перекладаюць, выкарістоўваюць, мауляй» ды інш. Нават тыя словы, дзе па-маскоўску пішацца «е», але чытаецца «э» (бо правілы ў іх такія), дык ён «па-беларуску» вымаўляе праз «е» («Перес де Куэльяр» і г.д.). Чым такая «беларуская» мова, то хай бы ён, Філімонаў гэты, лепш браў прыклад з адэскага Філімонава, што вядзе перадачу «Джэнтльмэн-шоў», дык паказваў сваё «Видима-невидима» на «чистом «русском» языке». Мабыць, у нашых «дыктароу», як я думаю, недзе ў душы захаваўся ГЕНЭТЫЧНЫ страх з тых часоў, калі ўсялякія маскоўскія энкавэдэшнікі й гэбэшнікі пакрыквалі на беларусаў пад час допытаў: «Ещё поВЯкай мне тут!», што яны й зараз баяцца дакладна вымавіць словы: «ВЯлікі», «ВЯсёлка»,»БЯрэмя», «ЗЯзюля», «МЯдзьведзь», «магчымасьЦЯў» ці іншыя зь «я». А мо ім там спэцыяльна загадваюць перабрэхваць словы НА МАСКОЎСКІ ЛАД ці ПАДБІРАЮЦЬ НЕБЕЛАРУСАЎ?

Калі ў 1991 годзе Вярхоўны Савет застаўся САВЕТАМ, абвясьціўшы незалежнасьць і прыняўшы дзяржаўнымі гістарычныя сымбалі беларусаў, але не дабіўся таго, каб Менск ды астатнія гарады й вёскі называліся па-беларуску (афіцыйна), дык у мяне зьявілася пачуцьцё, што ўсё гэта нетрывалае й не незваротнае, так яно й здарылася. Адсюль выснова, што ва ўсім трэба йсьці да канца: як былі мы рускімі славянамі-русінамі, русічамі-крывічамі, дрыгавічамі, радзімічамі, то трэба й заставацца, дый словы вымаўляць трэба дакладна, а ня так, як нашы «д...».

**Казакоў Ігар, Салігорск**

# Што рабіць

Шаноўнае спадарства!

Праз вашую рэдакцыю хацеў бы давесьці да паважаных чытачоў «НН», нацыянальна сьвядомых беларусаў некалькі разважаньняў пра шляхі далейшай барацьбы за Беларусь.

Акрамя адсутнасьці моцнага лідэра і зарганізаванага руху супраціву рэжыму, вакол якіх маглі б згуртавацца патрыёты Бацькаўшчыны, дагэтуль нікім не былі зробленыя спробы распрацаваць доўгатэрміновую праграму, сыстэму змагання за ўладу і ўтрыманьня яе. Асабіста я не гатовы да ролі лідэра, каб узяць на сябе адказнасьць за словы і сказаць: рабіць трэба гэта, гэта, а потым гэта. Але некаторыя парады і крытыку дазволю сабе выказаць.

Спачатку пагаворым пра царкву. Так склалася, што царква зьяўляецца асновай любой дзяржавы. У нацыянальнай дзяржаве павінна быць нацыянальная царква. Тым, хто захоча паспрачацца на гэты конт, раю даведацца, для чаго і як утвараліся Англіканская царква, Маскоўскі патрыярхат і іншыя царквы. І трэба выбіраць: ці падтрымліваць Пятра Гушчу ў яговых намаганьнях стварыць незалежны Беларускі Праваслаўны патрыярхат, роўны сярод роўных, ці надалей назіраць за лабызаньнямі Філарэта з Лукашэнкам і запрашаць на Дзяды маскоўскіх сьвятароў.

Далей пра правіцыю. Увага да яе нулявая. А там жа асноўны фронт працы. Што можна зрабіць? У любой вёсачцы (ня кажучы ўжо пра мястэчка) знойдзецца чалавек, які дапамажа даведацца пра настроі насельніцтва, раскленць улёткі, карацей кажучы, працаваць. Але на ўласным досьведзе магу засьведчыць, што такім людзям (усе мы ўсё ж гома савецікусы) патрэбная невялікая канспірацыя. Каб яны маглі пазьбегнуць тыканьняў пальцамі з боку плебсу і ўвагі з боку ўлады. Па-першае, адшукаць такіх людзей, а па-другое, зацікавіць, падтрымаць ня толькі фінансава, а можа і ня столькі. А што, калі распрацаваць праграму выхаду мясцовых газэтаў накладам у 40-499 асобнікаў. Уявіце: вёска мае сваю газэту малога фармату, якая выходзіць раз на тыдзень-два і інфармуе пра дзяржаўныя й вясковыя навіны. Для Менску гэта неактуальна, а для мясьцін, дзе глядзяць толькі БТ і слухаюць толькі БР, было б вельмі эфэктыўна і карысна.

Далей пытаньне пра выхад з-пад кантролю спэцслужбаў. Вырашыць яго альбо прапанаваць эфэктыўны спосаб канспірацыі я не магу. Можа, трэба чытаць і вывучаць досьвед барацьбы бальшавікоў, нацыянал-сацыялістаў 30-х гадоў Нямеччыны дый савецкіх папольшчыкаў і партызанаў? Чаму б не. Я асабіста прыхільнік правалаў асноўнай апазыцыйнай арганізацыі (маю на ўвазе БНФ) бачу ў палітычнай неадукаванасьці і ў прадажнасьці кіраўнічых органаў. Дзіву даесься, як проста спускаюцца на пах ініцыятывы зьнізу, паднятыя на Соймах (сам быў сьведкам), як проста разыгрываюцца спэктаклі: адныя крычаць: «Мы за Беларусь, мы супраць Расеі!», другі: «Я за Беларусь, а яны, ворагі, супраць Расеі і мяне!» Адныя існуюць, гуляючы цэлымі днямі ў кампутар, другія — катаюцца як сыр у масьле. Усе задаволеныя: мы апазыцыя. Рэжыму вельмі выгодна мець марыянэтачную апазыцыю і любую карысную для беларускага нацыянальнага руху ініцыятыву ў скажоным выглядзе прыпісваць ёй. Я ўпэўнены, што і ўся беларуская эміграцыя кантралюецца КГБ. Таму і ніякага станоўчага эфэкту няма ні зь мітынгаў, ні зь пікетаў, ні з чаго іншага. Умеюць хлопцы працаваць. А мы нават ня маем сувязі. Безь яе ня варта і працаваць. Газэты — гэта адно, а вось пры ўсёй разьвітасьці сучаснай тэхнікі мець рэспубліканскую радыёсувязь — не праблема. Калі Дудаеў у час вайны меў сваю тэлевізію, то ня мець сваёй станцыі нам... прабачце. Абы жаданьне. Нават фінансавых сродкаў гэта не патрабуе вялікіх. Аднак трэба быць падрыхтаваным да таго, што як толькі зьявіцца моцная незалежная нацыянальная арганізацыя з сапраўднымі прэтэнзіямі на ўладу, ППРБ «узарвецца», і пачнецца сапраўдная барацьба. Але бяз гэтага, самі разумееце, што нас чакае. У адным я ўпэўнены: звышнатуральнага нічога няма, і, веру, ёсьць людзі, якія змогуць гэта дакázаць.

**Ван Дзік Матусэвіч**

# Чакаем выбуху або распаду

«Апазыцыя ва ўласным саку»... Няздольныя людзі. Іх усяго 44. Але яны ня могуць знайсьці згоду нават па дробным пытаньні. Ці здольныя яны ўзяць уладу? Не.

Мінаюць гады. У палітычным гадзіньніку ўжо даўно адвалілася гадзінавая стрэлка, а хвілінавая замерла на даце 24 лістапада 1996 г.

Усе чакаюць крытычнае вагі, якая пусьціць гэты гадзіньнік. А можа трэба чакаць час распаду? І пасьля ўсім разам зрабіць новы палітычны гадзіньнік.

Лідэры 93-96-х — банкроты. Іх усіх можна цяпер пералічыць на пальцах аднаго «шэрага» чалавека. Няма ні «колькасьці», ні «якасьці».

Палітык прадбачыць і асэнсоўвае час. Калі ён зробіць памылку, выніку ня трэба чакаць, ён наступіць імгненна. Але жыцьцё не стаіць на месцы, і памылкі трэба выпраўляць. Няздольны гэтага рабіць павінен сыходзіць. Вельмі добра зрабіў спадар Пазьняк, зьехаўшы на час. Ягоны час прыйдзе. Усе ягоныя словы — гэта словы прадбачаньня...

Шэрасьць, шэрасьць навокал.

Бачу чатырох малых, што перабеглі праз вуліцу каля Камароўскага рынку. Гэта наша Будучыня.

Бачу, як шмат людзей праходзяць з рынку ў мэтро, з мэтро на рынак. Ці трэба іх разумець? Іх хвалююць зусім іншыя справы і турботы. Што мусіць зьдзейсьніцца зь імі, каб яны сталі разам з намі?

Шмат людзей гавораць: «У Беларусі дрэнна жыць! Рабочыя нічога не палучаюць». А я гэтага ня бачу. Тых, хто стаіць пад сьцягамі сваёй Радзімы чамусьці меней, чым «зьбяднелага люду». Чаму?

Мусім думаць. І чакаць ці выбуху, ці распаду.

**Аляксандар Савіцкі**

# Пра ўласныя імёны

У нас у нацыянальнай прэсе існуе вельмі добрая завядзёнка, паводле якой транскрыпцыя шэрагу бальшавіцкіх установаў падаецца без трансфармацыі ў нашую мову — КГБ, НКВД, СССР. Аналягічна некаторыя бальшавіцкія слоўныя наватворы ўжываюцца без выкарыстаньня існуючых у мове адпаведнікаў. Так, напрыклад, пішам «Вярхоўны Савет», «за савецкім часам», але —«Рада Эўропы» й г.д.

Гэтым мы падкрэсьліваем чужароднасьць тых словаў для нашае мовы, і тых паняткаў, што яны абазначаюць для нашае нацыянальнае культуры. Насамрэч, хіба сталінскія рэпрэсіі зьдзяйсьнялі нейкія НКУСы й КДБ? Ужываць для называньня гэтых арганізацыяў роднае слова — значыць, у пэўным сэнсе, асыміляваць іх у сабе, далучыць да нашага нутранага сьвету. ГУЛАГ і НКВД назаўжды застануцца са сваёй абрэвіятураю і ў нас у Літве, і ў Польшчы, і на Ўкраіне.

Дык вось жа, я прапаную працягнуць такую слушную традыцыю й пісаць імёны тых дзейных асобаў палітычнае сцэны нашага краю, якія зьяўляюцца чужароднымі элемэнтамі на нашай зямлі, у іхнай мове альбо на мове іхніх паноў.

Гэтак — не «прэзыдэнт нашае краіны Аляксандар Лукашэнка», а — «прэзыдэнт эрбэ Александр Лукашенко». І адпаведным чынам пісаць імёны такіх дзеячоў як «Титенков», «Шейман», «Заметалин», «Малофеев» і г.д.

Лічу гэта асабліва актуальным зараз, калі Лукашэнко ў хуткім часе зойме сваё месца на крамлёўскай пасадзе. Такім спосабам у мове лягічна адаб'ецца сёньняшняя палітычная сытуацыя, менавіта — абсалютная немажлівасьць адаптацыі тов. Лукашенко й атачэньня да нашае Айчыны.

**Макс Кірэйчык**

КАМЭНТАР

# Каманда

Калі, апошнім часам мне трапляецца на вочы напханая комплексамі дыскусія паміж «пажылымі мальчыкамі» нашае палітыкі, робіцца брыдкавата. І тады я ўключаю тэлевізар і назіраю за гульнёй нашай хакейнай зборнай на Алімпіядзе ў японскім мястэчку Нагана. І бачу на экране талковых мужыкоў, за якіх ня сорамна. І ніколі сорамна не было.

Увогуле, у сучасным беларускім кантэксьце наша хакейная зборная выглядае фэноменам. Сем гадоў таму, як і ўсе інстытуты грамадзтва, наш хакей вымушаны быў пачынаць з нуля. Сем гадоў высільваючыся праз немагу, часам на мяжы магчымага, зборная разбурала стэрэатыпы і ўласныя комплексы, крок за крокам падымалася з падвалаў, даводзячы і Ўсходу, і Захаду, а найперш сабе, што мы ў хаксі — адны зь лепшых. І ўрэшце дасягнулі эліты. Дасягнулі, таму што рабілі справу, а не шукалі вінаватых. Таму што хацелі. Таму што гэта Каманда. Вядома, былі паразы, але на працягу сямі гадоў ніхто не адважыўся кінуць папрок нашай зборнай у адсутнасьці волі і мужчынскага характару.

Сем гадоў суб'екты нашае палітыкі, як улада так і апазыцыя даводзілі й даводзяць усяму сьвету, а найперш сабе, што ва ўсім, што адбываецца, яны не вінаватыя. Вінаватыя то суперніκі, то таварышы па пляцоўцы, то ўласна пляцоўка. Відаць, ім ніколі ня трапіць у сваё Нагана.

Магчыма ў нашай зборнай не было яскравага лідэра, але пачуцьцё прафэсіяналізму, уласнай годнасьці, надзейнасьці было заўжды. Таму ёсьць Каманда.

З тых, хто ламаў косткі і клаўся пад шайбы ў Баўгарыі, Швайцарыі, Латвіі, Польшчы, ня ўсе трапілі на Алімпіяду, у Нагана паехалі мацнейшыя на гэты час. Расплёвак паміж тымі, хто трапіў і ня трапіў, не чуваць. Таму што гэта мужчыны, а ня мальчыкі. Таму што гэта Каманда. Каманда, якая нікога не баіцца. Ні Расеі, ні Амэрыкі з Канадай. Так гаварылася раней, так гавораць і зараз. Расейскія камэнтатары.

Наша зборная на працягу гэтага часу на справе даказвала векліч — Жыве Беларусь! Яна сьцьвярджала нашую нармальнасьць, нашую вартасьць. Яна давала й дае надзею нам, не савецкім... Як калісьці давала надзею чэхам і славакам іхная хакейная зборная.

Я спадзяюся на яе. Не таму што гэтая зборная да апошняга гуляла ў форме нацыянальных колераў, а таму што гэта Каманда сапраўдных мужчынаў, якая нават прайграе, не губляючы годнасьці.

Я набяруся нахабства і параю ўважліва сачыць за нацыянальнай хакейнай камандай на Алімпіядзе ў Нагана суб'ектам беларускай палітыкі, а «пажылым мальчыкам» пагляд зець на мужчынаў.

**Алег Дашкевіч**

# ЗАЛАТАЯ ПЯТЛЯ

*Апаратчыкі А.Лукашэнкі будуць рабіць свой бізнэс на тым, ад чаго ня раз адракаліся публічна — на нацыянальнай спадчыне Беларусі*

Адрынуўшы каштоўнасьць нацыянальнае культуры і мовы, загнаўшы лепшых спэцыялістаў у апазыцыю, рэжым А.Лукашэнкі апынуўся сам-насам з калясальнымі гуманітарнымі рэсурсамі краіны. Нават ня любячы ўсё гэта, ня ведаючы мэтафізычнае цаны ўсяго гэтага, прагматычны розум ня можа не заўважыць, што нацыянальная спадчына паўсюль у сьвеце — гэта залатая даходная жыла. За савецкім часам абыякавае да беларушчыны чынавенства ня надта цікавілася і матэрыяльным бокам справы. Бо адкрыта, на вачах ва ўсіх разжыцца не выпадала. Сёньня ж тыя самыя па сутнасьці сваёй чыноўнікі пачынаюць разумець, што ўжо ніхто іх за руку ня схопіць. Яны будуць выпампоўваць грошы зь Беларусі, яе прыроды, спадчыны, нават зь яе мовы прагматычна і бяздушна, як з чагосьці кінутага, зусім ня дбаючы пра наступствы. Нездарма і назву свайму праекту яны ўзялі «Залатое кальцо Беларусі» — што цалкам упісваецца ў іхнае разуменьне нашай краіны як расейскай правінцыі. Іх беспардоннасьць у стаўленьні да нашых сьвятыняў можа абураць, але найперш мы мусім ведаць усе дэталі гэтага заяўленага на заўтра доўгатэрміновага злачынства. Дакумэнты «Залатога кальца», народжаныя ў нетрах лукашэнкаўскае вэртыкалі, днямі сталі даступныя нашаму карэспандэнту.

Гэты праект прыцягнуў маю ўвагу з трох прычынаў. Па-першае, ён сапраўды глябальны і мусіць ахапіць усю тэрыторыю краіны. Яго ідэя — стварэньне свабоднай эканамічнай зоны з уключэньнем у яе прыродаахоўных і гісторыка-культурных тэрыторыяў з помнікамі прыроды, архітэктуры і гісторыі. Ідэя ня новая, але ўпершыню яна прапануецца як суцэльны комплекс з асаблівым рэжымам гаспадараньня ў агульнанацыянальным маштабе.

Па-другое, праект нараджаўся ў сакрэтнасьці яшчэ ў 1996 годзе, і да сёньня пра яго мала хто ведае. Летась у сакавіку на традыцыйных «Браслаўскіх чытаньнях», якія зьбіраюць гуманітарыяў зь Беларусі, Літвы, Польшчы й Расеі, нечакана для ўсіх выйшаў дакладчык і з аплёмбам далажыў пра неаслабную рупнасьць адміністрацыі Лукашэнкі аб ахове помнікаў і прыроды Беларусі. На рукі слухачам была перададзеная пульхная тэчка са здымкам сям'і жабракоў XIX стагодзьдзя і залачоным подпісам сынадальнага шрыфту «Золотое кольцо Беларуси». Ненадоўга зьнямелая публіка задала дакладчыку некалькі пытаньняў: «Як рыхтаваўся гэты праект?», «Хто будзе даваць дазвол на адчужэньне тэрыторыяў і помнікаў?» і «Каму будзе падначаленая гэтая «свабодная зона»?» Дакладчык адказаў ня даў. Затое на сьціплую заўвагу, што праект нават у такім чарнавым выглядзе груба парушае заканадаўства, ён заўважыў: «Гэта дэталі. Спатрэбіцца — прымем закон!» Большага ніхто пра гэты таемны праект ня чуў...

Нарэшце, па-трэцяе, сам факт спробы ацаніць маштабы і стан нацыянальнае спадчыны, так бы мовіць, акінуць гаспадарскім вокам — зусім новая рэальнасьць. Аўтарытарны рэжым дбае пра сваё выжываньне і імкнецца знайсьці новыя крыніцы фінансаў, задзейнічаць некранутыя рэзэрвы. Праект новай «зоны», з аднаго боку, мусіць вызначыць геапалітычнае месца Беларусі, а з другога — абаперціся на ўласна нацыянальныя рэсурсы.

Я не надаў тады гэтаму здарэньню ў Браславе вялікае ўвагі, але праз нейкі час на маім стале зьявіліся дакумэнты, якія пралілі крыху больш сьвятла на гэтую справу. Адныя зь іх патрапілі ў мае рукі ажно зь Пецярбургу, другія — ад старых знаёмых з МЗС. Лішне казаць, што тыя, хто даваў мне гэтыя паперы, прасілі ня згадваць іхныя прозьвішчы. Пакрысе справа «Залатога кальца» набыла іншы ракурс, зусім далёкі ад таго, як гэта было пададзеная дакладчыкам на «Браслаўскіх чытаньнях»...

Падрыхтоўка першага міні-праекту «Залатога кальца Беларусі» распачалася ў лістападзе 1996 году за горшы Арганізацыі Аб'яднаных Нацыяў у межах праграмы «Садзеяньня сацыяльна-эканамічнаму разьвіцьцю Рэспублікі Беларусь у пераходны пэрыяд», і была даручаная творчай майстэрні Чадовіча. Аляксандар Чадовіч прыехаў у Беларусь з Курганскае вобласьці. Яшчэ не атрымаўшы адукацыі, ён з 1980 году ўжо быў галоўным інжынэрам праектаў у інстытуце «Менскпраект», а з 90-га кіруе пэрсанальнай творчай майстэрняй.

На тры месяцы для падрыхтоўкі прапановаў было выдаткавана 25 тысячаў даляраў на 17 чалавек кансультантаў. Пад дакумэнтамі стаяць подпісы намесьніка міністра эканомікі Зайчанкі, кіраўніка праекту ПРААН Даўгавечнага і мэнэджэра майстэрні Чадовіча Прыбыля. У прэамбуле чытаем:

«... Из общего количества памятников истории и культуры, представляющих интерес для туристско-экскурсионного показа (около 11 тысяч), используется около 5%. Значительное число памятников не реставрировано, к ним отсутствуют подъездные пути, их территории неблагоустроены».

Мэты праекту гучалі амаль высакародна. Яны, як дэкляруецца, накіраваныя «... на возрождение национальной культуры, историко-культурного наследия; на более полное и эффективное использование природных комплексов...; на развитие туризма; на выпуск экологически чистых продуктов...» і гэтак далей. Ну што тут кепскага мог угледзець Сталы Прадстаўнік ААН у Беларусі спадар Крал, які даў згоду Міністэрству эканомікі на гэты кантракт і на прызначэньне кіраўніком нейкага Парфіяновіча?

Але ўжо Парфіяновіч на гэтым не спыніўся. Праз тыдзень на стол Дзяржаўнага сакратара Савету бясьпекі Шэймана лёг дакумэнт на блянку нейкае «Беларускае Маладзёжнае Палаты»: «Золотое кольцо Беларуси»:

«Глубокоуважаемый Виктор Владимирович! Прошу Вас рассмотреть предложение о создании при Совете Безопасности Республики Беларусь координационного Совета (Департамента) по проблемам сохранения и рационального использования историко-культурного и природного наследия Республики Беларусь (далее Совет). Необходимость такого Совета диктуется также всевозможными фальсификациями истории белорусского народа, республики, которая в настоящее время приобретает черты независимого европейского государства. Руководствуясь (...) личной гражданской позицией, полагаю своевременным создание органа, способного консолидировать интеллектуальный и духовный потенциал Республики Беларусь по достижению следующих целей и задач: (...)

3. Осуществление контроля за ведущимися и планируемыми программами, мероприятиями, направленными на использование природно-биологической среды, памятников истории, культуры, науки, традиций народа Республики Беларусь; (...)

7. Освоение и сохранение аутентичных форм фольклора;

8. Возрождение и развитие народных промыслов и ремёсел;

9. Формирование здоровых моральных ценностей, идеалов и традиций белорусов...

Приложения на 5 листах: 1. Проект Указа Президента Республики Беларусь, 2. Проект положения о Совете и 3. Копия письма Министерства культуры в адрес Министерства внешних экономических связей. С глубоким уважением...»

Неўзабаве Парфіяновіч ужо ня просіць, а даводзіць да ведама Віцебскага аблвыканкаму пра ўключэньне ў праект «Золотое кольцо» дэмілітарызаваных аб'ектаў на тэрыторыі Віцебскай вобласьці:

«... в результате проведённых исследований... считать целесообразным и возможным включение бывшей авиационной базы «Журжево» — г. Витебск, военных городков «Костени», «Тешелово», «5-й городок» — Поставский район, «Плисса» — Глубокский район... в число объектов СЭЗ «Золотое кольцо Беларуси».

Да кожнага аб'екту дадаюцца кароткія тлумачэньні — што яны сабою ўяўляюць. Але што да базы «Журжава», то ёсьць нарэшце, і красамоўнае самавыкрыцьцё:

«... коллектив разработчиков СЭЗ «Золотое кольцо Беларуси» обратил внимание на следующие... возможности объекта: 1) Транзит грузов с фруктами через Витебск по маршруту Южная Америка — порт Санкт-Петербурга — Витебск — центральные районы России нуждается в обработке груза, а именно: таможенная обработка груза, перепаковка, расфасовка, и т.д. Пример тому — коммерческое предложение от российской компании «МКМ», общий объем поставок которой, по вышеуказанному маршруту, составил за 1996 г. — 150 млн. долларов США».

Цікава, навошта вазіць садавіну з Расеі на мытню ў Беларусь і назад у Расею? І ці чуў хто-небудзь, што за год, як высьвятляецца, толькі адна расейская фірма пракруціла праз Віцебск 150 млн. даляраў! А колькі праварочана гэткіх апэрацыяў летась? Сапраўды, праект Парфіяновіча можа апынуцца «залатым» без усялякіх мэтафараў. Натуральна, толькі на карысьць народу!..

«Кроме того, к нам поступила копия письма от Витебской городской организации ветеранов локальных войн, адресованное ряду министерств и ведомств, с инициативой создания свободной экономической зоны на базе военного городка «Журжево», на правах правопреемника ветеранских организаций авиагарнизона «Журжево».

Летась у сакавіку міні-праект для Праграмы Разьвіцьця ААН быў гатовы. У ім — даўжэзны й непісьменны пералік помнікаў гісторыі й дойлідства. Чэрыкаў названы «Черниковым», Ішкальдзь — «Ишкольцами» і гэтак па тэксьце далей. Да «праекту» дадаюцца прэамбула, накіды пастановаў і ўказаў, варыянты назвы свабоднай эканамічнай зоны: «Золотое кольцо Беларуси, Белорусский меридиан, Белорусский экватор, Белорусский треугольник (дарма што не Бэрмудзкі), Альба-Руссия, Белая Русь, Вайс Руссен (як гучыць!), Из варяг в греки, і нарэшце Альба Ротсман (от старонемецкого «вясьляр, гребец» — морской человек)». Усё толькі за 25 тысячаў даляраў!

Зусім нядаўна я дазнаўся, што ў саноўных калідорах Парфіяновіча не ўспрымаюць усур'ёз і пацiскаюць плячыма: «Адкуль ён узяўся?» Між тым, увесь апошні год усе міністэрствы Беларусі разам з Кіраўніцтвам справамі Лукашэнкі паглыблялі й разьвівалі праект. У выніку гэтага сьпіс тэрыторыяў і аб'ектаў, асуджаных на адчужэньне на карысьць новае зоны істотна павялічыўся.




Сёньня, апроч узятых наўздагад помнікаў па ўсёй Беларусі, у ім ужо фігуруюць усе помнікі і ахоўныя тэрыторыі Менску, Бярэзінскі запаведнік, цэлыя групы азёраў, заказьнікаў, паркаў. Звыш таго, уключаюцца агулам вайсковыя базы «расположенные в Поставском, Гродненском, Глубокским и других районах». Вы мяркуеце, што ўжо досыць? Не! Падлучаюцца 7 гідраэлектрастанцыяў, вузкакалейных дарог, уся фірма «Беларуськурорт», аб'яднаньне «Белтурыст», «Міжкалгасздраўніца» і — сьціпла — «другие объекты хозяйствования»... Хто ж гэтым усім будзе распараджацца?

Зьвернемся да «Концепции функционирования СЭЗ — сферы благоприятной экономической деятельности (СБЭД) «Золотое кольцо Беларуси», толькі нядаўна завершанай:

«Администрация специальной зоны — СБЭД является распорядителем и владельцем от имени государства (!) соответствующих объектов культуры, памятников истории, природы...»

Калі просьба Парфіяновіча аб падначаленьні гэтай зоны ведамству Шэймана будзе задаволеная, няцяжка здагадацца, хто будзе адзіным у краіне гаспадаром усёй спадчыны Беларусі. Чытаем далей:

«Администрация зоны является полномочным представителем государства, с которым имеют отношения все инвесторы по всем вопросам деятельности...»

Для кіраваньня гэткай глябальнай «зонай» спатрэбіцца не адзін легіён апаратчыкаў. За які кошт яны будуць існаваць? Чытаем задачы, параграф 1, пункт б): «Легализация национального капитала, вкладываемого в соответствующие отрасли производства»: «Первоначальные расходы для открытия и становления Сферы Благоприятной Экономической Деятельности берёт на себя Администрация зоны». Пра культуру, мастацтва, помнікі таксама не забыліся:

«... через прямую систему финансирования... преодолевается царящяя до сих пор обезличенная система финансирования объектов культуры и природы, что несомненно, сдерживает присущее славянству меценатство в области искусства, науки, культуры...»

Найбольш складанай і «фундамэнтальнай» праблемаю для пражэкцёраў уяўляецца наступная:

«... отсутствие какого то ни было стабилизатора страны в виде традиций, института монархии, правящей элиты и т. п. История, культура, идеология и т.п. пишутся как бы с «чистого листа».

Як жа ім, бедым, натрапіць у гэты струмень невядома яшчэ якой ідэалёгіі, ізноў перапісаць гісторыю і як-небудзь усё стабілізаваць, каб спакойна гойсаць па нашых пушчах і баляваць у нашых замках за кошт «легалізаванага» свайго капіталу?...

Калі ў іх усё атрымаецца, то ў новым годзе сотні цэркваў і касьцёлаў, замкі і палацы, музэі і паркі, лясы і азёры будуць ужо ня нашыя а іхныя. Яны самі будуць выращаць лёс музэяў у Строчыцах і ў Ракуцёўшчыне, касьцёлаў у Нясьвіжы й Навагрудку, замкаў у Крэве і Горадні і нават лёс бярэзінскіх баброў... Прычым — з чыстага ліста, не заглыбляючыся ў гісторыю. Як бы далей ні разьвівалася сытуацыя ў краіне, «зона» разам са сваім тайным бюджэтам, чыгункамі, аэрадромамі, сувязьзю й энэргетычным комплексам ператвараецца ў суцэльную крэпасьць, за мурамі якое будуць дзейнічаць свае законы. Сытуацыя можа стаць катастрафічнаю, калі на гэта ўсё й сапраўды пакваляцца інвэстары, ведаць якіх будуць толькі ў кабінэтах Адміністрацыі. Па-першае, як і ўсе часовыя людзі, якія адчуваюць злачыннасьць сваіх учынкаў, яны будуць імкнуцца выціснуць з нашае зямлі па-максымуму, а гэта азначае, што прэс на прыроду і гістарычнае асяродзьдзе ўзрасьце шматкроць. З-за закрытасьці «зоны» пра рэальны стан рэчаў у краіне будуць ведаць адзінкі. Пра незалежны кантроль на гэтых тэрыторыях нават няма гаворкі. Па-другое, калі вернецца ў Беларусь канстытуцыйны парадак, тыя сотні, магчыма тысячы новасьпечаных суб'ектаў гаспадараньня ў «зоне» застануцца... Пры спробе ўнармаваць іхную дзейнасьць канфлікт непазьбежны. Прычым у маштабе краіны глябальная праблема спраўкуе менавіта глябальны канфлікт, выбірацца зь якога нам або нават нашым дзецям давядзецца не адзін год...

**Гары Куманецкі**

АКЦЫ

# Падарожжа па кантрасты

29 і 30 студзеня 1998 году «Наша Ніва» мела вельмі напружаны графік. Дваццаць дзявятага ўвечары на Рок-каранацыі мы ўручылі нашыя адмысловыя прызы Касі Камоцкай «За трываласьць» і гурту N.R.M. «За ўклад у разьвіцьцё партызанскага руху ў Беларусі». А ўжо нараніцы мусілі выяжджаць у Гомель, дзе тамтэйшая асацыяцыя «Яравіт» ладзіла сустрэчу чытачоў з «НН» і «Эўрафорумам».

На дзіва, нашае падарожжа апынулася вельмі складаным. Па чарзе зламіліся дзьве машыны. У выніку мы спазьніліся на дзьве гадзіны, але ў залі ўсё было каля 50-ці чалавек, што сталася для нас прыемнаю нечаканасьцю, бо мы ўжо былі гатовыя прызнаць поўны правал працоўнага дня. Такое цяжкае падарожжа было ў пэўным сэнсе знакам нашага неапраўдана доўгага шляху да Гомеля. Акцыі «НН» ужо адбываліся ў Віцебску, Магілёве, Вільні, Варшаве, Гданьску. Прыезд у Гомель пляваўся даўна, быў нават выдадзены адмысловы гомельскі нумар газэты.

Падобна, што нашая кампанія выглядала вельмі разнастайна — Славамір Адамовіч у партупэі й галіфэ, Сяргей Харэўскі — са зламанай у паездцы нагой, Зьміцер Бартосік у традыцыйным бардаўскім іміджы 80-х... Пачыналі вечарыну прадстаўнікі «Эўрафоруму», дырэктар якога Ігар Бабкоў нарадзіўся ў Гомелі. Міхась Баярын у старагрэцкай манеры чытаў свае вершы, напісаныя некласычным гекзамэтрам; Валерка Булгакаў рабіў стаўку на абсурдысцкую рэпавую стылістыку.

Рэдка мне даводзілася бачыць такую ўдзячную аўдыторыю. Стомленыя чаканьнем, гамельчукі здольныя былі ўважліва слухаць і задаваць такія пытаньні, на якія не заўжды меліся адэкватныя адказы. Трэба дадаць, што нашая выправа дала ўнікальныя матэрыялы й для Архіву Найноўшае Гісторыі. Гэтыя дакумэнты чытачы пабачаць на старонках «Шуфляды».

У параўнаньні з аўдыторыяй Гомель на наступную раніцу зрабіў на мяне новае ўражаньне, бо падаўся цікім горалам. Ведаючы яго маштабы ды індустрыю — нават занадта цікім. Ігар Бабкоў акрэсьліў гэткую сацыя-культурную сытуацыю наступным чынам: Гомель яшчэ не сфармуляваў свае ўласныя амбіцыі, якія даўно ці ўжо ёсьць у іншых значных гарадоў Беларусі — Горадні, Віцебска, Магілёва, Полацка.

Апроч іншага, Гомель падарыў мне й прыватныя ўражаньні — амаль ідэальны парк; сустрэча з пажылым гомельскім таксоўшчыкам, які з ахвотаю па-беларуску распавядаў гарадзкі фальклёр яшчэ з часоў 40-50-х гадоў. Нечакана велізарных аб'ёмы касьцёлу, які тут будуецца. Сучасная гарадзкая субкультура ў Гомелі толькі паўстае, і гэты горад рыхтуе для нас яшчэ шмат сюрпрызаў.

**Алег Дзярновіч**



ВЕЧАРЫНА

# На мове

6 лютага ў Музэі Янкі Купалы адбылася працоўная вечарына клюбу «Спадчына». Старшыня клюбу Анатоль Белы даваў справаздачу аб сваім візіце ў Злучаныя Штаты Амэрыкі, віншавалі прафэсара Анатоля Грыцкевіча з абвяшчэньнем яго «Чалавекам году» паводле рашэньня Кембрыдзкага ўнівэрсытэту, а таксама абмяркоўвалася ідэя стварэньня помніка, зьвязанага з шанаваньнем роднае мовы.

Заўважана, што самыя заўзятыя змагары за беларускую мову як правіла валодаюць ёю далёка не дасканалым чынам. Гэтаксама, як тыя, хто «змагаецца за ўраджай», атрымліваюць ня самыя ўдалыя па якасьці й колькасьці хлябы.

Колькі людзей, што калісьці адкрылі для сябе фэномэн беларускай мовы, ператварылі яе ў свайго «старога сабаку» з «Чумы» Альбэра Камю? Ці існуе знак, які мог бы сымбалізаваць мяжу паміж жыцьцём і «змаганьнем за жыцьцё»? Магчыма, гэты знак і ёсьць — помнік мове?

Вядома, што прэцэдэнты падобных скульптурных твораў існуюць. Напрыклад, у Маскве на Вялікай Грузінскай вуліцы стаіць фаласападобны манумэнт, складзены нібы зь мешаніны літараў грузінскага й кірылічнага альфабэтаў. Ён сымбалізуе пэўнае адзінства. Фалас, як сымбаль узаемапранікненьня?..

Пэўна, ня варта заглыбляцца ў гісторыю пытаньня, дзеля таго, каб адшукаць выяўленчы вобраз беларускае мовы. На паседжаньні, да прыкладу, было прапанаванае пяро. Трох- (дзесяці, дваццаці-...) мэтровае гранітнае (бэтоннае, мэталёвае...) пяро з надпісам «Не пакідайце ж...», якое нібы абраніла «птушка шчасьця» нашае «шматпакутнае Бацькаўшчыны» з такім жа посьпехам можа замяніць адпаведных парамэтраў летапісны скрутак, які разгортваецца, і прымае выгляд языка. Альбо, напрыклад, на месцах, дзе калісьці красавалі мэтровыя літары кшталту «міру мір» можна ўсталяваць па ўсёй краіне тыя ж «не пакідайце...»

Зрэшты, большасьць прысутных на

***

Калі б ня тая нагода, я б і ня ведаў аб існаваньні клюбу «Спадчына». Паседжаньне якога адбылося ў пятніцу ў музэі Янкі Купалы, і дзе зьбіраліся абмяркоўваць праект помніка беларускай мове й змагарам за яе. Я б ніколі не даравала сабе — не пайдзі на такую імпрэзу. Прынамсі, маёй фантазіі не хапала, каб уявіць помнік Мове. Зрэшты, як і змагарам.

Ад самага пачатку паседжаньня я пранікся цеплынёю радзіннае атмасфэры «Спадчыны», дзе адзін, герой дня, распавядае ўсялякія цікавыя рэчы, а астатнія члены вялікае сям'і ўважліва яго слухаюць, час ад часу перапыняючы распавядальніка гоманам задавальненьня. У пятніцу героямі былі Валянцін Грыцкевіч, якому Кембрыдж прысвоіў пачэснае (і, галоўнае, справядлівае) званьне «Чалавек году», і Анатоль Белы, што вярнуўся з Амэрыкі. Гаворку распачаў Белы. Спачатку шаноўнай грамадзе было паведамлена аб тым, якая прыгожая краіна Злучаныя Штаты й горад Клііленд у прыватнасьці. Усе прысутныя задаволена ківалі. Пасьля грамада даведалася, які цудоўны дом набыла дачка спадара Белага ў цудоўнай краіне. Пасьля кожнага паведамленьня чарговых дэталяў гул зачараваньня толькі ўзмацняўся. Дом за 140 тысяч даляраў. У-у-у... 300 квадратовых мэтраў карыснай плошчы. О-о-о... Дзьве прыбіральні, дзьве лазенкі, безьліч кухняў! Э-э-э... Але ўсіх больш цікавілі два пытаньні. Як там пакутуе на чужыне Пазьняк, і калі эміграцыя пачне даваць грошы на сьвятую справу адраджэньня. На помнік нашай мове, напрыклад. Адзін літаратар, не стрымаўшыся, зь месца закляйміў «вялікага дзеяча» Янку Запрудніка. «Яшчэ ў 94-м годзе я аддаў пану Запрудніку свой рукапіс для радыё «Свабода», — абураўся выступоўца, — дык аж да гэтай пары слухаю, і бяз толку. Ёсьць у мяне падозраньне, што пан Запруднік выкінуў мой рукапіс у гатэльную сьметніцу!» — ня мог стрымаць эмоцыі літаратар. Цяжка было знайсьці словы апраўданьня нашай эміграцыі спадару Беламу. Але пытаньне грошай плаўна перайшло ў пытаньне выгнаньніка. Пры імені якога наступіла паважная цішыня. Аказваецца, беларуская грамадзкасьць ЗША

ЮБІЛЕЙ

# Праху з ног

Скончылася першае кінастагодзьдзе, але сьвет працягвае жыць у ім. Гэты год аб'яўлены годам Сяргея Эйзэнштэйна. Прайшло сто гадоў з дня нараджэньня вялікага кінарэжысэра. Ён нарадзіўся 22 студзеня (10 паводле старога стылю) ў Рызе, а памёр праз 50 гадоў у Маскве 10 лютага, пакінуўшы пасьля сябе бесьсьмяротную славу і «Браняносца «Пацёмкіна».

Жыцьцё Сяргея Эйзэнштэйна будавалася на суцэльных супрацьлегласьцях. Ён нарадзіўся ў заможнай, прыстойнай сям'і, дзе традыцыі пераемнасьці шанаваліся абодвума бацькамі. Маці, Юлія Іванаўна, ў дзявоцтве Канецкая й бацька, модны рыскі архітэктар Міхаіл Осіпавіч Эйзэнштэйн, бачылі ў сыне будучага архітэктара. Сярожа зь дзяцінства някепска маляваў, хадзіў у рыскую рэальную вучэльню. Але нават калі ён навучаўся ў пецярбурскім Інстытуце цывільных інжынэраў, нішто не прадказвала пераменаў у ягоным лёсе, дакладней, — у плянах ягоных бацькоў. Ён жыў звычайным для таго часу й таго кола жыцьцём. Бацька, вядомы тэатрал, вадзіў хлопчыка ў тэатры, маці вазіла за мяжу, бабуля вадзіла ў музэі. Пазьней, калі бацькі разьвяліся, і маці пераехала ў Пецярбург да бабулі, а Сярожа застаўся з татам, ён усё часьцей стаў наведваць сталіцу — там было прасьцей ды вальней. У бацькоўскім жа доме была раскошная абстаноўка, шыкоўная бібліятэка, прыслуга, дастатак і парадак. Тым ня менш Міхаіл Осіпавіч дзеля працягненьня сямейных традыцыяў адпусьціў Сярожу вучыцца ў Пецярбург у інстытут, які сам некалі скончыў, але з надзеяю, што сын вернецца ў Рыгу. Аб гэтым бацька пісаў маладому Эйзэнштэйну ўжо зь незалежнай Латвіі ў лістах на паўночна-ўсходні фронт. Прызнацца бацьку Сяргей ня мог, але маці ў ліпені 19-га напісаў: «... лічу за лепшае быць 21 у Расеі, чым 1 у Латвіі».

Ён аддаў перавагу жыцьцю ў франтавых цяплушках перад выгодамі роднага дому. Тады ён пісаў: «калі што немагчыма, гіне, тады трэба рабіць што-небудзь сапраўднае супраць гэтага, а не бедаваць. Ці, калі першае немагчыма, увогле «з коранем вырваць» жаданьне ці любоў і прыхільнасьць да таго, хто гіне. І мірыцца з усім непазьбежным шляхам «развагаў» і «задушэньня эмацыйнай часткі». З гэтымі перакананьнямі 20-гадовы Сяргей Эйзэнштэйн правандраваў па дарогах вайны ад Анескіх вытокаў да Дзьвіны. Грамадзянская вайна для яго скончылася ў Менску, а прадчуваньне чагось незвычайнага, новага прачнулася на чыгуначным вакзале ў Віцебску, па дарозе з вайны. Цягнік спыніўся на запасных торах, і маладыя жаўнеры пайшлі на станцыю па кіпень. Усе дамы й вуліцы былі расьпісаныя фіялетавымі авалямі, чорнымі простакутнікамі, зялёнымі трапэцыямі, чырвонымі ды жоўтымі квадратамі. Усю дарогу Эйзэнштэйн пакутаваў, што ж гэта было: новае, незразумелае, але вельмі знаёмае, што нагадвала тэатральныя падмосткі. Ён праяжджаў праз Віцебск акадэміста Марка Шагала, у якім на нейкі час пасяліўся супрэматыст Казімір Малевіч. Успаміны аб гэтым горадзе, як зрэшты аб усім пабачаным калі-небудзь, ён захаваў на ўсё жыцьцё.

Будучы аўтар мантажу атракцыёнаў прыехаў у Маскву. Ён знайшоў тэатр Пралеткульту, тэатар знайшоў Эйзэнштэйна. Ён адмаляў творчасьць. Пралеткульт ствараў усё нанова: новую мову, новыя адносіны, новыя формы, жанры, новае мастацтва. Усё для новага гледача. Тут ён убачыў і ўсьвядоміў расчлененасьць дзеяньня, ягоную шматпляннавасьць, калі на сцэне аднача́сова ці пераменна адбываюцца розныя дзеяньні, працягваючы й падмацоўваючы адно аднаго. Паступіўшы ў Дзяржаўныя вышэйшыя рэжысэрскія майстэрні Ўсевалада Меерхольда, будучы рэжысэр маляваў плякаты, прыдумляў дэкарацыі, вучыўся балетнаму мастацтву, пісаў сцэнары. Пазьней, дзякуючы гэтаму досьведу, ён будзе любімым рэжысэрам дэкаратараў і рабочых-пастаноўшчыкаў. Ён маляваў ім эскізы і раскадроўкі будучых фільмаў, крэсьліў і мадэляваў. У падзяку для яго ў найкарацейшыя тэрміны ўзводзілі дэкарацыі, шылі касьцюмы.



Рэвалюцыю 1905 году Эйзэнштэйн ня памятаў. Бацькі далей ад ліха вывезлі хлопчыка ў Парыж. Гэты год ён узгадвае як час знаёмства з кінематографам Жоржа Мэльеса. У Парыжы ішлі яго фантастычныя фільмы, ад рукі падрэтушаваныя й размаляваныя. Героі гэтых кароткіх сюжэтаў лёталі на Месяц і жылі пад вадою. Магчыма, у памяць аб іх праз дваццаць гадоў у «Браняносцы «Пацёмкіне» на мачце запунсавеў сьцяг, размаляваны Эйзэнштэйнам.

Лютаўская рэвалюцыя засьпела Эйзэнштэйна па дарозе ў Александрыйскі тэатар. У гэты дзень давалі «Маскарад». Ліцейны праспэкт быў перапоўнены пустымі трамваямі, недзе ў цэмры стралялі, вакол Таўрычаскага палаца хадзілі салдаты. Па дарозе з тэатру Эйзэнштэйн чуў размовы, — людзі чакалі нейкага шэсьця. І сапраўды, раніцай на вуліцы выйшлі войскі. Праз дзень Імпэратар Мікалай II зьняў карону.

У жыцьцё юнака, што марыў «раскалоць» традыцыі, уварвалася свабода, хатняя тыранія скончылася. Але «толькі Кастрычніцкая рэвалюцыя дала мне ўсе магчымасьці ў жыцьці», — пісаў Эйзэнштэйн у аўтабіяграфіі. «Дала самае для мяне дарагое — яна зрабіла мяне мастаком». Пазьней у фільм «Кастрычнік» Эйзэнштэйн уклаў усю сваю тугу па волі, свабодзе быту. Ужо вачыма сваіх герояў — жаўнераў — што ўварваліся ў палац, ён са зьдзіўленьнем глядзіць на незьлічоную колькасьць непатрэбных рэчаў, цацак.

Першы досьвед у кіно быў няўдалы. На «Першай кінафабрыцы» (кінастудыі А.Ханжанкова) маладому рэжысэру даверылі зьняць эпізод з масоўкаю. Абедзьве спробы былі не прынятыя. Але Цісэ й дырэктар студыі Міхін заўважылі незвычайнасьць Эйзэнштэйна і зьвярнуліся ў прыёмную камісію па дазвол рэжысэру-пачаткоўцу зьняць трэцюю спробу. Гэтая сцэна ўвайшла ў фільм «Стачка», які пазьней у Парыжы атрымаў срэбны мэдаль.

У кіно Эйзэнштэйн парушыў падзеевую пабудову драматургічнага твору. Ягонаю мэтаю стаў мікраэпізод. Ён парушыў галоўны прынцып кінамантажу таго часу — склейка кавалкаў у іх лягічнай пасьлядоўнасьці. Верагодна з-за нетрадыцыйнага мантажа замежныя й айчынныя крытыкі разыходзіліся ў сваіх меркаваньнях. Заходнія разьвенчвалі міт аб «Браняносцы «Пацёмкіне» як аб флагма-

# помніка

абмеркаваньні, сярод якіх было багата вядомых прафэсійных беларускіх культуролягаў, пагадзіліся, што ставіць помнік уласна мове двухсэнсоўна да змрочнасьці — нагадвае могілкі. Хаця, на мой погляд, калі б ужыць ня слова «помнік», а слова «арка» (трыюмфальная, да прыкладу), мог бы атрымацца самы сапраўдны Трыюмфальны Аркуш. Але што мусіць сымбалізаваць зьмест гэтага аркуша?

Слова, Сказ, Абзац, Страфа, ці Бібліятэка? Можа, гэта мусіць быць помнік невядомаму бібліятэкару ці архіварыюсу, які перахаваў асуджаныя на зьнішчэньне беларускія Тэксты? А можа, звычайнаму вясковаму дзядку, які распавядаў «гарадзкому» ўнуку казкі свайго дзяцінства?

Тады прагучала прапазыцыя аб ушанаваньні «змагароў за беларускую мову». Ідэя прысутным спадабалася, а я закруціў перад вачыма шалёнае кола магчымых сымбаляў: аўтамат, чарніліцу, сэрца, ізноў язык, пасьля мозг... сякеру, вілы... аж урэшце з думкай пра будучыню вярнуўся да фаласа. Кола замкнулася. А дыскусія зьвярнулася да пошуку постацяў, якія маглі б сымбалізаваць чын змаганьня за мову...

Чаму Анатоль Сыс, які зьявіўся ў залі ў момант найбольшага накалу жарсьцяў, ня можа быць сымбалем, які шукалі? Паміж жыцьцём і «змаганьнем за жыцьцё»... Блазен, скіраваны на самаразбурэньне, які сваім зьяўленьнем выклікае ці то сьмешкі, ці то грымаскі, брунатна-брутальна-брудны Сыс падарыў публіцы свой новы чысты верш.

Але вялося аб мове. Дакладней, аб помніку. Вядома, можна на кожным узгорку паставіць ці чарніліцу, гэтак сама як паэту — пляшку. Але ж...

Змагацца за мову дзеля сябе, ці за сябе дзеля мовы?

Сярод сяброў клюбу «Спадчына» багата асобаў, для якіх гэтыя пытаньні ніколі не стаялі. Гэтыя людзі зрабілі сваю справу, і робяць яе зараз. Што да абрысаў будучага помніка, мы іх даведаемся зь верша. Якога — залежыць ад мяжы, якая для нас аддзяляе Жыцьцё ад усяго астатняга.

**Севярын Кваткоўскі**

***

ўсім мірам падтрымлівае жыцьцёвыя сілы галоўнага змагара за Бацькаўшчыну. Пра тэлефонныя рахункі перамоваў з усім Сусьветам лепш увогуле не гаварыць. «Адным словам, Захад нам з радасьцю дапаможа па вяртаньні Зянона Станіслававіча на Радзіму», — аптымістычна скончыў прамоўца. Напэўна ўсе, у тым ліку й я, у сэрцы пажадалі Пазьняку найхутчэйшага вяртаньня.

Пасьля ўсе даведаліся, што рада БНР жыве, абнаўляецца й яе ўплыў расьцякаецца па плянэце. Эўропу курыруе спадар Навумчык. СНГ дасталося спадару Нюньку зь Вільні. «А Пазьняку трэба было б даць Афрыку. Так і падзялілі б увесь шарык», — адкамэнтаваў мой сусед.

Затым пачалося самае цікавае — абмеркаваньне помніка Мове. Найбольшую ўвагу прысутных прыцягнулі два праекты. Першы ўяўляў сабою вялізную чарніліцу з устаўленым пяром. Калі ўявіць масштаб чарніліцы 1 да 200, то пяро ператваралася ў вялізную стэлу на пастамэнце. Я чамусьці згадаў, як адзін мой знаёмы ўсялякую воданапорную вежу называў помнікам Гранаце. Другі праект быў больш клясычны. Жанчына (маці Беларусь) трымала на руках дзяўчынку (Мову) перадаючы ёй пяро (неўміручасьць нашага пісьменства). На пастамэнце ж павінны быць барэльефы змагароў за матчыну мову. Абодва праекты настолькі спадабаліся прысутным, што вырашана было «Маці» усталяваць у Менску, а «Чарніліцу» падараваць Полацку. Зь дзяржаўным фінансаваньнем, як высьветлілася, таксама праблемаў быць не павінна. Як кажуць, хто хавае, той і заказвае надмагільле.

Але падчас самага разгару дыскусіі зьявіўся той, хто павінен быў зьявіцца. Адсутнасьць каго, прынамсі мне, не давала спакою. Адным словам, прыйшоў Анатоль Сыс. І прапанаваў мне бутэльку піва. Я ня здолеў адмовіць. На што мой сусед дакарыў мяне: «Вы ж журналіст». Пасьля Сыс прапанаваў усім працягнуць дыскусію ў ягонай хаце. А паколькі ахвочых, акрамя мяне й суседа, не знайшлося, то далейшая хада паседжаньня клюбу «Спадчына» мне невядомая.

**Зьміцер Бартосік**

# НЕ СТРАСАЎ

не рэвалюцыйнага кіно. Для іх галоўны заклік фільма — скончыць з грамадзянскаю вайной, з клясаваю барацьбой, а ўвесь фільм зьняты дзеля фінала, калі гарматы апускаюцца з абодвух бакоў. Яшчэ яны разумелі, што такі фільм мог зьявіцца толькі ў непрацяглы час НЭПу. Але такая трактоўка ў тыя гады не праходзіла.

Карціну «Генэральная лінія» трактаваць дваяка было ўжо складана... Эйзенштэйн паехаў здымаць фільм на вёску. Ён не ўяўляў, як актор перадасьць стан селяніна, немагчыма нават было прыдумаць і тое, што адбывалася ў гэты час на сяле. Усё дзялілася напалам: уцалелы скот, бядняцкі інвэнтар, хаты. Рэжысэр зьняў гэты перадзел. Зьняў як расьпілоўваюць хаты, але яму не паверылі. Гэты фільм шмат разоў пераасэнсоўваўся рэжысэрам, у адрозьненьне ад «Браняносца» (фільм зьняты за тры месяцы), ён доўга здымаўся. Для апраўданьня перад фінансістамі прыйшлося нават змантаваць гура-патрыятычны варыянт. У выніку Эйзенштэйн зьняў фільм не аб калектывізацыі, а аб каапэрацыі. Але замест назвы «Генэральная лінія» паставілі «Старое і новае», прапанаванае Сталіным і замянілі ў тытрах слова «арцель» на «колхоз». А неўзабаве фільм і зусім прыбралі з экранаў як «ідэалягічна памылковы».

У 30-м Эйзенштэйн зьехаў у Галівуд. Здавалася, на радзіме засталіся ўсе ідэалягічныя перашкоды. Ён марыў аб сустрэчы з Чаплінам, з амэрыканскім кіно, аб творчай свабодзе, гатовы быў зьдзяйсьняць чужыя праекты. Але неўзабаве кіраўнікі студыі «Парамаўнт» спалохаліся рэжысэра з Савецкага Саюзу. У ягоных сцэнарах бачыўся выклік амэрыканскаму грамадзтву, і ў лістападзе 1930 група Эйзенштэйна вымушаная была пакінуць Амэрыку й пераехаць у Мэксыку.

Гэтая краіна даўно цікавіла рэжысэра. Яшчэ ў юнацтве ён напісаў тэатральны сцэнар «Мэксыка». Амаль праз дзесяць гадоў ён вярнуўся да гэтае тэмы, вырашыўшы зьняць новую рэвалюцыйную карціну, але на чужым матэрыяле. Эйзенштэйн пісаў: «... гэта гісторыя зьменаў культуры, дадзеная не па вэртыкалі — у гадах і стагодзьдзях, а па гарызанталі — у парадку геаграфічнага сужыцьця разнастайнейшых стадыяў культуры побач, чым настолькі дзіўная Мэксыка... Аб нацыянальна аб'яднанай Мэксыцы, якая супрацьстаіць міжнародным інтрыгам, што намагаюцца расчляніць народ...» Але фінансавыя цяжкасьці, інтрыгі й бюракратычныя перашкоды не далі Эйзенштэйну скончыць фільм. Пазьней карціна тайна была змантаваная ананімным аўтарам.

Лічылася, што толькі экранны лёс «Аляксандра Неўскага» быў пасьпяховым. Але нядаўна высьветлілася, што й гэты фільм Сталін загадаў кінаначальству «прычасаць», каб нічога не замінала трактаваць «Неўскага» выключна як «вялікае патрыятычнае кіно». Гэта таксама было зроблена без удзелу Эйзенштэйна. Ня зьняў рэжысэр «Слова аб палку Ігаравым», няскончанымі засталіся «Бежын луг» і «Іван Грозны».

Пры жыцьці рэжысэра абвінавачвалі ў фармалізьме, у неразуменьні кіраўнічай ролі партыі, а праз паўстагодзьдзя ён стаў прыхільнікам Сталіна. Усе раптам забыліся на тое, што гісторыя Эйзенштэйна — не яго асабістая гісторыя. У ягоным лёсе было шмат пераўвасабленьняў, але ў адрозьненьне ад шмат каго, «увайшоўшы ў новае жыцьцё, ён выцер ногі, але праху з ног не страсаў». Ствараючы новае мастацтва, ён не развучыўся любіць старое.

**Алена Лукашэвіч**

ГІСТОРЫЯ

# ЧУЖАЗЕМЦЫ ПРА БЕЛАРУСЬ




Сучасная гістарычная навука ўсё больш засяроджваецца на суб'ектыўнай іпастасі мінулага, на тым, што людзі думалі і ўяўлялі. Бяз гэтага не зразумець матывы іх паводзінаў, а значыць — ня вытлумачыць галоўнага ў гісторыі. Бо суб'ектыўная рэчаіснасьць вызначала болей, чым аб'ектыўная. У гэтай сувязі найцікавейшай крыніцай мне ўяўляюцца асабістыя ўражаньні кожнага, чый голас для нас зьберагла гісторыя. У прыватнасьці — сьведчаньні небеларусаў пра Беларусь.

Запісы чужаземцаў часам зь незвычайнай дакладнасьцю фіксавалі адметнасьці нашай краіны. Як правіла, падарожнікі натавалі ня толькі ўласныя прыгоды і перажываньні, але ўсё, што чулі і бачылі тут, у невядомай ім зямлі, што кідалася ў вочы і ўражвала слых — гэта значыць тое, што розьнілася ад звыклага ім, эўрапейскага. Так у дзёньніку чужаземцаў траплялі зьвесткі пра людзей і іх звычаі, дарогі і транспарт, гарады і забудову, прыроду і клімат. А старадаўніх запісаў пра Беларусь, як высьвятляецца, вельмі многа, яшчэ нават не апрацаваных гісторыкамі, так што калісьці зь іх можа паўстаць надта цікавая кніга з назвай кшталту «Беларусь вачыма эўрапейцаў». Пакуль жа карціць падзяліцца такімі-сякімі паасобнымі знаходкамі. Каб чытач адчуў, што могуць распавесьці нам галасы сівой даўніны...

Ведама, найперш самыя людзі. Якімі былі нашыя прашчуры ў XVI — XVII ст.? Тут важна слухаць тых чужаземцаў, якія пажылі ў Беларусі, а ня проста праехалі праз яе. Дык вось яны часьцей характарызуюць мясцовых жыхароў зусім станоўча.

Зусім незнаёмыя беларусам манахі-бэрнардыны зьявіліся ў Полацку ў 1498 годзе — акурат перад цяжкімі войнамі. Айцец Ян Камароўскі пісаў, што ў тыя страшныя гады ўсе іх пабудовы «разы тры ці чатыры спальваліся масквічамі», таму — «хацелі ўжо айцы Ордэна пакінуць [Полацак], але дзеля народу хрысьціянскага і дзеля выратаваньня душаў засталіся, бо тут шмат тысячаў людзей розных станаў... паверылі ў Пана Ісуса Хрыста... І такая спрыяльная для здароўя была і ёсьць гэтая мясцовасьць, што браты [Ордэна] там рэдка паміралі; з часоў адкрыцьця філіі да 1514 г. ніводзін не памёр, за выняткам айца Банавэнтуры Ліцьвіна, ... забітага пад час аблогі масквічамі». Далей, паміж іншага, адзначаецца, што полацкія «дабрадзейныя людзі» забясьпечвалі бэрнардынаў «адзеньнем, начыньнем ды іншымі рознымі прыналежнасьцямі». І гэта ў Полацку, дзе, калі верыць старой гістарыяграфіі, мяшчане мусілі б ненавідзець каталікоў.

Нешта падобнае заўважылі чужаземныя настаўнікі пратэстанцкай гімназіі ў Слуцку, найперш, відаць, італьянскага паходжаньня, бо прозьвішчы іх — Адамі, Музоні... У статуце гімназіі, выдадзеным у 1628 годзе, яны адзначалі «адоранасьць жыхароў..., якая ні ў чым не саступае прыгажосьці і чароўнасьці самой мясцовасьці. Вельмі людзкае іх [тамтэйшых жыхароў. — **Г.С.**] стаўленьне да іншаземцаў..., і яны гатовыя ў кожны момант і ў кожным месцы прыйсьці на дапамогу як навучэнцам, так і настаўнікам» гімназіі. Зноў ніякай ксэнафобіі.

А вось цікавы голас падарожніка Ябэля Тэктандэра, сакратара пасольства Стэфана Какаша, накіраванага імпэратарам Рудольфам II у Пэрсію. У 1602 годзе паслы праехалі праз Горадню, Вільню, Менск і Воршу. На беларускіх землях эўрапейская місія нацярпелася вялікіх страхаў «з прычыны паўсюль шнырыўшых... найманых жаўнераў і казакоў» (цягнулася вайна са Швэцыяй. — **Г.С.**), а таксама ад чумы і неўладкаванасьці дарогаў. Ня раз даводзілася начаваць у лесе бязь ежы і вады. Але ці ня самыя адметныя ўражаньні засталіся ад Менску. Жыхары гэтага горада, запісаў аўтар мэмуараў, — «народ да таго буйны, злачынны і неўтаймаваны, што проста ня выказаць (гэта пра «ціхмянасьць» беларусаў. — **Г.С.**)! Тамтэйшы начальнік, ці стараста, загадаў распытаць нас, адкуль і куды кіруемся. Атрымаўшы адказ ад майго пана, што той пасол рымскага імпэратара да вялікага князя маскоўскага, ён пачаў сьмяяцца і зьдзекавацца з нас, гаворачы: Няўжо ж рымскі імпэратар ня можа мець за сябра каго-небудзь іншага, больш важнага ўладара, чымся Маскавіт!»

Наколькі ўражвала замежнікаў прырода, людзі, звычаі, настолькі ніклымі падаваліся тут умацаваньні. Пасол рымскага імпэратара Мікалай Варкоч у 1593 годзе пакінуў заўвагу пра нашыя муры, маўляў, тутэйшыя «будынкі і цьвердзі не да параўнаньня зь нямецкімі», і дзівіўся, што ўсё збудавана тут пераважна з дрэва. І пра Горадню сьведчылі тое ж, і нават пра Вільню немец Самуль Кіхель у 1586 годзе пісаў, што яна «па-дурному разбудаваная», «зусім слаба ўмацаваная, так што кожны ўначы можа выйсьці за горад», і што забудова галоўным чынам драўляная. Ёган Вундэрэр у 1589 годзе таксама заўважыў у сталіцы ВКЛ «паўсюль многа драўляных дамоў», толькі некаторыя мураваныя, з жалезнымі дзьвярыма.

Практычна ўсе заходнія падарожнікі ўражваліся нацыянальнай і канфэсійнай разнастайнасьцю нашага краю. Гэта ўспрымалася як дзіва. Згаданага Кіхеля моцна кранула ў Вільні, што там гэтак многа «рэлігіяў і сэктаў са сваімі храмамі і прылюдным культам», і што ўсе яны «карыстаюцца свабодай сумленьня, у чым тут ніхто нікому не замінае». На вёсках — «яшчэ многа забабонаў; як багам моляцца агню, лесу, зьмеям і зьвярам». Ёган Вундэрэр, апрача поліканфэсійнасьці, прыкмеціў у Вільні «шматлікасьць чужых нацыяў і рэдкіх касьцюмаў». Ён заўважыў таксама, што, з увагі на такое мноства чужынцаў, у сталіцы жыхары ўначы пільна ахоўваюць свой горад.

Незнаёмы край дзівіў заходняга чалавека прыродай. «Суцэльны лес цягнуўся шэсьць міляў (нямецкіх! — Г.С.), і нідзе не было ні хаты, ні прытулку», — пісаў уражаны Кіхель, едучы па Гарадзеншчыне. Вундэрэр адзначыў, што беларускія лясы сваімі «балотамі, пагоркамі, зарасьлямі і дзікім зьвяр'ём вельмі небясьпечныя». Вясковы люд наагул «працуе побач зь дзікімі зьвярамі». Асабліва шмат гаворыцца пра мядзьведзяў. Згаданы Ёган Вундэрэр аднатаваў, што жыхары нашага краю больш за ўсё любяць мядзьведзяў, «якіх вучаць гульням, танцам, фэхтаваньню, а таксама круціць жорны, чэрпаць ваду, лавіць рыбу і выконваць іншыя працы».

Часам спатыкаюцца зусім наіўныя запісы кшталту «А зайцы тут, як і ў Швэцыі ды іншых краінах, зімою зусім белыя!» Эўрапейцаў тады насьмяшылі мізэрныя кошты на прадукты харчаваньня, нізкая плата за паслугі, — прыкладам, за перавоз на далёкія адлегласьці. Зважаць трэба на суб'ектыўны фактар. Нават у Вільні для немцаў — нясмачная вада, благое піва, затое «вельмі добры піўны мёд, які вывозіцца далёка ў іншыя краіны».

Як успрымалася краіна і грамадзтва ўцэлым? Перасьцярогі і недавер да мясцовых людзей у запісах можна спаткаць выключна рэдка, ды й то ў дачыненьні да рамізьнікаў-татараў, якія ўяўляліся эўрапейцам зусім дзікім народам. Нейкай цывілізацыйнай мяжы не адчуваецца. Паўсюль, прынамсі ў гарадох, заходнія падарожнікі як «свае». У Горадні шваб Кіхель ходзіць на імшу ў храм, назірае за выездамі караля і вялікага князя Стэфана Баторага, разам зь іншым людам бяжыць на пажар у замак і наагул глядзіць усё, што яго цікавіць. У Вільні Вундэрэра адразу вядуць у рэзыдэнцыю гаспадара, паказваюць усё ў замку. Гэтаксама зь іншымі замежнымі гасьцямі.

Усё пазнаецца ў параўнаньні. Тыя ж немцы, зьдзіўленыя чымсьці ў Беларусі, у Маскоўскім царстве занатавалі іншыя ўражаньні. Што тычыцца народу і ладу, то запісанае імі там выразна кантрастуе са свабодай, адкрытасьцю грамадзтва, якія яны засьведчылі ў Вялікім Княстве. Мікалай Варкоч, што праз Беларусь кіраваўся на Маскву, тут нідзе не сутыкаўся з праблемамі, але, каб трапіць у падуладны маскоўскаму цару Смаленск, мусіў спыніцца далёка ад горада і спачатку заявіць пра сябе ваяводу, потым два дні стаяць там у чаканьні адказу. Улады тым часам да эўрапейскіх гасьцей «прыставілі приставаў, ... прыслалі піва і гарэлкі». Калі Самуль Кіхель пасьля Горадні і Вільні праз Рыгу заехаў у Пскоў, дык быў шакаваны тым, зь якой падазронасьцю да яго ставілася тамтэйшае насельніцтва. Без афіцыйнай патрэбы і дазволу нікога з замежнікаў у горад проста не прапускалі. І аўтар вядомых гістарычных трактатаў пра Масковію Павал Одэрборн сьцьвярджаў тады, што ў гэтай краіне чужаземцаў сапраўды не пускаюць за гарадзкую браму, а П.Кампані, які ў 1581 годзе наведаў Маскву, запісаў вось што: «Ні паслам, ні купцам іншых народаў, прыехаўшым у Масковію з царскага дазволу, не дазваляецца вольны праезд па ўсёй краіне, і пакуль яны знаходзяцца ў Маскве, іх утрым0ліваюць быццам пад ганаровым арыштам. Прызначаюцца адмысловыя людзі, якія сочаць, што яны робяць і з кім размаўляюць».

**Генадзь Сагановіч**

# Дэмаграфічны погляд

*з нагоды выхаду кнігі*

20 сьнежня 1997 году прэзыдэнт РБ Аляксандар Лукашэнка з нагоды 80-х угодкаў утварэньня бальшавіцкай карнай сыстэмы зьвярнуўся зь віншаваньнем да яе вэтэранаў і да КГБ Беларусі. Усе фразы гэтага дакумэнта настолькі характарыстычныя, што мы рызыкнем прывесьці даўгую цытату:

«За восем дзесяцігодзьдзяў зьмянілася не адно пакаленьне нашых суачыньнікаў, якія прысьвяцілі сябе нялёгкай службе ў органах бясьпекі. Сваім беззаветным служэньнем Айчыне як у мірны час, так і ў гады ваенных выпрабаваньняў яны ўпісалі яркія старонкі ў гераічную гісторыю нашай дзяржавы. Ня раз мяняліся назва і структура органаў дзяржаўнае бясьпекі, але на ўсіх этапах сваёй дзейнасьці яны заставаліся важнейшым дзяржаўным інструмэнтам, які забясьпечвае бясьпеку краіны.

Былі ў гісторыі органаў бясьпекі былога СССР і вядомыя трагічныя старонкі, зьвязаныя з рэпрэсіямі. Гэта выклікае горыч і боль у нашых сэрцах. Аднак у Беларусі яны ня мелі такі масавы характар і спэкуляцыі на гэтым пэўных палітычных сілаў, а таксама спробы ачарніць і дыскрэдытаваць цяперашняе пакаленьне супрацоўнікаў органаў дзяржбясьпекі беспэрспэктыўныя й ніколі ня знойдуць падтрымкі ў беларускага народа».

Апошнія сем гадоў я не перастаю зьдзіўляцца, чаму КГБ РБ так упарта чапляецца за сваю крываўую спадчыну й зусім не спрабуе нават вонкава распачаць сваю новую традыцыю ад абвяшчэньня незалежнасьці Рэспублікі Беларусі, ад сымбалічнай цырымоніі прысягі ў пераднавагодні дні 1992 году, якую правёў тагачасны галава дзяржавы Станіслаў Шушкевіч. Ну ды гэта іхны выбар. Мы ж у любым выпадку вымушаныя канстатаваць, што сутнасьці не зьмяняюцца. Яшчэ так мала вядома грамадзкасьці пра ролю КГБ у прэзыдэнцкіх выбарах 1994 году, яшчэ амаль нічога не абнародавана пра «партнэрства» з ФСБ. Навідавоку толькі сучасны перасьлед з боку КГБ беларускіх літаратараў, праваабаронцаў і прафсаюзных дзеячоў. Запамінальная старонка гісторыі сучаснасьці — леташняя кампанія КГБ па ўшанаваньню памяці Фэлікса Дзяржынскага. Але ў звароце Аляксандра Лукашэнкі заяўлена іншае — новае ідэалягічнае апраўданьне масавых рэпрэсіяў праз штучнае зьмяншэньне іх маштабаў; перанясеньне тэмы рэпрэсіяў у сучасны палітычны кантэкст і спроба будаваць на гэтым новую савецкую апалягетыку.

Аналізуючы тэму масавых рэпрэсіяў пэрыяду 1917-1953 гадоў, часам прыходзіцца задавацца пытаньнем — чаму тэрор быў такім усеахопным, чаму ахвярамі камуністычнага рэжыму станавіліся ня толькі яговыя яўныя ворагі, але й ляяльныя да ўладаў грамадзяне. Сапраўдныя маштабы карнай дзейнасьці бальшавікоў ня высьветленыя да канца і дакладная лічба ахвяраў не вядомая ў тым ліку й таму, што колькасьць гэтых ахвяраў велізарная. Паводле «мінімальных ацэнак, якія патрабуюць далейшага ўдакладненьня», як сказана ў апошнім эўрапейскім бэстсэлеры «Чорная кніга камунізму. Злачынствы, тэрор, рэпрэсіі», у СССР непасрэднымі ахвярамі сталіся 20 мільёнаў чалавек. У такім разе, пра тэму масавых рэпрэсіяў варта разважаць у дэмаграфічных катэгорыях, бо мы маем справу з грандыёзным прымусовым рухам народанасельніцтва.

Можна сьцьвярджаць, што ў Беларусі тэрор скіроўваўся супраць канкрэтных сацыяльных альбо нацыянальных групаў насельніцтва. Большасьць гэтых групаў ва ўмовах Беларусі адначасова былі і нацыянальнымі, і сацыяльнымі групамі. Менавіта такімі былі сяляне (у абсалютнай большасьці сваёй — беларусы) і беларуская інтэлігенцыя. Рэпрэсаваныя пасьля 1939 году асаднікі былі пераважна палякамі. Паводле нацыянальных прыкметаў падпадалі пад рэпрэсіі палякі і латышы. Паводле сацыяльнай ролі і значнасьці ліквідоўваліся цэлыя сацыяльныя страты — прадпрымальнікі, сьвятарства, лясьнічыя. Арышты паводле нацыянальных і сацыяльных прыкметаў праводзіліся лінейна, доказам віны была толькі прыналежнасьць да той ці іншай групы.



*Канвэер сьмерці: Дакумэнты. Сьведчаньні. Успаміны / Укладальнік і аўтар камэнтароў Ігар Кузьняцоў. — Менск: Наша Ніва, 1997. — 366 с. (Архіў Найноўшае Гісторыі) ISBN 985-6374-04-9*

Пад час камуністычнай дыктатуры (у пэрыяд да 1953 году) было рэпрэсавана 238 беларускіх літаратараў, жывымі зь лягераў вярнуліся толькі 20 чалавек. Толькі на травень 1930 году ў БССР было раскулачана 15.626 сялянскіх гаспадарак — каля паловы іх агульнай колькасьці (ацэнкі Тацяны Процькі). Паводле ацэначных зьвестак у Беларусі ў 20-40-я гады было раскулачана ня менш за 350 тысячаў чалавек, а за контаррэвалюцыйныя злачынствы ў 1935-1940 было прыцягнута да крымінальнай адказнасьці больш за 300 тысячаў чалавек (зьвесткі Ігара Кузьняцова).

Выразная прыкмета рэпрэсіяў — гэта іхная плянавасьць і скаардынаванасьць. У толькі што выдадзеным Архівам Найноўшае Гісторыі і «Нашай Нівай» зборніку дакумэнтаў «Канвэер сьмерці», падрыхтаваным Ігарам Кузьняцовым, прыводзіцца ўнікальны дакумэнт — Апэратыўны загад народнага камісара ўнутраных справаў СССР №00447 «Аб апэрацыі па рэпрэсаваньні былых кулакоў, крымінальнікаў і інш. антысавецкіх элемэнтаў» ад 30 ліпеня 1937 году (дакумэнт у зборніку №16). Гэтым загадам была зацьверджаная колькасьць тых, хто падлягае рэпрэсіям. Па БССР пад першую катэгорыю рэпрэсіяў падпадала 2.000 чалавек, пад другую катэгорыю — 10.000 чалавек. Лёс гэтых людзей быў ужо вызначаны: «Да першай катэгорыі належаць усе найбольш варожыя зь пералічаных вышэй элемэнтаў. Яны падпадаюць неадкладнаму арышту і, пасьля разгляду справы на тройках — РАССТРЭЛУ... Да другой катэгорыі належаць усе астатнія менш актыўныя, але ж варожыя элемэнты. Яны падпадаюць арышту і зняволеньню ў лягеры на тэрмін ад 8 да 10 гадоў... Зьмяншэньне лічбаў... не дазваляецца». Нават колькасьць расстрэльных справаў вызначалася на канкрэтны пэрыяд загадзя.

Ствараючы свой зборнік, Ігар Кузьняцоў засяродзіўся на інструмэнтальным аспэкце тэмы, на прыкладах сыстэмы тэрору. Але «Канвэер сьмерці» стаўся першай беларускай кнігай у гэтай тэме, якая зь Беларусі разглядае глябальную пэрспэктыву, бо дае ўяўленьне пра асноўныя прынцыпы функцыянаваньня машыны рэпрэсіяў па ўсім СССР. Гэтая кніга таксама зьяўляецца ілюстрацыяй да каланіяльнай палітыкі супраць Беларусі, паказваючы, як загады пра карныя акцыі сыходзілі з мэтраполіі.

Мы можам назваць яшчэ адзін спосаб плянаваньня рэпрэсіяў —гэта сыстэматычныя палітычныя кампаніі. У Беларусі яркія прыклады такіх кампаніяў зьвязаныя з пастановай ЦК ВКП(б) «Аб рабоце ЦК КП(б)Беларусі» (студзень 1947), пасьля якой рэпрэсіі зноў скіраваліся супраць беларускіх літаратараў, а таксама разгляд бюро ЦК КП(б)Б пытаньня «Аб мерапрыемствах па ўкараненьню мічурынскай аграбіялёгіі ў БССР» (14 верасьня 1948), пасьля чаго пачаўся разгром навукі ў Беларусі.

Калі зьвесьці прыклады масавых рэпрэсіяў да відаў практыкі, то пад час аналізу мы будзем мець справу зь дзейнасьцю, накіраванай на зьнішчэньне цалкам альбо часткова якой-небудзь нацыянальнай, сацыяльнай альбо рэлігійнай групы, у тым ліку забойства прадстаўнікоў такой групы; нанясеньне ім цяжкіх цялесных пашкоджаньняў; наўмыснае стварэньне невыносных для жыцьця ўмоваў, разьлічанае на поўнае альбо частковае зьнішчэньне; прымусовую перадачу дзяцей з адной чалавечай групы ў іншую (дзіцячыя дамы, высяленьні ў Сібір); эксплюатацыя працы прадстаўнікоў групы, выкарыстаньне іх прымусовай працы; перасьлед арганізацыяў і асобаў за выступы супраць дыскрымінацыйнай палітыкі. У сфэры нацыянальнай і культурнай мы бачым дзеяньні, накіраваныя на зьнішчэньне мовы (і — моваў), рэлігіі, культуры нацыянальных і рэлігійных групаў, у тым ліку абмежаваньні карыстацца роднаю моваю ў сыстэме адукацыі і ў сфэры друку; зьнішчэньне помнікаў, бібліятэкаў, музэяў, культавых аб'ектаў.

Сыстэма названых дзеяньняў трапляе пад характарыстыкі міжнароднай Канвэнцыі 1948 году «Пра прадухіленьне злачынства генацыду і пакараньні за яго», дзе юрыдычна вызначаецца як генацыд. Такім чынам, у агульнай тэорыі народанасельніцтва той прымусовы рух народанасельніцтва, а гэта значыць, зьмена тых ці іншых колькасных і якасных характарыстыкаў народанасельніцтва, які адбываўся ў пэрыяд камуністычнага панаваньня ў Беларусі, вызначаецца як ГЕНАЦЫД.

Уся гэтая палітыка была накіраваная супраць полімоўнага і поліэтнічнага грамадзтва Беларусі, найперш — супраць беларускай нацыі, у адносінах да якой уладамі СССР праводзілася палітыка ЭТНАЦЫДУ.

**Алег Дзярновіч**

# Не хапае паветра

З такімі кнігамі, як «Канвэер сьмерці» можна хадзіць на дэманстрацыі. На дэманстрацыі сьляпых, глухіх і крыклівых, што працягваюць адзначаць угодкі «Вялікага акцыбра», ускладаць кветкі да помнікаў «вечна жывому» і вечна «жалезнаму».

Як у любой дакумэнтальнай кнізе, галоўнае ў «Канвэеры сьмерці» — дакумэнты. Пастановы бальшавіцкага ўраду, вытрымкі з крымінальных кодэксаў, інструкцыі, лісты, апэратыўныя загады ЧК-АГПУ-НКВД-КГБ, пратаколы допытаў, тэлеграмы з асабістага фонду Сталіна, даносы «наседак» — турэмных асьведамляльнікаў, цытаты з рэзалюцыяў палітбюро... Многія тэксты друкуюцца ўпершыню — гэта плён працы Ігара Кузьняцова ў расейскіх архівах. На цяперашняй стадыі дасьледаваньня камуністычнага таталітарызму ўвядзеньне ва ўжытак новых дакумэнтаў безумоўна пераважае магчымыя мінусы выпадковасьці. Апроч таго, усьвядомленая фрагмэнтарнасьць можа быць плюсам, пра што сьведчыць і «Канвэер сьмерці».

Праблемна-храналягічная арганізацыя матэрыялу дазволіла кампактна і ёміста прадставіць палітыка-праватую падмуркі рэпрэсіяў, паказаць мэханізм гвалту ў дзеяньні. Гэтая частка сканчаецца маленькім апатэозам подласьці і цынізму: старшыня КГБ Семісчасны ў самым канцы 1962 году зьвяртаецца ў ЦК КПСС з прапановай скарэктаваць парадак, паводле якога КГБ фальсыфікаваў даты і прычыны сьмерці сваіх ахвяраў (на працягу 10 гадоў пасьля арышту, звычайна ад унутраных хваробаў). Прычыны — апублікаваныя ў друку з дазволу ўладаў сапраўдныя даты расстрэлаў некаторых вядомых бальшавікоў ставяць органы ў няёмкае становішча; апроч таго, колькасьць запытаў пра лёс ахвяраў усё роўна рэзка скарацілася. Семісчасны тактоўна прапануе не бярэдзіць раны і не гаварыць нічога новага тым, каму раней схлусілі. Па-ранейшаму ілгаць прапануецца і ў адказах на запыты з-за мяжы...

Лягічным працягам першых двух разьдзелаў стала архіўна-сьледчая справа ўраджэнца Шчучына Мірона Глобуса — яе бязьлітасная канкрэтыка ўражвае драматызмам і безвыходнасьцю. Трынаццаць старонак лягерных успамінаў магілеўчаніна Дзьмітрыя Аліна — ці ня самае эмацыйнае месца кнігі. Адмаўляесься верыць, што такое можна перажыць. І што можна жыць пасьля такога. І ня ведаеш, як жыць, калі таксама жывуць каты Аліна.

Кніга «Канвэер сьмерці» прымушае задумацца над агульнай для сучаснай беларускай гістарыяграфіі праблемай — суадносінамі і ўзаемадзеяньнем уласна-беларускага і агульнаімпэрскага матэрыялу. На жаль, мэтадалягічны досьвед суседзяў (Прыбалтыкі, Украіны) ва ўмовах ненармальнага развіцця айчыннай гістарычнай навукі малапрыдатны: не хапае паветра, не стае маштабу, не адчуваецца прапорцыяў. Адсюль няроўнасьць тэкстаў, другаснасьць ацэнак, банальнасьць пэрспэктывы. Кожны дасьледчык як бы кожны раз пачынае спачатку. Зь іншага боку, вельмі шмат дзе і трэба пачынаць спачатку.

У гаворцы пра 20-50-я гады ў кнізе даволі часта ў шырокім значэньні ўжываецца паняцьце «сталінізм». Гэта прапагандысцкі тэрмін, які камуністы прыдумалі пасьля сьмерці правадыра для сваёй абароны. Бязь Леніна не было б Сталіна; ВКП(б) магла завесьці толькі ў ГУЛАГ, чэкізм ёсьць вышэйшай ступеньню камунізму. У гэтай сувязі падаецца некарэктным і сьцьвярджэньне, быццам «Ф.Дзяржынскі быў рашучым праціўнікам сьмяротнага пакараньня». Сказана — па справах пазнаеце іх, а не па словах. «Рашучыя праціўнікі» не ўваходзяць у ЦК партыі і ўрад, якія патапілі краіну ў крыві. Любы юнак-баптыст, які адмаўляецца ўзяць зброю ў рукі і ідзе ў турму, куды больш рашучы абаронца жыцьця, чым галоўны ленінскі карнік.

Пакуль, відаць, не прыйшоў час для вывучэньня такой пэрыфэрыйнай праблемы, як мова таталітарызму — мы яшчэ не разабраліся з ахвярамі і катамі. Заўважу толькі, што мова сама сталася ахвяраю: архіўныя дакумэнты такога кшталту, як у «Канвэеры сьмерці», чытаць аднолькава цяжка і па-беларуску, і па-расейску, і панямецку, і па-польску. У адрозьненьне ад іншых «прафэсійных моваў» (вайсковай, навуковай, мэдыцынскай і д т.п.), таталітарны канцылярыт тупа-невыразны, сынтаксычна грувасткі, фізыялягічна прыгнятальны. У пэўным сэнсе, гэта мова-кат — яна б'е па галаве. Зьмярцвелай мовы, верагодна, вымагае сама задача — сьмерць, якая ёсьць галоўным прадуктам таталітарызму.

Кнігу завяршае мартыралёг — больш за 1500 прозьвішчаў ахвяраў зь Беларусі, рэпрэсаваных у Сібіры. Першы падобны сьпіс беларускіх ахвяраў, больш за 1600 жыхароў Вялейшчыны, асуджаных перад самай вайной, быў надрукаваны ў 1992 годзе. (Адамушка, Іванова. «Памілуйце...», выданьне Дзяржкамархіву). Зараз падобныя рэгіянальныя сьпісы пацíху друкуюцца ў кнігах сэрыі «Памяць». Аднак ні лякальныя выданьні, ні выпадковыя газэтныя публікацыі ня ў стане замяніць агульна-нацыянальны мартыралёг.

Яговая адсутнасьць — як ірваная рана народнай памяці. Магчыма, пабачыўшы ў сьпісе ахвяраў прозьвішча сваяка ці знаёмага, аднавяскоўца, удзельнікі нялюдзкіх дэманстрацыяў і самагубных рэфэрэндумаў хоць на хвіліну задумаюцца, што яны рыхтуюць сваім дзецям.

**Аляксандар Лукашук**

# Зборнік замест манаграфіі

*Черепица В. Польское национальное движение в Белоруссии (последняя треть XIX века): факты — события — комментарии. — Гродно, 1996. — 142 с.*

Зьяўленьне на беларускім кніжным рынку працы, якая прысьвечаная польскаму нацыянальнаму руху ў Беларусі, прыцягнула да сябе ўвагу. Яе аўтар — загадчык катэдры гісторыі славянскіх дзяржаваў, прафэсар Гарадзенскага ўнівэрсытэту, досыць папулярны сярод студэнцтва.

У анатацыі кніга пазначаная як манаграфія, хоць на самой справе гэта зборнік архіўных дакумэнтаў, якія суправаджаюцца камэнтарамі ўкладальніка. На падставе прадмовы можна сьцьвярджаць, што аўтар імкнуўся раскрыць характар польскага нацыянальнага руху ў Беларусі ды кіраваўся жаданьнем «показать всю сложность процесса поиска исторической правды... и осознанием величайшей роли исторического факта как «упрямой вещи в познании деяний давно минувших лет» (с.4).

Што ж атрымалася ў выніку?

Зьвернем спачатку ўвагу на апублікаваныя дакумэнты. Усяго ў зборніку, у адпаведнасьці з загалоўкамі, зьмешчана 138 дакумэнтаў. Зь іх 87 з Нацыянальнага гістарычнага архіву ў Горадні (у адпаведнасьці са спасылкамі — 129 дакумэнтаў!?).

У першым разьдзеле («Польское национальное движение в Белоруссии после поражения восстания 1863 г.») мы можам пазнаёміцца толькі з 7 тэкстамі. Усе яны паходзяць з расейскіх дзяржаўных установаў і датычаць ня столькі польскага нацыянальнага руху, колькі палітыкі царызму ў «польскім пытаньні». У другім разьдзеле («Попытки оживления польского национального движения в 1866-1868 г.») зьмешчаныя 43 дакумэнты. І зноў усе яны паходзяць з расейскіх дзяржаўных установаў. Характарыстыка польскага руху ў іх даецца з гледзішча дзяржаўнага чыноўніка. Некаторыя дакумэнты (с. 14, 32) наогул не датычаць азначанай праблемы. У трэцім разьдзеле («Активизация польского национального движения в Белорусии в 1870-1871 г.») укладальнік апублікаваў 25 дакумэнтаў, зь якіх толькі адзін мае «польскае» паходжаньне. Ён складаецца з трох праклямацыяў, якія трапілі ў рукі паліцыі яшчэ ў 1867 годзе. Некаторыя дакумэнты (с.52, 54, 55) ня маюць ніякага дачыненьня да польскага руху ў Беларусі. І ў наступным разьдзеле («Подъем польского общественного движения в Белоруссии в 1875-1878 гг.») толькі адзін дакумэнт (з 49-ці) можна ахарактарызаваць як дакумэнт польскага руху. Астатнія складзеныя расейскімі чыноўнікамі. Апошні разьдзел («Польское национальное движение в Белоруссии в 80-90-ые годы XIX века») зьмяшчае 14 дакумэнтаў. І зноў толькі адзін зь іх паходзіць з асяродкаў польскага руху*. 10 дакумэнтаў апошняга разьдзелу датычаць толькі праблемы тайнага навучаньня.

Аднабаковы падбор матэрыялаў зьдзіўляе. Праўда, укладальнік у прадмове згадвае пра гэтую аднабаковасьць. Але чытачу, які жадае атрымаць уяўленьне пра польскі нацыянальны рух у Беларусі, ад гэтага лягчэй не становіцца. Лягічным было б агаварыць гэтую аднабаковасьць у назьве зборніка і зрабіць яе менш прэтэнцыёзнай. Мекраваць пра польскі нацыянальны рух другой паловы XIX ст. толькі на падставе матэрыялаў расейскіх дзяржаўных установаў, якія змагаліся супраць польскай прысутнасьці ў беларуска-літоўскім краі і ажыцьцяўлялі палітыку русіфікацыі Беларусі, — прыблізна тое ж самае, што вывучаць гісторыю беларускай культуры 20-30-х гадоў XX ст. толькі па дакумэнтах польскіх рэпрэсіўных органаў.

Матэрыялы зборніка нараджаюць пытаньне: што разумее аўтар пад гістарычным фактам, пра веліч якога гаворыць у прадмове. Безумоўна, мы маем права лічыць гістарычным фактам кожную паперу, напісаную расейскім чыноўнікам апошняй трэці XIX ст. Аднак ці магчыма раскрыць навуковую тэму з дапамогай толькі такіх крыніцаў? Большасьць айчынных і замежных дасьледчыкаў ужо даўно прынялі дзьвюхступенную клясыфікацыю гістарычнага факта. Яшчэ ў 1969 г. маскоўскі гісторык Арон Гурэвіч падкрэсьліў розьніцу паміж рэальнасьцю мінулага ды фактам як прадметам навукі. Апошні, на ягоную думку, ня проста дакумэнт, знойдзены ў архіве, а засёды вынік пэўных навуковых апэрацыяў. Толькі тады, калі гісторык ацэніць «рэальнасьць мінулага» і ўключыць яе ў сыстэму заканамерных сувязяў, народзіцца гістарычны факт, які будзе мець навуковую значнасьць. Іншы вядомы расейскі гісторык М.Барг вылучаў «факт гісторыі» і «навукова-гістарычны факт», падкрэсьліваючы значнасьць апошняга. Гэтая клясыфікацыя ў значнай ступені грунтавалася на працах эўрапейскіх гісторыкаў, у прыватнасьці, Л.Голдстайна. Ангельскі гісторык пераканаўча даводзіў, што гістарычны факт нараджаецца толькі ў выніку навуковага дасьледаваньня.

Прыкладам «гісторыі», якую можна напісаць, калі ігнараваць адзначаныя палажэньні мэтадалёгіі навукі, зьяўляецца тэза пра падрыхтоўку польскага паўстаньня ў другой палове 60-х гадоў. В.Чарапіца на падставе афіцыйных данясеньняў сьцьвярджае, што «идея возможности восстания стала заявлять о своем существовании демонстрациями, пением революционных гимнов, а также частыми находками при обысках у помещиков шарфов и чемарок, ношением на груди черных крестов и других эмблематических изображений» (с.41). Між тым добра вядома, што ў другой палове 60-х гадоў у грамадзтве Беларусі, Літвы і Польшчы панавалі настроі расчараваньня й апатыі. Толькі ў данясеньнях расейскіх жандараў, якія імкнуліся выслужыцца, магла прысутнічаць ідэя падрыхтоўкі чарговага паўстаньня.

Падкрэсьліваючы ў прадмове ўпартасьць гістарычнага факта, укладальнік прэтэндуе на навуковую аб'ектыўнасьць сваёй працы. На справе атрымліваецца іншае. Пры знаёмстве са зьместам зборніка міжволі згадваюцца словы францускага гісторыка Марка Блока, які сьцьвярджаў, што хлусьня з дапамогай гістарычных фактаў — адзін з самых гнюсных відаў хлусьні.

Апублікаваныя матэрыялы ствараюць у чытача ўражаньне, што польскі нацыянальны рух — гэта распаўсюджваньне чутак, якія ганьбілі праваслаўную веру і імпэратарскую ўладу, засылка ў Беларусь польскіх эміграцкіх агентаў, збор грашовых сродкаў сярод насельніцтва, падрыхтоўка чарговага паўстаньня, размова па-польску ў публічным месцы, выхад з касьцёла ў час сьвяточнага набажэнства ў гонар царскай сям'і, нашэньне шпілек з польскім арлом і г. д. Няўжо гэта і ёсьць нацыянальны рух? Здаецца, што ўкладальнік і сам не разумее, пра што ідзе гаворка. Ні ў прадмове, ні ў камэнтарах ён нават не спрабуе растлумачыць, што разумее пад «польским национальным движением» у дачыненьні да Беларусі апошняй трэці XIX ст. У назьве чацьвертага разьдзелу ўкладальнік наогул ужыў тэрмін «польское общественное движение», і зноў жа не патлумачыў, чаму гэта зроблена.

Між тым, ёсьць усе падставы сьцвярджаць, што польскі нацыянальны рух у Беларусі й Літве ў апошняй чвэрці XIX ст. — гэта грамадзка-палітычная, эканамічная і культурна-рэлігійная дзейнасьць польскай грамадзкасьці, накіраваная на барацьбу з антыпольскай палітыкай ураду. Палякі імкнуліся захаваць і ўмацаваць дамінуючыя пазыцыі ў эканоміцы краю, ягоным грамадзка-палітычным і культурным жыцьці. Якраз гэтыя накірункі іх дзейнасьці й павінны быць галоўным аб'ектам увагі гісторыка, які спрабуе ахарактарызаваць польскі нацыянальны рух у Беларусі.

Але тэрміналягічная цьмянасьць і блытаніна зборніка не ідзе ні ў якое параўнаньне з узроўнем археаграфічнай апрацоўкі матэрыялаў. Тое, як прафэсар В.Чарапіца публікуе архіўныя дакумэнты, выклікае спачатку зьдзіўленьне, а потым абурэньне. Досыць часта замест дакумэнта ўкладальнік друкуе пераказ некалькіх старонак архіўнага тэксту (глядзі с. 5-7, 8-9, 19, 22-23, 24, 25, 30 і г.д.). Скарачэньні не пазначаюцца купюрамі. А ў шэрагу выпадкаў (с. 31 і інш.) апошні абзац «дакумэнту» ўяўляе сабой сфармуляваную прафэсарам ідэю часткі архіўнага тэксту. Такім чынам, на с. 5-7 укладальнік пераказаў 97 старонак тэксту, на с. 36 — 39, на с. 77 — 25, на с. 83 — 40, на с. 96-97 — 64, на с. 115-119 — 175, на с. 119-121 — 155 і інш. Усё гэта не патрабуе камэнтароў.

Неахайна аформлены й спасылачны матэрыял. Абрэвіятуры назваў архіўных установаў патрабуюць удакладненьня. Гэта датычыць Расейскага дзяржаўнага гістарычнага архіву (у зборніку —«ГИАРФ»), Нацыянальнага гістарычнага архіву Рэспублікі Беларусь ў Менску (у зборніку — «НАРБ (Менск)») і ў Горадні (у зборніку — «НАРБ (Горадня)»).

Можна было б спадзявацца, што азначаныя недахопы зборніка будуць хаця б часткова кампэнсаваныя камэнтарамі ўкладальніка. На жаль, гэтага не адбылося. Часта камэнтары або не датычаць тых дакумэнтаў, пасьля якіх яны зьмешчаныя (разьдзел 1, разьдзел 5 (с. 98-109)), або зьяўляюцца простым пераказам зьместу надрукаваных архіўных крыніцаў (разьдзел 2).

Некаторыя тэзы камэнтароў патрабуюць дадатковага тлумачэньня. На с. 61 пры характарыстыцы ідэалёгіі і практычнай дзейнасьці прадстаўнікоў так званага «варшаўскага пазытывізму» прафэсар сьцьвярджае, што яны «проповедовали отказ от национально-освободительной борьбы». Гэта зусім ня так. І А.Сьвентахоўскі, і Г.Сянкевіч і іншыя ідэолягі пазытывізму заставаліся польскімі патрыётамі. Яны толькі больш рэалістычна глядзелі на пэрспэктывы радыкальных формаў барацьбы. Эпоха пазытывізму спрыяла пашырэньню польскай нацыянальнай сьвядомасьці. Невыпадкова якраз у гэты час (70-80-я гады XIX ст.) фактычна аднаўляецца польскі рух у Беларусі й Літве. У другой палове 70-х гадоў узьнікла Менскае губэрнскае сельскагаспадарчае таварыства, якое вельмі хутка ператварылася ў таварыства польскіх землеўладальнікаў. Пазьней былі створаныя аналягічныя таварыствы ў Горадні, Віцебску і Магілёве. На жаль, пра гэтыя арганізацыі, якія адыгрывалі прыкметную ролю ў польскім руху ў Беларусі, у зборніку няма ні слова.

Характарызуючы польскую эміграцыю апошняй трэці XIX ст., укладальнік нават ня згадвае пра ўплывовы польскі нацыянальна-дэмакратычны рух, на чале якога стаяў Раман Дмоўскі.

Памылак і недарэчнасьцяў было б значна менш, калі б, пачынаючы працу над зборнікам, укладальнік выкарыстаў падставовае патрабаваньне да кожнага навукова-га дасьледаваньня — грунтоўна пазнаёміўся з гістарыяграфіяй праблемы. Сьпіс, названы «Кароткай бібліяграфіяй», сьведчыць пра тое, што прафэсар В.Чарапіца ня выкарыстаў ніводнай гістарычнай працы апошняга дзесяцігодзьдзя, прысьвечанай польскаму руху. Між тым, нельга выдаваць кнігу з назвай «Польское национальное движение...», ня ведаючы прац Яна Юркевіча, Юліюша Бардаха, Генрыка Верашыцкага, Анджэя Садоўскага, Пятра Вандыча і праігнараваўшы дасьледаваньне Аляксандра Цьвікевіча («Западно-руссизм». Нарысы з гісторыі грамадзкай думкі на Беларусі ў XIX ст. і пачатку XX ст.»). Ігнараваньне ўкладальнікам працы А.Цьвікевіча не зьяўляецца выпадковым. У некаторых сьцьверджаньнях прафэсара моцна адчуваецца дух неўміручага ў Беларусі «западно-руссизма».

На с. 4 укладальнік адзначыў: «В польском обличье общественного движения тех лет сегодня уже значительно лучше, чем раньше, видятся политические устремления той отнюдь не большей части общества, которая сформировалась под влиянием польской и униатско-католической культуры, но тем не менее по-прежнему претендует на роль выразительницы чаяний нации». Як усё гэта нагадвае заявы Лукі Саланевіча й ягоных сяброў па чарнасоценных арганізацыях пачатку XX ст., што ўвесь беларускі нацыянальны рух — гэта толькі «польская интрига».

У сваіх камэнтарах прафэсар справядліва ўжыў тэрмін «усходнія крэсы» ў двухкосьсі (с.12). Затое паняцьце «Северо-Западный край» выкарыстоўваецца ўжо без двухкосься. Ягоная правамоцнасьць у дачыненьні да Беларусі, відаць, не выклікае сумненьняў у прафэсара.

Вядомы польскі дасьледчык Ежы Тапольскі пісаў, што гісторык павінен адрозьнівацца адкрытасьцю й разам з тым глыбокім скептыцызмам, ён нікому ня можа верыць на слова. Ягоны абавязак — усё праверыць і на кожнай стадыі дасьледаваньня імкнуцца нэўтралізаваць свае пазанавуковыя погляды. Здаецца, што прафэсар В.Чарапіца, рыхтуючы да друку зборнік, кіраваўся якраз пазанавуковымі інтарэсамі.

Археаграфічная неахайнасьць працы (аднабаковы падбор дакумэнтаў, недакладная перадача тэксту), тэрміналягічная блытаніна, недарэчнасьці, цьмянасьць асобных абзацаў камэнтароў, ігнараваньне сучаснай беларускай і польскай гістарыяграфіі па праблеме польскага руху ў Беларусі, спалучэньне ідэалёгіі заходняга русізму з падкрэсьленай павагай толькі да дзеячоў рэвалюцыйна-дэмакратычнага руху і сацыялістычнага накірунку не дазваляе карыстацца гэтым зборнікам у навуковых дасьледаваньнях. Зборнік В.Чарапіцы служыць толькі дыскрэдытацыі беларускай гістарычнай навукі.

**Алесь Смалянчук, Горадня**

*«Польскае» паходжаньне гэтых дакумэнтаў не відавочнае. Магчыма, што іх аўтары працавалі на расейскую паліцыю, і зьяўленьне «польскіх праклямацыяў» і іншых падобных дакумэнтаў было звычанай паліцэйскай правакацыяй. Прынамсі, зьмест некаторых «праклямацыяў» (с. 97-98) выглядае як правакацыя.

### КНІЖНАЯ АКЦЫЯ «НАШАЙ НІВЫ»

Сябры Рады БНР і прадстаўнікі беларускай дыяспары фундавалі акцыю «Нашай Нівы» — рассылку ва ўсе ўнівэрсытэты Беларусі й асобна на ўсе філялягічныя факультэты па камплекту кніжак, галоўным чынам з сэрыі Архіву Найноўшае Гісторыі. Гэта такія кнігі:

Гарт. З успамінаў пра Саюз Беларускіх патрыётаў (Глыбокае, Паставы. 1945-1947 г.)

Аляксандар Лукашук. Філістовіч. Вяртаньне нацыяналіста

Аляксандар Лукашук. «За кіпучай чэкісцкай работай»: З жыцьця катаў

Да кніжнага камплекту быў дададзены ліст такога зьместу:

«Шаноўнае спадарства!

Кніга ў хаце — радасьць усім. З найлепшымі пажаданьнямі для выкладчыкаў і студэнтаў прыміце наш першы падарунак у Новым годзе — беларускія кнігі, выдадзеныя Гуманітарным Фондам «Наша Ніва». Няхай праўда нацыянальнай гісторыі дапаможа вам у выпрабаваньнях новага году. Шчасьця вам і свабоды ў незалежнай Беларусі!

З павагай

сябры Рады Беларускай Народнай Рэспублікі Янка Жучка (Бэльгія), Ларыса Урбан, Паўлюк Урбан (Нямеччына)

Аляксандар Лявончык, музыкант, Галіна Руднік, журналіст, Дзьмітры Чайкоўскі, мастак (Нямеччына)

Беларускі Гуманітарны Фонд «Наша Ніва» (Беларусь)»

Мы спадзяемся, што гэтыя кнігі знойдуць уважлівага й зацікаўленага чытача.

*A.Dz.*

# Зь нябыту

*Анатоль Белы. Любіць Радзіму — шанаваць родную мову, кніга-альбом з мастацкага збору Анатоля Белага. — Менск: Выдавецтва клюбу «Спадчына», 1997*

На чорна-белых рэпрадукцыях — 151 твор 38 беларускіх мастакоў. Жывапіс, графіка, плякат, ужытковае мастацтва. Плён пэрыяду ад пачатку 80-х да сярэдзіны 90-х гадоў. Свайго кшталту рэтраспэктыўны шэраг, які дэманструе разьвіцьцё вобразу беларушчыны ва ўяўленьні вядомых мастакоў.

Магчыма, ёсьць пэўная рацыя ў тым, што прадстаўленыя творы ня маюць спэцыяльнага мастацтвазнаўчага камэнтару і разьмешчаныя ў досыць эклектычным парадку. Можа, менавіта так выглядае больш просты шлях да таго, каб «сумесна выяўленчымі й літаратурнымі сродкамі далучыць да праблемы мовы яшчэ каго-небудзь зь беларусаў», як піша ў прадмове да выданьня Анатоль Белы.

Я думаю, ці можа сёньняшні падлетак падзяліць адчуваньні сваіх аднагодкаў 1983 году, калі яны ўпершыню пабачылі плякат Уладзімера Крукоўскага «У бітвах за волю, у бітвах за долю»? На плякаце — зусім не рахманая й не памяркоўная Маці-Беларусь трымае меч, а ейныя грудзі абараняе кальчуга. Праца была зробленая у самы «махровы» пэрыяд «разьвітога сацыялізму», але дагэтуль хвалюе тым самым, што і ў пачатку 80-х хваляваньнем. Бо такі вобраз застаецца для беларусаў нечаканым, бо, па вялікім рахунку, у дачыненьні да вобразу Беларусі нічога не зьмянілася навокал.

Сярод герояў твораў у кнізе-альбоме — гістарычныя асобы, якія спрычыніліся да разьвіцьця нашае мовы, літаратуры й філязофскае думкі, а таксама тыя, хто паспрыяў зьяўленьню гэтых асобаў у нашым часе зь нябыту няведаньня.

**Севярын Квяткоўскі**

# Між пэрсамі і СССР

*A.Demandt. Das Ende der Weltreiche. Von den Persen bis zur Sowjetunion // München: Beck, 1997.*

(Канец сусьветных імпэрыяў. Ад пэрсаў да Савецкага Саюзу.)

СССР апынуўся ў адным шэрагу з імпэрыямі пэрсаў, рымлянаў, франкаў, гішпанцаў, туркаў, японцаў і брытанцаў.

Першае, што кідаецца ў вочы — параўнаньне 1917-га й 1991 году — для аўтара што развал імпэрыі Расейскай, што развал Савецкай — якая маці, такая й дачка.

Бальшавікі здолелі ў 1917-м годзе ўтрымаць імпэрыю ў амаль што старых межах (згубілі Польшчу, Фінляндыю, Балтыку, Бесарабію — але не надоўга, і ўся іх далейшая палітыка ставіла мэтай зноў набыць гэтыя тэрыторыі — у такім кантэксьце зразумелымі становяцца і фінская вайна, і пакт Молатава-Рыбэнтропа — не якія там-небудзь стратэгічныя захады да передухіленьня вайны — але аднаўленьне імпэрыі!), але прайгралі ў 1991-м. І галоўную ролю ў гэтай паразе выканалі нацыянальныя (не расейскі!) вызвольныя рухі. Пасьля першай сусьветнай вайны яны былі яшчэ досыць слабымі, але за 70 гадоў савецкага панаваньня набралі моц.

Бальшавікі да 30-х гадоў пагулялі ў нацыянальнасьці, але потым адумаліся і ня толькі вынішчылі ўсе нацыянальныя эліты, але й дэпартавалі самыя «нацыянальна небясьпечныя» народы (як піша спадар Demandt — народы, якія былі «Pfahl im Fleisch» — як «чарвякі» жэрлі імпэрыю зьсярэдзіны) — чачэнцаў, інгушоў, etc. А нацыянальныя кадры замянілі расейцамі.

Але ў 50-я гады да ўлады ў так званых нацыянальных рэспубліках прыйшлі хоць і русіфікаваныя, але нацыянальныя эліты. І пачалі праводзіць спантанную палітыку, накіраваную на нацыянальныя інтарэсы. У некаторых рэспубліках гэта была нават не спантанная, а апантаная палітыка (Літва, Азэрбайджан, Казахстан). І гэткі «падпольны» працэс доўжыўся аж да сярэдзіны 80-х. Нацыянальныя рухі ўзмацняліся, нацыянальная сьвядомасьць расла, і яе першы вонкавы ўсплеск адбыўся ў 1986 годзе ў Казахстане, калі Гарбачоў адчуў небясьпечнасьць «нацыянальных» працэсаў і вырашыў замяніць вершаліну ўлады ў Казахстане — казаха Кунаева на расейца Колбіна. У адказ ён атрымаў першы нацыянальны студэнцкі супраціў у Алма-Аце, які прыйшлося «суцяшаць» зброяй. З гэтага моманту й пачаўся вонкавы распад (падспудны йшоў ужо 70 гадоў) Савецкай імпэрыі. Спачатку адваліліся кавалкі на Захадзе — бо тут — ва Ўсходняй Эўропе, балтыйскіх рэспубліках, Заходняй Украіне, Малдове — нацыянальныя рухі былі больш кансалідаванымі і да таго ж гэтыя рэспублікі СССР захапіў толькі за часамі другой сусьветнай вайны. Адначасова пачаліся выбухі на Каўказе — у Арменіі, Грузіі, Азэрбайджане, Ічкерыі, Інгушэціі, аўтар нават кажа пра падабенства з антыкаляніяльным рухам 50-х гадоў у Афрыцы.

Паміж студзенем 1989 году (Эстонія) і траўнем 1990-га (Туркменістан) усе рэспублікі прынялі законы аб дзяржаўных мовах і выключылі расейскія эліты з кіраўніцтва, а пасьля, пачынаючы з 1-га сакавіка 1990 (Літва) (і далей: 30-га сакавіка 1990 г. — Эстонія, 4-га траўня 1990 г. — Латвія, 23-га жніўня 1990 г. — Арменія, 14 ліпеня 1990 г. — Грузія... апошні — Казахстан, 16 сьнежня 1991 г.) абвясьцілі пра свой сувэрэнітэт — і гэта было канцом Савецкай імпэрыі.

З усяго сказанага дзьве высновы:

1. Савецкая імпэрыя распалася высілкамі нацыянальных вызвольных рухаў. Не было б іх — СССР трымаўся б і да сёньняшняга дня.

2. Гэткі вынік стаўся магчымым таму, што нацыянальныя рухі назапасілі энэргіі і моцы ад 1917 да 80-х гадоў.

Цяжка зразумець, чаму аўтар ні разу ня згадвае пра Беларусь (нават у месцы пра тэрыторыі, захопленыя СССР у часе другой сусьветнай вайны). Няўжо адно жаданьне павярнуць гісторыю назад з боку сучаснага рэжыму РБ так паўплывала на глябальныя канцэпцыі нямецкага дасьледчыка?

**Алесь Хацяновіч**

# КАЛЬВАРЫЙСКІЯ

*разьдзелы з кнігі*

Вялізная эстакада, вечны ўжо грукат цягнікоў пад ёю. На гэтым адрэзку дарогі сьветла і ўначы — пражэктары, ліхтары, фары машынаў насустрач... Вакол — асфальт. Так выглядае цяпер шлях па Кальварыйскай вуліцы да Кальварыйскіх могілак. Мы кіруемся па гэтай вуліцы сёньня, памятаючы, што ў 1855 г. туды ж і тым ж шляхам ехаў Уладыслаў Сыракомля — аўтар прыгожага нарыса «Менск. Беглы позірк на цяперашні стан Менску».

Тады рэаліі былі іншымі: «*Цудоўным маёвым вечарам паехалі мы агледзець гэты арыстакратычны менскі могільнік, разьмешчаны ў паўночна-заходнім баку, за тры вярсты ад гарадзкіх муроў. Ціяністая бярозавая алея рабіла мілейшым вечаровы халадок; выгляд буйной збажыны радаваў сэрца, і расчуленыя, але ня сумныя ехалі мы пабачыць месца вечнага супачынку. Спыніліся перад мураванаю брамаю, якая была чымсьці надмагільным помнікам, заслоненым густымі дрэвамі, з-пад якіх маляўніча выглядвалі таксама мураваныя помнікі*».

Крыху раней за Ўладыслава Сыракомлю, у 1852 г. падарожжа па сваім краі рабіў Павал Шпілеўскі. Менш эмацыйна, крыху пратакольна, але па-свойму рамантычна ў сваіх нарысах «Вандроўкі па Палесьсі і беларускім краі» ён адзначыў: «*Кальварыя... рыма-каталіцкія могілкі з каменным касьцёлам; вакол яе арэхавы лес, багаты на грыбы і розныя ягады*».

Сёньня нашая алея — гэта мачты ліхтарных слупоў. І могілкі, што былі «*тры вярсты ад гарадзкіх муроў*», апынуліся амаль у цэнтры мэгаполіса. Але тым мацнейшы кантраст. Раней шлях да Кальварыі быў падкрэсьлена ідылічны, аддалены ад рэаліяў. Цяпер сымбалічнае поле звузілася да акрэсьленай тэрыторыі могілак — вакол буяе жыцьцё. Ранейшая аддаленасьць ад горада, пагорак і назва — Кальварыя, ствараюць цэлую сыстэму атаесамленьняў. Лацінскае **calva** — чэрап, а **Calvariae locus** (месца чэрапа) — лацінскі адпаведнік старагабрайскай Галгофе — пагорку, на якім укрыжавалі Хрыста. Такім чынам: шлях, узгорак, Кальварыя — гэта і ёсьць Крыжовы шлях, апошні шлях.

На **Кальварыі** тэрміналягічнае падарожжа па Менску не сканчаецца. Побач пасаджаны яшчэ адзін сымбалічны тапонім — **Цівалі**. Такую ж назву мае каскад вадаспадаў вышынёю 160 мэтраў на рацэ Аньен, прытоку Цібра ў Цэнтральнай Італіі. Цівалі -- таксама італьянская назва старажытнарымскага Цібура, вядомага з IV ст. да нараджэньня Хрыстова горада побач з Рымам. Менавіта там імпэратар Андрыян і патрыцый Мэцэнат, чыё імя стала агульным, мелі свае вілы. У XVI ст. Піра д'Эстэ пабудаваў побач з старажытным Цібурам вілу, галоўная адметная рыса якой — выкарыстаньне ў ансамблі прыродных асаблівасьцяў, а ня гвалт над імі. Там быў разьбіты парк з каскаднаю сыстэмай фантанаў. Вось адкуль Цівалі -- ад вадаспадаў. Новую паркавую сымболіку потым актыўна выкарыстоўвалі. Заснаваны ў сярэдзіне XIX ст. у Капэнгагене першы парк масавага адпачынку атрымаў назву Цівалі. Гэткую ж назву меў і маёнтачак пад Менскам, побач з Кальварыяй. Рамантычныя прыхільнасьці ўладальніка і, пэўна, прыродныя асаблівасьці паўплывалі на выбар назвы. Вёска Цівалі праіснавала да наступу горада ў др. пал. XX ст. Сёньня захаваўся толькі пагорак Цівалі.

Што яшчэ важнае адносна назваў? Цібурскі шлях вёў у Рым. Уезд у Вечны горад, за мур Аўрэліяна і аквэдук Тэпулы быў праз Цібурскую (Цівалійскую) браму. Шлях у Менск з паўночнага захаду ішоў побач з Кальварыяй і Цівалі. Калі так, то знакі Кальварыі і Менску мусілі сустрэцца — Кальварыя павінна была апынуцца ў Менску, і сёньняшнія прысады зь ліхтарных слупоў таксама былі прадказаныя.

Стварылася зусім новая сытуацыя. У эўрапеідаў спрадвечны звычай — хаваць памерлых у месцах, адасобленых ад паселішчаў жывых. Пад падлогаю свайго дому хавалі продкаў, да прыкладу, мая — людзі зусім іншай цывілізацыі. Тое, што могілкі апынаюцца ў самым цэнтры горада, магло здарыцца толькі ў выніку зьменаў, якія перайначваюць абліччa ўсяго грамадзтва. Надыход урбаністычнай эры і быў такою зьменай.

* * *

Ёсьць яшчэ адзін горад беларускай і сярэдняэўрапейскай цывілізацыі, адзін з самых значных гарадоў гэтае культуры — Вільня, на паўночным ускрайку якой таксама была створаная Кальварыя. Кампазыцыйна й ідэйна віленская Кальварыя больш маштабная за менскую. Гэта не толькі ракальны касьцёл Сьв. Крыжа і могілкі побач зь ім, але таксама цэлая сыстэма капліччак, што раскіданы па навакольлі, некаторыя зь іх пабудаваныя на месцах крыніц. Бажніца разьмешчаная на самым высокім тут пагорку і падымацца да яе трэба па стромкай лесьвіцы — таксама мэтафара Галгофы.

Заснаваньне Кальварыйскага мэмарыяльнага ансамблю было зьвязанае з вызваленьнем у сярэдзіне XVII ст. сталіцы Вялікага Княства ад расейскіх акупацыйных войскаў. Біскуп Юры Белазор у знак удзячнасьці Богу за ацалелы горад загадаў закласьці ў маляўнічай мясцовасьці на поўнач ад Вільні сьвятыню, якая б сымбалізавала Боскія пакуты. Касьцёл быў асьвечаны ў гонар Сьв. Крыжа. Ажыцьцяўлялі ідэю біскупа Юрыя ўжо яго наступнікі. Найперш былі пабудаваны драўляны касьцёл. Разам з капліцамі яго перадалі мніхам-дамініканам. Будоўля мураванае сьвятыні і новых капліцаў была распачатая ў 1755 г. Найбольш моцнае ўражаньне ад віленскай Кальварыі — адчуваньне ўключанасьці яе ў прыроду, у пагоркавы ляндшафт Вільні. Юры Рэмэр, які прысьвяціў Вільні сваю кнігу, не схаваў хваляваньня, апісваючы гэтую мясьціну. Ён убачыў у Кальварыі ідэйна-мастацкую мадэль свайго вялікага горада: «Прырода, мастацтва, гісторыя, вера, усё зьяднанае, усё ўзятае ў цудоўныя рамы. Прырода мае тут роднасьць касьцёла, мастацтва зьяўляецца нібы жывым арганізмам прыроды, гісторыя лучыцца зь легендаю і вераю, прымушаючы падарожніка да сузіраньня». З цэнтру Вільні сюды вядзе вуліца Кальварыйская. Зрэшты, сама Кальварыя — частка больш шырокага абсягу — Віленскага Ерузаліму.

Пасьля выключэньня з тэрытарыяльна-прастаравага кантэксту Беларусі Вільні і віленскіх могілак на Росах і ў Ліпоўцы, Кальварыйскія могілкі ў Менску засталіся адным з найбольш значных у гісторыка-мэмарыяльным і культурным сэнсе нэкропаляў нашай краіны.

Менская Кальварыя апошнім часам стала прыцягваць больш увагі дасьледчыкаў і грамадзкасьці. У 1996 годзе ў Варшаве выйшла кніга, якая падае выбарачны сьпіс пахаваньняў — Rzymsko-katolicki cmentarz Kalwaryjski w Mińsku na Białorusi // Opracowali Tamara Czerniawska i Aleksander Jaroszewicz; Redakcja naukowa Ryszard Brykowski. Warszawa, 1996. Кажам выбарачны, бо для апісаньня была абраная менавіта цэнтральная, найбольш старажытная частка могілак; апроч таго, у апублікаваны сьпіс не былі ўключаныя многія ўжо паваенныя пахаваньні. Рэч у тым, што варшаўскі праект, паводле словаў рэдактара тому, скіраваны на «інвэнтарызацыю польскіх магілаў», а сама кніга Rzymsko-katolicki cmentarz Kalwaryjski распачала «выдавецкую сэрыю Цэнтру аховы гістарычных ляндшафтаў, прысьвечаную польскім могілкам на даўніх Усходніх Крэсах Рэчы Паспалітай». Ва ўступе да кнігі каротка апісваецца гісторыя польскага школьніцтва й польскага грамадзкага жыцьця ў Менску.

Вось адна з ілюстрацыяў мадэлі выбарачнага аналізу культуры — калі фіксуецца толькі пэўны сэгмэнт кантэкстуальнай зьявы, калі адкідаецца матэрыял, што можа парушыць уяўны маналіт гісторыка-цывілізацыйнай канцэпцыі. Сама ж Кальварыя ў XX ст. ужо не была выключна каталіцкай. Шмат асобаў, пахаваных тут, зьвязаныя з гісторыяй культуры Беларусі, ужо ня кажучы пра сувязь з гісторыяй гэтай зямлі. Менавіта каля цэнтральнай Касьцельнай алеі Кальварыі пахаваны забіты ў 1943 годзе Вацлаў Іваноўскі — адзін з пачынальнікаў нацыянальнага адраджэньня ў XX ст. Тут таксама знаходзіцца магіла Яна Баляслава Луцкевіча «былога капітана расейскіх войскаў», бацькі Івана й Антона Луцкевічаў. Прыклады можна доўжыць. Асобная старонка гісторыі Кальварыі — пахаваньні там ахвяраў масавых бальшавіцкіх рэпрэсіяў.

Але падобна, што нам застаецца толькі прызнаць рознасьць канцэпцыяў нацыянальнай гісторыі — польская гістарыяграфія адбірае асобаў на тэрыторыі былога Вялікага Княства паводле канфэсійнае прыналежнасьці і шляхецтва, для беларускай гістарыяграфіі важная полімоўнасьць і поліканфэсійнасьць Беларусі.

Ужо другі год Архіў Найноўшае Гісторыі праводзіць фіксацыю і пашпартызацыю ўсіх пахаваньняў на Менскай Кальварыі. У канцы 1998 году мы спадзяемся выдаць двухтамовік, у якім будуць пададзеныя імёны ўсіх пахаваных на Кальварыі людзей, што будзе важным унёскам у нашую памяць і генэалёгію Беларусі. У нашае выданьне ўвойдзе таксама гістарычны нарыс пра Кальварыю, яе архітэктуру, а таксама вядомыя пра Кальварыю дакумэнты. Тут мы прэтэндуем на ахоп беларускага культурнага кантэксту, выяўленага праз гэтую дзіўную мэтафару — гістарычныя могілкі ў цэнтры горада.

Менская Кальварыя закранае й правакуе некалькі важных для сучаснага чалавека тэмаў: гісторыка-культурную, урбаністыкі, урэшце — тэму сьмерці. Апошняя тэма праз мэтамарфозы XX ст. замоўчвалася ў беларускай культуры як схільнасьць да нэкрафіліі, што асабліва заўважнае ў мастацкай літаратуры пра Другую сусьветную вайну і ў гістарыяграфічнай — пра XVII стагодзьдзе. Падобна, што сучасны гарадзкі чалавек атэістычнае Беларусі забываецца на абраднасьць падрыхтоўкі да сьмерці, на рытуальнае яе ўсьведамленьне. Гістарычныя могілкі могуць быць адным з тых культурных кодаў, якія дапамогуць нам адаптавацца да новых рэаліяў асабістасьці.

*Аўтар*



### ЗАСНАВАНЬНЕ МЕНСКАЙ КАЛЬВАРЫІ

Заснаваньне менскай Кальварыі не акрэсьліваецца канкрэтным годам. Праз тое і ўзьнікла легенда, якая сьцвярдзіць, што могілкам і касьцёлу — 600 гадоў.

Але захаваліся ўспаміны, што на ўзгорку каля дарогі на Ракаў, званым Сьвятым месцам, яшчэ ў канцы XVII і на пачатку XVIII ст. зьбіралася на набажэнствы каталікі Менску й ваколіцаў. У 1745 годзе ў Лідзе на капітуле кармэлітаў менскі канвэнт ордэна атрымаў дазвол на заснаваньне Кальварыі – мэмарыяльнага комплексу ў памяць пра пакуты. Магчыма, ужо тады быў збудаваны першы драўляны касьцёл. У 1800 годзе біскуп Якуб Ігнацы Дэдэрка перадаў касьцёл францішканам. Такія зьмены былі зьвязаныя з паступовым і пачарговым выцясненьнем расейскімі ўладамі розных каталіцкіх ордэнаў.

Уласна могілкі на Кальварыі былі заснаваныя ў канцы XVIII ст., калі за межамі горада закладаліся, у адпаведнасьці з канфэсіямі, тры нэкропалі: Старажоўскі на Пярэсьпе — праваслаўны, Кальварыйскі — рыма-каталіцкі, Залатагорскі, паводле да канца няспраўджаных зьвестак — грэка-каталіцкі.

У 1836 годзе менская шляхта дамагласяя дазволу на пабудову ў Кальварыі на месцы драўлянага касьцёлу — мураванага. Будавалі на сродкі мясцовых жыхароў, але галоўным фундатарам лічыцца Ганна з Абуховічаў Паўлікоўская. Новый касьцёл стаў ужо парафіяльным, гэта значыць, не належаў манаскаму закону, а групаваў вакол сябе парафію – касьцельную грамаду. У трыццатыя гады XIX ст. на Кальварыі адбыліся важныя архітэктурна-пляніровачныя зьмены, пача-



так якіх паклала пабудова муараванай брамы.

### БРАМА

Менскі шляхціц Юры Кабылінскі ў памяць аб сваёй жонцы фундаваў браму Кальварыі. Прынятыя ў такіх выпадках надпісы фундатара былі зробленыя тактоўна — на зьнешнім ад могілак баку. Пад магутным гзымсам з сухарыкамі як гасла ідуць польскія словы: «Вечны спачынак». Словы ўласнага жалю выказаны на ўнутраным баку: «Pamiątka męża i dzieci poswięcona Józefie Kobylińskiey, tu pogrzebioney. R —1830 września». Надпіс, які глядзіць у сьвет жывых, зьяўляецца хутчэй інфармацыйным; з боку мог-



ілак надпіс выглядае як эпітафія, паведамляючы таксама дату пабудовы брамы.

Самі Кабылінскія былі этнічнымі палякамі й паводле родавага паданьня з XV ст. паходзілі ад Якуба з Кабыліна, кашталяна гнезьненскага. Пазьней род шырока расьсяляўся па Вялікапольшчы й Падолкі. На Меншчыну Кабылінскія (Сэбасьцян з сынамі Язэпам, Юрыем — будучым фундатарам брамы, і Францішкам) перасяліліся толькі пасьля анэксіі Вялікага Княства Расеяй – ужо ня дзейнічалі нормы Статуту, якія абмяжоўвалі атрыманьне зямельнай маёмасьці й пасадаў у Вялікім Княстве Літоўскім замежнікамі. Кабылінскія глыбока пусьцілі карані ў Беларусі. Могілкі тут сталі нечаканай мэтафарай набыцьця новай зямлі й новай Радзімы.

Міхал Леапольд Гаўсман, які зімою 1854 г. дапамагаў Уладыславу Сыракомлю ў зборы матэрыялаў для ўжо цытаванай кнігі, у другой палове 70-х гадоў XIX ст. так апісваў свае пачуцьці: «*... цудоўная каменная брама, пабудаваная коштам былога шляхецкага сакратара Кабылінскага, уражвае кожнага сваёй грандыёзнасьцю і ляпной аздобаю*».

На тле аднастайнай і працяглай агароджы

# МОГІЛКІ Ў МЕНСКУ

могілак брама выглядае манумэнтальна. Яе стрыжнёвая архітэктурная ідэя — сымэтрыя. Па абодва бакі ад цэнтральнага паўцыркульнага праёму вымураваныя меншыя па памерах два бакавыя праёмы. Жалезныя, па-мастацку выкаваныя дзьверы падкрэсьліваюць праёмы. Гзымс падзяляе браму на два ярусы, ніжні зь якіх упрыгожаны рустоўкаю — своеасблівай імітацыяй у тынкоўцы апрацаваных каменных блёкаў. Верхні ярус брамы ўпрыгожаны ляпною геральдыкай, якая разьмешчаная над бакавымі праёмамі. Сымболіка ляпніны прысьвечаная тэме й культу сьмерці — труна, жалобныя штандары, чэрап. Такая літаральная трактоўка тэмы ідзе з ранейшых часоў, увогуле зь сярэднявечча, калі падобныя сюжэты адлюстроўваліся менавіта натуралістычна. На клясыстычнай Кальварыйскай браме элемэнты ляпніны выглядаюць як праявы драматычнага сьветаўспрыманьня чалавека пост-барочнай эпохі. Адначасова ляпніна з сымболікай сьмерці выконвала і ўласна інфармацыйную ролю — сьведчыла, што тут, ад гэтай брамы пачынаюцца могілкі.

Ансамбаль Кальварыі ўключае, акрамя брамы, таксама касьцёл з нэагатычнымі формамі і шэраг архітэктурных пабудоваў малых формаў. Стылістыка Кальварыйскай брамы закранае сутнасьць клясыстычнага стылю, гэтак неадназначнага для Беларусі.

* * *

Гістарычна архітэктура клясыцызму ў Беларусі ўвабрала ў сябе тры творчыя накірункі — мясцовыя традыцыі, заходне-эўрапейскую сыстэму ды расейскія ўплывы. У архітэктуры нашага краю клясыцызм пашырыўся досыць позна — з 1770-х гадоў, у той час як у заходнеэўрапейскім мастацтве ён ведамы з 70-х гадоў XVIII ст. Беларусь можна назваць краінаю барока — настолькі моцным і доўгатрывалым быў гэты стыль на нашых землях. Калі ў іншых краінах (Францыя, Нямеччына) барока ў XVIII ст. саступіла месца клясыцызму, дык у Беларусі клясыцызм яшчэ доўгі час суіснаваў разам з барока. Сутнасьць клясыцызму выявілася ў кананізацыі антычнай клясыкі, менавіта яна разглядалася як дасканалы ўзор для запазычаньня. Нарматыўныя эстэтычныя крытэры ўтвараліся з антычных прыкладаў, якія падлягалі ідэалізацыі. Падобныя абагульненні і тыпізацыі рабіліся без выяўленьня непаўторнаасаблівага, індывідуальнага. За вонкавай гармоніяй клясыцызму хаваецца палярызацыя прыроды і культуры, пачуцьцяў і розуму. Таму клясыцызм імкнецца згарманізаваць супярэчлівае быцьцё, падпарадкаваўшы яго «нязьменным» і «вечным» законам розуму і красы. Але тым самым выяўляецца валявы творчы пачатак, які арганізуе форму ў прасторы згодна з рацыяналістычнымі прынцыпамі разумнай мэтазгоднасьці і строгага парадку. Разьвіцьцё такіх зыходных прынцыпаў прывяло да валюнтарызму, нятворчага перайманьня антычных узораў, сухасьці, халоднасьці вобразаў, стандартызацыі архітэктурных прыёмаў. Гэта асабліва выявілася ў першай пал. XIX ст. — у пэрыяд занепаду клясыцызму.

У дачыненьні да гісторыі культуры Беларусі трэба ўлічваць адну важную акалічнасьць, гэтым разам палітычную — у канцы XVIII ст. Расея захоплівае беларускія землі. Сюды прыйшла дзяржава, у якой клясыцызм зьяўляўся афіцыйным стылем. Бюракратычны падыход і мэханістычнае разуменьне архітэктурнай справы, манархічны валюнтарызм, якіператварыў клясыцызм ва ўрадавы стыль, прывялі да зьбядненьня і стандартызацыі архітэктурна-мастацкіх прыёмаў, да жорсткай рэглямэнтацыі вобразу будынкаў. І ў цэлым эпоха клясыцызму ў беларускім дойлідстве супала з часам архітэктурна-мастацкага заняпаду.

* * *

Дык вось, стваральнік Кальварыйскай брамы паспрабаваў разарваць замкнёнае кола самаабмежаванасьці клясыцызму ў XIX ст. Была пабудаваная вельмі сумаштабная з асяродкам брама. Першыя сто гадоў свайго існаваньня ў прыродным атачэньні брама выглядала больш натуральна. Але й цяпер, калі гмахі падступіліся пад самыя могілкі, брама не згубілася сярод іх, набыла «новую» манумэнтальнасьць.

Дэкаратыўнае аздабленьне помніка не ўмяшчаецца ў каноны расейскага клясыцызму. Багатая рустоўка ў ніжняй частцы нагадвае пра мясцовыя традыцыі рэнэсансавай спадчыны эпохі Рэфармацыі (дастаткова ўзгадаць кальвінскі збор у Заслаўі). Рустоўка, між іншым, была папулярным сюжэтам у францускім клясыцызме XVII-XVIII ст., на які арыентаваўся малады клясыцызм Вялікага Княства.

Наўмысна падкрэсьленыя камяні цокаля таксама сьведчаць пра стылёвы сымбіёз на землях былога ВКЛ. Калі разам з Расеяй сюды прыйшоў і расейскі клясыцызм, дык гэта адбілася найперш на праектаваньні будынкаў. Архітэктар распрацоўваў фасады і пляны, якія зацьвярджаліся. А рэалізоўвалі праект менскія муляры, выгадаваныя на старых традыцыях. Цокальныя паверхі, да прыкладу, выкладаліся зь вялізных валуноў, паверхня якіх адмыслова зашліфоўвалася, а ў рошчыну дадаваліся каменьчыкі. Менск канца XVIII — XIX ст. захоўваў старажытныя сярэднявечныя традыцыі дойлідства.

Яшчэ адна праява мясцовых традыцыяў — ляпніна зь яе тэматычнай старажытнасьцю — перайшла на Кальварыйскую браму ад барока. У расейскім клясыцызме ляпніна па-за межамі Санкт-Пецярбургу выкарыстоўвалася досыць абмежавана, набор дэкаратыўных элемэнтаў быў даволі стандартным. Да таго ж ляпніна не была там такой пачуцьцёвай, як на Кальварыі.



Архітэктар — аўтар праекту Кальварыйскай брамы, быў чалавекам тутэйшага ўзгадаваньня і ў сваім творы зьвяртаўся да мясцовай архітэктурнай школы.

### КАСЬЦЁЛ

Каб патрапіць да касьцёла, трэба падняцца ад брамы на вяршыню пагорка — яшчэ адна сымбалічная лінія, узыходжаньне на Галгофу. Гэтую алегорыю падкрэсьліла асьвячэньне касьцёла ў гонар Узвышэньня Сьв. Крыжа.

У беларускіх энцыкляпэдыях найноўшага часу даецца вызначэньне Кальварыйскага касьцёла як помніка нэаготыкі. Але гэта досыць адназначная і павярхоўная трактоўка таго дзіўнага зьмяшэньня стыляў, што ствараюць вобраз помніка.

Першае ўражаньне ад касьцёлу робіць вежа, а менавіта на ёй сканцэнтраваныя псэўдагатычныя элемэнты: моцна па вэртыкалі выцягнутыя ваконныя праёмы са сьпічастымі завяршэньнямі, адно з такіх вокнаў над уваходнымі дзьвярыма пазначае стрэльчатасьць парталу; вежа, завершаная двухсхільным шатром, пры набліжэньні да яе па шляху ад брамы, узносіцца, імітуючы эмацыйнае ўзьдзеяньне готыкі. Але самая вежа гарызантальна падзеленая гзымсам, што разбурае гатычны малюнак стромкасьці. Ды яшчэ клясыстычныя сухарыкі пад гзымсам. Куты вежы і ўсяго касьцёла апрацаваныя пад руст. Мастацтвазнаўца Зянон Пазьняк заўважыў, што для готыкі вежа ўсё ж масіўная, яе двухсхіпнае завяршэньне, а таксама адносна малая ў параўнаньні з плоскасьцю сьцяны плошча вокнаў нагадваюць штосьці раманскае. Такім чынам, дэкор Кальварыйскага касьцёла ўяўляе сабою эклектыку з стылістычных элемэнтаў псэўдаготыкі, клясыцызму, нэараманікі. Ведаючы гісторыю гэтага помніка, можна меркаваць, што ў выніку перабудовы 1899 г. першапачатковы дэкор быў спрошчаны, але адначасова нэагатычныя рысы былі падкрэсьленыя, адпаведна з густамі часу.

Сама ж архітэктоніка Кальварыйскага касьцёла клясыстычная, што адчуваецца ў ордэрнай сыстэме, калі разумець ордэр шырока — як суадносіны і адпаведнасьць нясомых і нясучых частак будынка.

Што сапраўды важнае ў дачыненьні да псэўдагатычных элемэнтаў, дык гэта тое, што Кальварыйскі касьцёл стаўся першаю пабудовай у Менску, дзе былі ўжытыя рысы псэўдаготыкі.

* * *

У самым шырокім сэнсе гістарызм ахоплівае некалькі значных архітэктурных напрамкаў — найперш «нэастылі» (у тым ліку і нэаготыка) і эклектызм (спалучэньне разнастайных мастацкіх элемэнтаў, гістарычных формаў, стыляў, канструкцыяў у адной пабудове). Архітэктурныя формы фасадаў і інтэр'ераў эклектычных будынкаў характарызуюцца аплікатыўнай дэкаратыўнасьцю, стварэньнем архітэктурна-мастацкага канглямэрату рознастылёвых формаў, у залежнасьці ад прызначэньня будынкаў.

Існуе тэрміналягічная непаўнасьць адносна аднаго з асноўных напрамкаў гістарызму — нэаготыкі, што займае асобнае месца ў гісторыі беларускага мастацтва. Адбываецца атаесамленьне тэрмінаў *нэаготыка, псэўдаготыка, несапраўдная готыка*, яны памылкова ўспрымаюцца як абсалютныя сынонімы. Прапанаванае гісторыкам мастацтва С.Харэўскім разьмежаваньне тэрмінаў *псэўдаготыка* і *нэаготыка* дазваляе зразумець стылёвыя асаблівасьці Кальварыйскага касьцёла й месца гэтага помніка ў мастацкім працэсе Беларусі.

Рэч у тым, што псэўдаготыка (ці несапраўдная готыка) кан. XVIII - XIX ст. існавала ў межах стылёвых кірункаў клясыцызму і эклектызму. Яе роля была чыста дэкаратыўнаю, «гатычныя» элемэнты не знаходзіліся ў сыстэмнай цэльнасьці ні з канструкцыяй будынкаў, ні з унутраным іх убраньнем. Зьмяшэньне стылёвых элемэнтаў дэкаратыўнай готыкі з клясыцызмам ствярала неадпаведнасьць зьнешняга вобразу і ўнутранай пляніроўкі, сыстэмы канструкцыяў. Такія прыклады ў Беларусі досыць пашыраныя — палацава-паркавыя комплексы ў Косаве, Прылуках, Сьмілавічах, Шклове, Крычаве, касьцёлы ў Сар'і, Ракаве... З адыходам у сяр. XIX ст. клясыцызму асабліва ў культавай архітэктуры ўзмацняецца імкненьне да нацыянальнагістарычных прататыпаў. Псэўдаготыка др. пал. XIX ст. імкнецца да канкрэтнай гістарычнай стылізацыі, але зьвяртаецца да няпэўных прататыпаў. Псэўдагатычны выгляд атрымалі пратэстанцкія бажніцы (Горадня, Полацак), каталіцкія касьцёлы (Сьвятога Роха ў Менску), псэўдагатычныя элемэнты патрапілі ў аздабленьне праваслаўных храмаў (Слабада Мядзельскага і Барок Слуцкага раёнаў). У пач. XX ст. сытуацыя рэзка зьмянілася — эклектызм распаўся на зусім пэўныя стылёвыя кірункі: *«нэаготыку»* і шчыльна зьвязаную зь ёю нэараманіку; нэабарока; нэаклясыцызм. Тут вядзецца ўжо пра пэўную стылёвую еднасьць экстэр'еру і інтэр'еру, не пра адраджэньне готыкі ў сэнсе яе капіяваньня, але пра стварэньне цэльнай архітэктурна-мастацкай сыстэмы са значнымі кампіляцыямі некаторых канструктыўна-пластычных прыёмаў готыкі. Новая готыка суправаджалася эстэтызацыяй каркаснай канструкцыі, большым разуменьнем узаемасувязі паміж тэхналёгіяй і эстэтыкай, характэрным для найноўшай архітэктуры пачатку XX ст.

Нэаготыка здолела разьвіцца ў Беларусі толькі ў XX ст. — разам з павелічэньнем досьведу мясцовых архітэктараў, з эканамічным уздымам краю ды лібэралізацыяй рэлігійнай палітыкі ў Расейскай імпэрыі. Нэаготыка стала вядучым стылем у Беларусі пачатку XX ст. і паўплывала на станаўленьне стылю «мадэрн», а менавіта яго нацыянал-рамантычнага кірунку. Такім чынам разьвіцьцё «гатычнага» стылю ў Беларусі ў канцы XVIII — пачатку XX ст. можна зьвесьці да наступнай эвалюцыйнай схемы:

клясыцызм эклектыка мадэрн: нацыянал-рамантызм 10-30 гадоў XX ст.
|________|________||________________|
псэўдаготыка кан. XVIII-XIX ст. нэаготыка пач. XX ст.

Тыя асобныя «гатычныя» элемэнты Кальварыйскага касьцёла, якія так несыстэмна накінутыя на бажніцу, але, дзякуючы выгоднаму разьмяшчэньню, нібыта дамінуюць у архітэктурным сылуэце, зьяўляюцца псэўдагатычнымі, элемэнтамі несапраўднае готыкі. Кальварыйскі касьцёл у выніку — помнік эклектычнай архітэктуры з вырашэньнем асноўнага аб'ёму ў клясыстычнай ордэрнай сыстэме, з эклектычным дэкорам, які ўяўляе сабою суплёт псэўдагатычных і псэўдараманскіх дэталяў у рамантычным прачытаньні.

Раней меркавалася, што зьяўленьне псэўдаготыкі ды архітэктуры гістарызму ўвогуле адбылося ў выніку дэградацыі і выраджэньня клясыцызму. Паўторы і запазычаньні прыёмаў ужо прамінулых стыляў разглядаліся ў канцэпцыі эстэтычнай заканамернасьці як дэградацыя мастацкай зьявы. Але гістарызм сымбалізаваў узьнікненьне новага, прынцыпова апазыцыйнага клясыцызму ідэйна-мастацкага сьветапогляду. Гістарызм стаў знакам рамантычнага мэтаду, які зьвярнуўся да індывідуальнага, адмаўляючы касмапалітызм абагульненасьці, г. зн. адмаўляючы таксама клясыцызм. Рамантызм заканамерна зьвярнуўся да народнага мастацтва, да старажытнасьцяў, шукаючы повязь часоў і аргумэнты ў свабоднай творчасьці народа, у падзеях нацыянальнай гісторыі.

**Алег Дзярновіч**



## КАСЭТЫ – ПОШТАЙ

***На складзе БГФ "Наша Ніва" ёсьць касэты (кошт 42.000 + 7.000 БРБ)***

Ален. Нармалёк (1995)
Ален. Нармалёк 2 альбо Мафія (1996)
Вольга Акуліч.Трохкутнік
Вальжына Цярэшчанка (1991-1995)
Беларускія народныя казкі
Музычныя казкі (1996)
Бонда. Найлепшыя песьні
Данчык. Я ад вас далёка. Мы адной табе належым
Данчык. Мы яшчэ сустрэнемся.
Новае неба. Дзеці чорнага гораду (1991)
Новае неба. Сон у трамваі (1994)
Новае неба. Go home (1995)
Новае неба. Мая краіна (1996)
Крама. Хворы на рок-н-рол (1993)
Крама. Гэй, там, налівай! (1994)
Крама. Камэндант (1995)
Крама. Лепшыя песьні (1993-1995)
Мроя. Найлепшыя песьні з праграмаў 1988-1990
NRM. ŁaŁaŁaŁa (1995.)
NRM. Одзірыдзідзіна (1996)
Беларуская музычная літаратура (т.1-4)
Залаты фонд Беларускага рок-н-ролу (т.1-5) т.1. Бонда. Уліс. Рэй. Мясцовы час. Блізьняты (1986-1990) т.2. Бонда. Уліс. Мроя. Крама. Новае неба. Мясцовы час. Тутэйшыя хлопцы (1990-1993) т.3. Золотая середина. Отражение. Алексей Шедько & Доктор Моро. Гранит. Метро. Сузор'е. Зартипо (1986-1991) т.4. Палац. Уліс. Крама. Новае неба. Мроя (1992-1994) т.5. Зиндан. Why Not. Отражение. Инспектор. Торнадо. Флэт (1992-1994)
Рок па вакацыях-96 (НРМ. Уліс. Флэт. Торнадо. Крама. Рублёвая зона. Новае неба. А.Шадзько і А.Юшын)
Будзьце аптымістамі, рабіце дзетак (Новае неба. Ляпис Трубецкой. НРМ. Палац, 1996)
Беларускі джаз т.1. Рэнэсанс т.2. Ігар Сафонаў т.3. Яблычная гарбата. Пчаліны танец.
Беларуская гітарная музыка (1996)
Беларуская сымфанічная музыка (1996)
Яўген Паплаўскі. Творы (1996)
Лепшыя музычна-драматычныя творы радыёстанцыі «Беларуская маладзёжная» т.1. Чалавек, якому хацелася ўсяго (памяці Ф.Мэркуры) т.2. Лесьвіца ў нябёсы (фантазія па матывах Лед Зэпэлін, Робэрта Планта і Рычарда Баха) т.3. Танец поўні (прагулка са Стынгам)
Андрэй Мельнікаў. Успамін (1994-1995)
Андрэй Мельнікаў. Салам Саўкам (1993)
Андрэй Мельнікаў. Песьні выгнаньня (1991-1993)
Андрэй Мельнікаў. Камяні майго вогнішча (1994-1995)
Андрэй Мельнікаў. Да апошняга камісара (1995-1996)
Андрэй Мельнікаў. Гэта мы (1996)
Андрэй Мельнікаў. Шлях. 2 часткі (1996)
Уліс. Краіна доўгай белай хмары (1990)
Уліс. Чужаніца (1991)
Уліс. Танцы на даху (1993)
Уліс. Life-96
Уліс. Блуканьне (1996)
Мясцовы час. Наша ўскраіна (1991)
Віктар Шалкевіч. Смутны беларускі блюз (1996)
Палац (1995)
Песьні беларускіх бардаў (1992)
Рок супраць рэвалюцыяў (Новае неба. Зіндан. Уліс. Мроя. Крама, 1994)
Маладзёжныя хрысьціянскія сьпевы. Прыйдзі і праслаўляй (1996)
Ліцьвіны. Неба і зямля (1994)
Ліцьвіны. Пятае сакавіка (1996)
Зьміцер Бартосік. Да пабачэньня... (1996)
Уладзімер Клімовіч. Дзеці вятроў (1997)
Камэлот. У краіне талераў. (1995)
Эдуард Акулін. Мая Крывія. (1996)
Неруш (1997)
Ігар Палівода. «Максім» (1997
Новае неба. Выбранае. Песьні з альбомаў 1990-1996 г.
Уліс. Ратуйце вашыя душы. Песьні з альбомаў 1996 г.
NRM. Made in NRM. Песьні з альбомаў 1995-1996
KRIWI - праект фольк-мадэрн студыі «Палац»
Купалінка - Kupalinka. Folk-group.
Ліцьвіны. Галуб на чарэшні.
Песьнярок. Песьні «Песьняроў» у выкананьні «Крамы», NRM, «Троіцы», «Тарнада», «Пані Хіды», «Ляпис Трубецкого», «Нейродюбеля», Валіка Грышко.
Белы сон (Беласток, 1997)
Харошкі. Полацкі сшытак, традыцыйная музыка (1997)
Жыгімонт Ваза. Стан Галюцынацыі
Марыя Скуратовіч. Табе, Хрысьце!
Песьнярок. CD (170.000)
Кардон. Радыяцыя
Мроя. Дваццаць восьмая зорка
Небясьпечная Зона (Exhumator, Sarcastic Green, Barfly's Dreams, Gernunnos, God's Tower ды інш.)
Народны альбом: Супольны музычны праект (1997).
Made in Belarus: Беларускія застольныя песьні ў танцавальнай апрацоўцы (1997).
Сяржук Мінскевіч. Шляхі (1997).
Палац. Дарожка (1997).

**КОШТ КАСЭТАЎ 43.000 + 7.000 ПОШТА**
Gods Tower. The Eerie.
Gods Tower. Canticles.
Plastic Hardcore. Ultra.
Chemical Warfare. Demolition Tape.
Headcleaner. Hash. Hash. Resistance.
Insania Trivium. Candle of Fire.

**Касэты можна замовіць праз пошту: 220085 Менск, а/с 5, Віталь Супрановіч**

## БЕЛАРУСКІЯ МУЗЫЧНЫЯ НАВІНКІ:

1. Данчык. Беларусачка і іншыя песьні. — Recorded at A.M.S. Studio, USA.1974.BMA Productions. 1998.

2. Мясцовы Час. Падвойны альбом. Слота (1989). Мой Дом (1990). — Biełaruskaja Muzyčnaja Alternatyva (1998).

3. Deviation. Lukashenko... Uber Alles (1996). Кальян. У краіне цудаў (1997).

4. Deviation. [...] Таталітарызм ня пройдзе. BMA Prod. (1997).











## КНІГІ – ПОШТАЙ

**Каб замовіць патрэбную Вам кнігу, неабходна пазначаную суму плюс суму за перасылку праз пошту пералічыць на наступны рахунак:** БГФ «Наша Ніва» р/р 3015201930039 «Гарант» філія АКБ «Поіск» г. Менску, Код 987.

Не забудзьцеся на паштовай квітанцыі ў сэктары «Для пісьмовага паведамленьня» указаць назву кнігі й Ваш дакладны паштовы адрас і, калі ёсьць, тэлефон.

*Зьвяртацца можна праз пошту: 220085 Менск, а/с 5, Віталь Супрановіч.*

| № | Аўтар і назва | кошт | кошт перасылкі |
|---|---|---|---|
| 1 | Гарт. З успамінаў пра Саюз Беларускіх Патрыётаў. | 60.000 | 16.000 |
| 2 | А.Лукашук. Філістовіч. Вяртаньне нацыяналіста. | 28.000 | 12.000 |
| 3 | А.Цьвікевіч. «Западноруссизм». Нарысы з гісторыі грамадзкай мысьлі на Беларусі ў 19 і пачатку 20 в. | 40.000 | 16.000 |
| 4 | І.Абдзіраловіч. Адвечным шляхам. Дасьледзіны беларускага сьветапогляду. | 10.000 | 10.000 |
| 5 | Е.Ширяев. Русь Белая, Русь Чёрная и Литва в картах. | 40.000 | 12.000 |
| 6 | М.Говард. Сучасная культурная антрапалёгія. | 25.000 | 16.000 |
| 7 | У.Ла Бар. Асабістасьць з псыхалягічнага пункту гледжаньня. | 12.000 | 10.000 |
| 8 | Дж.Эйчысан. Гаваркія істоты. Уводзіны ў псыхалінгвістыку. | 10.000 | 12.000 |
| 9 | Што такое параўнальнае літаратуразнаўства. | 25.000 | 12.000 |
| 10 | Б.Фэйган. Уводзіны ў археалёгію. | 10.000 | 12.000 |
| 11 | Дж.Лоўзі. Гістарычныя ўводзіны ў філязофію навукі. | 20.000 | 12.000 |
| 12 | Ж.Дзюрасэль. Эўропа з 1815 году да нашых дзён. | 15.000 | 16.000 |
| 13 | Ф.Брэтон. Выбух камунікацыі. | 20.000 | 12.000 |
| 14 | Ж.Эрш. Філязофскае здумленьне. | 30.000 | 12.000 |
| 15 | Ш.Дэбаш. Уводзіны ў палітыку. | 30000 | 16.000 |
| 16 | К.Рын. Дэмакратыя і этычнае жыцьцё. | 25.000 | 10.000 |
| 17 | Дж.Бэрдшоў. Эканоміка. Ч1: Мікраэканоміка. Дапаможнік для студэнтаў. | 45.000 | 20.000 |
| 19 | Фрагмэнты (філязофіі, культуралёгіі, літаратуры) №2(97) | 40.000 | 20.000 |
| 20 | Крыўя. №1, 1994 | 45.000 | 12.000 |
| 21 | Крыўя. №1, 1996 | 55.000 | 12.000 |
| 22 | В.Кіпель. Беларусы ў ЗША. | 15.000 | 16.000 |
| 23 | М.Грыгор'еў. Войска ВКЛ ад Сасаў да Касьцюшкі. | 20.000 | 10.000 |
| 24 | Т.Сапач. Восень. | 10.000 | 6.000 |
| 25 | А.Глёбус. Толькі не гавары маёй маме. | 30.000 | 16.000 |
| 26 | А.Глёбус. Скрыжаваньне. | 10.000 | 6.000 |
| 27 | Э.Сміт. Нацыяналізм у дваццатым стагодзьдзі. | 15.000 | 12.000 |
| 28 | Беларускі вайсковы строй і зброя. | 20.000 | 6.000 |
| 29 | Беларускі рок-н-рол. | 10.000 | 6.000 |
| 30 | П.Бэрк. Рэнэсанс. | 25.000 | 12.000 |
| 31 | Ю.Штайнэр. Эўрапейскія дэмакратыі. | 25.000 | 20.000 |
| 32 | Ё.Тэрборн. Эўропа сёньня і заўтра(1945-2000). | 32.000 | 16.000 |
| 33 | А.Дэні. Гісторыя эканамічнай думкі. | 70.000 | 24.000 |
| 34 | Я.Найдзюк. Беларусь учора і сёньня. | 30.000 | 12.000 |
| 35 | В.Гапоненка. Іван Яркоўскі. У пошуках гармоніі сусьвету. | 10.000 | 6.000 |
| 36 | А.Ятусевіч. Слоўнік зоапаразіталагічных тэрмінаў. | 20.000 | 10.000 |
| 37 | Ніл Гілевіч. Любоў прасьветлая. | 35.000 | 12.000 |
| 38 | С.Станкевіч. Русіфікацыя беларускае мовы ў БССР і супраціў русіфікацыйнаму працэсу. | 10.000 | 6.000 |
| 39 | Г.Сяржаніна. Беларуская навуковая тэрміналёгія. Біялёгія. | 10.000 | 10.000 |
| 40 | Ніл Гілевіч. Талісман. | 15.000 | 10.000 |
| 41 | Я.Станкевіч. Маленькі МАСКОЎСКА-БЕЛАРУСКІ слоўнічак. | 10.000 | 6.000 |
| 42 | Л.Мірачыцкі. Сьветлым ценем Адама Міцкевіча. | 10.000 | 6.000 |
| 43 | Рэформа беларускага правапісу 1933 года. | 6.000 | 6.000 |
| 44 | Ул.Арлоў. Адкуль наш род. | 85.000 | 15.000 |
| 45 | Я.Запруднік. Беларусь на гістарычных скрыжаваньнях. | 55.000 | 16.000 |
| 46 | Новы Запавет. | 65.000 | 16.000 |
| 47 | Каралеўства Беларусь: Посткаляніяльная культура. | 105.000 | 15.000 |
| 48 | А Лукашук.«За кіпучай чэкісцкай работай» | 50.000 | 12.000 |
| 49 | Канвэер сьмерці | 240.000 | 20.000 |

**ДЗІЦЯЧАЯ КНІГА**

| | | | |
|---|---|---|---|
| 1 | Кася ў школцы. | 9.000 | 14.000 |
| 2 | Шарль Пэро. Чарадзейныя казкі. | 20.000 | 26.000 |
| 3 | Лагодны Цмок. | 15.000 | 21.000 |
| 4 | Гарасьо Кірога. Казкі трапічнага лесу. | 15.000 | 21.000 |
| 5 | Графіня дэ Сэгюр. Зачараваная хатка. | 20.000 | 26.000 |
| 6 | Марві Яла. Дзівосная Ноч. | 15.000 | 21.000 |

## НАВІНКА !

*Усеагульная дэкларацыя лінгвістычных правоў. — Менск: БГАКЦ, 1997.*

Пераклад і выданьне на беларускую мову Дэклярацыі ажыцьцёўленыя з ініцыятывы Беларускага ПЭН-цэнтру. Гэты дакумэнт зьяўвіўся ў выніку доўгіх развагаў інтэлектуалаў плянэты й грунтуецца на прынцыпе, што людзі ня могуць быць свабоднымі, калі ня створаныя ўмовы, якія дазваляюць ім карыстацца як іх грамадзянскімі і палітычнымі правамі, так і правамі культурнымі.

## НАВІНКА !




*Археалёгія Беларусі: У 4 т. Т. І: Каменны і бронзавы вякі / Э.Зайкоўскі, У.Ісаенка, А.Калечыц і інш.; Пад рэд. М.Чарняўскага, А.Калечыц. — Менск: Беларуская навука, 1997.*

«Археалёгія Беларусі» ёсьць падсумаваньнем амаль двухсотгадовага пэрыяду вывучэньня старажытнасьцяў краіны. Гэты том адсылае нас да вытокаў культураў старажытных балтаў і славянаў.

## НОВЫЯ КНІГІ І ПЭРЫЁДЫКІ, ДАСЛАНЫЯ Ў РЭДАКЦЫЮ

Беларускія летапісы і кронікі: Пер. са старажытнарускай, старабеларускай і польскай / Уклад. У.Арлова; прадмова В.Чамярыцкага. — Менск: Беларускі кнігазбор, 1997. — 432 с., іл. — Наклад 6000 ас. ISBN 985-6318-15-7

Давідовіч С. Горная кропля: Вершы, гумарэскі, паэмы. — Менск: Мастацкая літаратура, 1997. — 314 с. — Наклад 3000 ас. — ISBN 985-02-0466-4

Дуброўскі І. Гаснуць вулканы: Дак. раман. — Менск: Мастацкая літаратура, 1997. — 317 с. — Наклад 800 ас. ISBN 985-02-0449-4

Каардынацыйны Камітэт Беларусаў Канады. Камунікат №1 (23 ад 1991). Студзень, 1998.

Усеагульная Дэклярацыя лінгвістычных правоў. — Менск: Беларускі гуманітарны адукацыйна-культурны цэнтар, 1997. — 16 с. — Наклад 290 ас.

Belarusian Review. Quarterly Information Bulletin. Published by Belarusan-American Association, Inc. — Vol.9, No.4. Winter 1997/98. ISSN 1064-7716

Зеленкова И., Беляева Е. Этика: Навуч. дапаможнік і практыкум. — 2-е выд., выпр. і дап. — Менск: НТООО «Тетра-Системс», 1997. — 368 с. — Наклад 10000 ас. — ISBN 985-6317-35-5

История социологии: Навуч. дапаможнік / А.Елсукоў, Г.Сакалова, Т.Румянцава, А.Грыцанаў; Пад агульн. рэд. А.Елсукова і інш. — 2-е выд., перапрац. і дап. — Менск: Вышэйшая школа, 1997. — 381 с. — Наклад 10000 ас. ISBN 985-06-0270-8

Мартынов В. Мировая художественная культура: Навуч. дапаможнік. — Менск: НТООО «Тетрасистемс», 1997. — 320 с. — Наклад 7500 ас. ISBN 985-6317-28-2

Мельник В. Политология: Падручнік. — 2-е выд., перапрац. і дап. — Менск: Вышэйшая школа, 1997. — 495 с. — Наклад 8000 ас. ISBN 985-06-0323-2

Политология: Курс лекций / М.Дзенісюк, Т.Салавей, Л.Старавойтава і інш., 2-е выд., выпр. і дап. — Менск: НТООО «Тетрасистемс», 1997. — 384 с.— Наклад 10000 ас. ISBN 985-6317-37-1

Соколова Г. Экономическая социология: Навуч. дапаможнік для ВНУ. — Менск: Вышэйшая школа, 1998. — 368 с. ISBN 985-06-0392-9

# грамафон.

## Зьміцер Бартосік

НАШАНІЎСКАЯ ПАРА

То, што Вільня існуе я ведаў, і не за гарамі,
Але ў думках туды я ніколі ня крэсьліў маршрут.
Толькі ў час, калі грунту ня стала хапаць пад нагамі,
Выпадкова зусім брукаваны адчуў яе грунт.

І з жаданьнем ўвайшоў я у сераднявечныя нетры,
Што ніколі мяне ўжо ня выпусьціць іх лябірынт.
Дзе яшчэ не заціхлі крокі мэтраў
Тае нашаніўскае пары.

Я ў тым горадзе быў назаўжды ад паветра атручан,
Што было настаяна на самых шляхетных вяках.
Я той час змарнаваў як ня вельмі старацельны вучань.
Але, зрэшты, пасьпеў навучыцца пісаць па складох.

Адваротны багаж мой складаўся са сьвежай газэты.
Неўзабаве сталіцу чужую закрыла гара.
Ад'яжджаў я як сьведка, што ня рэтра
Гэта нашаніўская пара.

Ўсё мінае, і як бы мы з вамі таго ні хацелі,
А з усьмешкай бясьсільнай справадзім на вечны спачын
Час, калі нас ўсё меней і меней бацькі разумелі
Ўсё з-за розьніцы моваў і розьніцы нашых краін.

Ды калі ўсё ж надыйдзе дурная, пыхлівая сталасьць
Пахаваем яе пад старонкамі каляндара,
Каб ніколі-ніколі не скончалась
Наша нашаніўская пара.

## Таццяна Барысава

Я КЕЛІХ УЗДЫМАЮ

Я келіх уздымаю
з адбіткамі першага Сонца!
Уздымаю і п'ю
за тваіх, о Краіна, сыноў,
што сёньня ня з намі.
Па сутнасьці — з намі ў сэрцы.
За сёньняшніх вязьняў
Старых, перацьвілых муроў.
Калі ж ападзе на зямлю
першы дождж красавіцкі,
калі зеляніна пачне
пахкай квецьцю буяць,
пад грукат (далёкі яшчэ)
навальнічны
з удзячнасьцю шчырай
на Волі іх будзем чакаць!

## Аляксей Бацюкоў

***

Цяжкі, бязьлітасны
Сьціснуў нас боль,
Туман нам калыскаю,
Неба нам столь.
Лес будзе сьценамі,
Зброяй ланцуг.
Мроямі, сьпевамі
Выжывем, друг.
Вернем ў далоні
Меч наш і крыж.
Будзем мы вольныя,
Будзе нам ціш!

## Таццяна Будовіч

***

Хацела б я
Назваць цябе
Маім.

Ды цені тут.
Цябе завуць
Яны туды,
Дзе мне —
Няма як быць.

## Вольга

***

Нямогласьць рухаў і прамоў
Старэчай радасьці прытулак
Як я хачу хутчэй дамоў
З намаляваных гэтых вулак

Рухомы сьлед па-за сьпіной
Мяне бясконца наганяе
І набрынялае крывёй
Чужое слова высьпявае

## Ала Кажэра

***

Падстрыгае агонь небасхіл уваскрослы,
Падпільноўвае раньня няўпэўнены крок,
Гэта покліч сьвятла, начакана ўзьнёслы,
Успамінаў дабра сагравальны куток.

Праз утульнасьць начы не прабіцца сьвітанку,
Не разбураны ложак літаньня душы,
А карэта стаіць ля шляхетнага ганку,
І складаюць туды незнарок барышы.

Асьвятлёны ўначы белы сон тумановы,
На гарышчы даўно запалілі сьвятло,
Толькі думак адных таямнічыя сховы
Не адкрыюць сваіх сутарэньняў жытло.

Заняволенай песьні ня трэба абразы,
Нагрувашчаных слоў падпалю сухастой,
Не згаджуся з такім відавочным адказам,
Дзе патушыць сьвятло цемрашальства сувой.

## Спадар Кілбасьнік

У ПАЛОНЕ НАКАНАВАНАСЬЦЯЎ

Людзі плачуць і галосяць,
Калі ёсьць вакол заганы:
Калі нешта адбылося —
Значыць, так наканавана.

Нехта зь лесьвіцы зваліўся,
Нехта — зь вежавага крану,
Нехта малатком забіўся —
Так было наканавана...

Неяк на мяне напалі
І пабілі хуліганы,
А суседзі мне сказалі:
— Так было наканавана!

Хтось кладзецца позна-позна,
А ўстае — дык рана-рана.
Значыць, лёс такі ўжо грозны:
Так яму наканавана!

Нехта не дайшоў дахаты:
Паваліўся ў лужу п'яны.
Ён ні ў чым не вінаваты:
Так яму наканавана!

Хтось Радзіму брудам мажа,
Галасуе за тырана,
А як пройдзе час — дык кажа:
— Так было наканавана...

Ад чагосьці ўсё залежыць...
Дык скажу пераканана:
Напісаць вось гэты вершык
Мне было наканавана!

## Макс Кірэйчык

І ЯШЧЭ ВЕРШЫК

*Зь непераадольнаю сымпатыяй да С.Адамовіча*

Мужчына спажывае грушу,
А можа яблык спажываць.
Але нішто ня зломіць душу —
Заўсёды будзе ён складаць

Свае куплеты. Нам на радасьць,
А воранам на прыкры глум.
«Начальнік» хай дае парады —
Не выракайся «гордых дум».

Трымайся выбранага шляху,
На іншы позна ўжо ступаць.
І стрэнеш свой прысуд бяз страху,
Калі надыйдзе час аддаць

Жыцьцё сваё той бабе ў белым,
З касой даўгою (не валос!).
На жаль, з такой не пагуляеш,
Хоць у каханьні ты калёс.

Ня ўзмылісься на ёй кашчавай,
Хоць туз, хоць казырны валет.
Ня ў колер карта тут любая,
Ня здужыць родны альфабэт.

Паэт крыві і гострых лёзаў,
Паэт Радзімы і кабет.
Ты не зважай на пах пагрозы,
Пішы для млодых запавет.

Калі-ж лязо кранае жылы,
Жыцьцё — найсаладзейшы шлях.
Зблюй роспач з сэрца горкай сьлінай.
Ты ёсьць пачаткам. Мы — працяг.

## Яўхім Корчак

ПЕСЬНЯ ПЕРАМОЖЦАЎ

Косьці народа кідайце ў труну.
Віват, імпэратар!
Беднаму брату пашыйце суму.
Віват, імпэратар!
Ордэн павесьце таму, хто маніў.
Віват, імпэратар!
Хлеба падайце тым, хто завыў:
«Слаўся, дыктатар!»

Сёньня закончым, а заўтра пачнём
Новы паход.
Ворагаў хітрых заўтра ізноў
Знойдзе народ.
Будзе са сьцягам наперадзе йсьці
Наш генэрал,
Усе, як адзін, мы будзем выць
Гукі «ура-а-а...»

Сонцу прыказана вечна сьвяціць.
Віват, імпэратар!
У маі загадана бульбу садзіць.
Віват, імпэратар!
Стане ўперад той, хто ў хвасьце.
Віват, імпэратар!
Толькі крычыце, вапіце ўсе:
«Слаўся, дыктатар!»

## Віктар Ліцьвінаў

ІЗНОЎ ЗІМА...

І дзень быў белы,
ледзь асьвячаўся сонцам жоўтым,
і дзьве сьняжыначкі танчылі,
здаецца, у адценьні каляровым,
геамэтрычныя злучыўшы лініі
са спарахнелым шэптам траў,
і нечаканы шэраг дрэў
ляжаў на сьнезе белым
адбіткам ценю лёгікай
у гэнай дзіўнай непагрэшнасьці спакою,
дзе ўсе твае накіды прыгажосьці
чамусьці чорнымі алмазамі
у маіх вачах застыглі,
як быццам у перадапошнім позірку
нябожчыцы-зімы!

## Ігар Максімаў

ВЯРНЕМ

Будзем жыць, бо шчэ жывыя,
Шчэ б'еца сэрца ў грудзёх.
Ёсьць яшчэ сілы не малыя,
Араць і сеяць на палёх.

Смаленск і Вільню ў нас забралі,
Не узараць нам там ральлю.
Крыж Еўфрасіньні і той скралі,
Абрабавалі нашую зямлю.

Але тое, што засталося,
Не аддамо, бо шчэ жывыя.
І як у нас спрадвек вялося,
Вярнем забраныя сьвятыні.

## Юры Марушка

АДАМУ МІЦКЕВІЧУ

На высокі камень у маляўнічым куточку
мілага сэрцу Навагрудочку
Стаў Адам Міцкевіч,
Стаў, адлітым з бронзы, назаўжды!
Ён стаіць магутны, дужы, нібы волат!
Твар яго прыгожы, натхнёны, веліч,
поўны радасьці, каханьня, дабраты!
Прад яго вачыма родныя мясьціны,
Старажытны замак, старажытны стольны горад.
Тут пачуў ён матчыну мову, песьні, казкі і быліны
Пра сваю краіну і князёў вялікіх,
Пра яе герояў, біўшых ворагаў шматлікіх,
Пра пяшчотных прыгажунь і рыцараў сьмелых,
Пра спрытных гандляроў і майстроў умелых.
Ён глядзіць на палі, лясы, узгоркі,
дзе чуваць птушыныя песьні і гаворкі,
дзе ветрык гуляе вольны,
дзе кветак пах стаіць чароўны.
Ён глядзіць на далёкія сьцежкі, дарожкі,
дзе хадзілі каханай Марылі ножкі.
Ой, Адам, Адаме!
Клікаў ты людзей да сонца, да свабоды
Ад цара-тырана і яго нягоды
Славіў родную краіну і яе герояў
Быў ты ў ссылцы, жыў за мяжою.
Ды прасіў ты Бога ў родны край вярнуцца
З выгнаньня горнага, каб дома апынуцца.
І вось ты дома, у родным краі
Твайму прыходу мы вельмі рады.
Як той маладзенькай зелені ў маі,
Калі цьвітуць сады і зелянеюць грады,
Нясём табе букеты кветак першых,
Прад табой схіляем свае галовы,
Ты заўсёды будзеш з намі,
Сярод сыноў Айчыны лепшых
Пакуль жывы напевы роднай мовы
Пакуль жыве, гамоніць Божы сьвет
Ты наш вялікі грамадзянін, патрыёт, паэт!

## Алесь Менскі

СТАЛАЕ ПАЧУЦЬЦЁ

Прачнуцца рана, ў прахалодны душ
Нырнуць, а потым чыста пагаліцца,
Каб адчуваць, што кожны мускул дуж,
А розум зыркі, быццам бліскавіца.

арктычна белую кашулю на грудзёх
Зашпільваць з асалодаю гурмана.
Каб скоса паглядзець ніхто ня мог, —
Паліраваць абутак апантана.

Павольным рухам дзьверы расчыніць
І апынуцца ў сьвежым цёплым ранку.
Паветра асьцярожна прыгубіць,
Нібы каньяк, наліты ў філіжанку.

Упэўненаю простаю хадой
Да шапіка на шумным скрыжаваньні
Накіравацца для спатканьня з той,
Хто ўжо паўмесяцы аб'ект маіх жаданьняў.

Не расставацца зь ёю увесь час,
Калі наўкол раве тайфун падзеяў,
А калі вечар напаткае нас,
Хвіліны ціхай дорачы надзею,

Прыйсьці дадому, запаліць сьвятло,
Ужо нікуды болей не сьпяшацца,
Схаваць за доўгаю фіранкай ноч і шкло
І на канапе зь ёю ўладкавацца.

Узяць яе ў рукі, разгарнуць
За кубкам кавы ці за куфлем піва
І ўрэшце ў выкшталцоны сьвет зірнуць
Са старасьвецкай назвай «Наша Ніва».

## М.Міхееў

***

Ты нас дачакалася, славутая плошча!
Наш сьцяг над табою зноў вецер палошча!
Нямарнымі сталіся нашы спатканьні,
Як многа зрабіла ты ў нашым змаганьні.

Як доўга з табою нас разлучалі,
Ды нашыя песьні тут зноў загучалі!
Ня маем мы права на тое забыцца,
Прыходзьце на плошчу, каб ёй пакланіцца!

## Зьміцер Піскур

ПЕРАКРУТ

Панядзелкам ліхім у хаце
я сяджу і палю цыгарку.
Не ў настрої, нуджуся, браце,
бо карчму, дзе падняў бы чарку

зачынілі — рамонт, халера,
у такі цяжкі для краю час.
Мабыць, клеяць эўрашпалеры,
быццам гэта спалохае нас.

Злую. Усё мне недаспадобы.
Прыйдзе час, калі дасьць пераплут,
падлячуся, пройдзе хвароба,
і ў краіне зраблю перакрут.

## Ігар Пракаповіч

***

Як у сьветлым танцы белыя сьняжынкі,
У мазурках веі лётаюць, блішчаць.
І, нібы ўсьмешкі, зыркія іскрынкі
У ваконных шыбах ярка зіхацяць.

А музыка грае, вецер сее гукі,
У віхор сплятае рэха цішыню.
Узмахнуць празрыста дырыжораў рукі
І ўзьнімуць плёскі белага агню.

Па пустынных вулках, каля хатаў сонных
Каралеўны Лёду выпраўляюць баль
Па законах сьвецкіх, звычаях салонных
У кожнай прыгажуні на вачах — вуаль.

Зноў мяняе майстра формы дэкарацый:
Белыя калоны, замкавы вітраж.
Пырскамі ўзьлятае сноп ілюмінацый.
Побач з Каралеўнай яе мілы Паж.

І зноў завея закружыла танцы,
Але ж на імгненьне паказала нам,
Як на белым ложку гурбы-абарванцы
Хуткa распранаді беласьнежных дам...

## Сяргей Прылуцкі

ПАЭМА НЕСПАКОЮ

Ты прыйшла без усялякіх слоў...
безназоўна...
нечакана...
на сьвяточна засланы стол
прынясла свае
горыч і страты.

Вочы-сьлёзы глядзяць ва ўпор —
ні мальбы...
ні журбы...
ні стомы...
Не папрок,
не карысьць...
У іх — боль
за пакуты дзяўчынкі хворай.

Несупынная мітусьня
паміж нематой і пакутай:
памірае малое дзіця!
... невыносны подых разлукі...

Ахвяруючы ўласны дух,
атрымаем усьлед праклёны...
Невядомы, сьляпы пастух
прывядзе
нас усіх
да вытокаў.

Акунаесься ў прасьвет
па начох...
і шукаеш выйсьця...
Рух далёкіх тваіх плянэт —
асыпаецца з дрэваў лісьце...

Вочы ў вочы...
выдых і ўдых..
не хапае бясконцай прасторы.
Па-за часам...
адныя...
удваіх...
З глыбіні адгукаецца гора.

Скрыжаваньне зямных дарог —
часам
зь цемры
даносяцца ўздохі...
Блаславёны, хто дапамог...
Блаславёны той, хто ня здолеў...

Далучаюцца галасы...
далучаюцца спачуваньні
да нязноснае цішыні...
да абрыдлага ўжо
маўчаньня...

Акрываўлены...
ледзь жывы...
паўзе бусел
да вашай крыніцы...
Ускрыжаваныя
на крыжы,
пажамы...
памажы...
памажыце!..

Зачыніцца ў небыцьці,
збудаваць мураваныя сьцены —
загубіць...
пахаваць...
забыць...
не сваю — блізкняга надзею.

Твае вочы —
твой Сусьвет —
скрыжаваньне пакут і болю...
Шчасьцю
ў іх
несупынна гарэць...
але ты адказала:
хопіць.

Паглядзіш і спытаеш:
усё?..
Няўжо толькі
прастора і лёсы?...
Не ўмяшчаецца наша жыцьцё,
ў чорна-белыя палосы.

Запытаеш
і пусьціш сьлязу
дзеля
ачышчэньня ад бруду...
Падымуся і панясу...
Не — была...
Я ня — ёсьць...
Я — буду.

Сухавеі на месцы балот...
Замест чорных лясоў — аўтастрада...
Учынілі нястрымны боль,
не вярнуць —
незваротная страта.

Зазірнуць...
спазнаць...
зразумець...
тое, што нам яшчэ невядома.
Пакахаць...
палюбіць...
захварэць...
нечым, сьвету яшчэ незнаёмым.

Здольнасьць
крок у прадоньне зрабіць,
каб пачулася рэха далёка:
Я КАХАЮ...
КАХАЮ...
вас усіх...
Адзін крок — гэтак мала й многа.

Прачынаесься і бяжыш
да сваёй
недасяжнае мэты...
Захлынаючысь у моры ілжы,
дапамогі
чакае
маленства.

## Пятро Прыходзька

МАСТАК ПАЙШОЎ У ВОСЕНЬ

*Памяці Анатоля Вялюгіна*

Рунелі парасткі на роднай глебе,
Вышэй свой рост у восені ўзялі.
Адзе балюча стала, як у небе
Нам пратрубілі ростань жураўлі.

О, як «жыцьця ў жыцьці паэту мала»!
Прыгадваю трыццаць дзевяты год:
Твая балада ў сэрца мне запала
Пра мастака, што маляваў свой род.

Пан асьляпіць яго хацеў у злосьці,
Каб паўтарыць ня мог карціну сьвет.
Але мастак з палаца ўцёк у восень,
Пакінуўшы ў жыцьці глыбокі след...

Асыпаны асеньняю лістотай,
Шырока сьцелецца дарог сувой.
Ня можа стаць для нас самотнай слотай,
Паблякнуць плён штодзённай працы твой.

Ад Машканоў сваіх ты людзям згоду
Нёс цеплынёю кожнага радка,
Затым — бы уральскі танк у час паходу —
Твой верш ішоў па сьледу мастака.

Ня змоўкнуць ні на міг твае званіцы,
Якія чуў ты зь юнае пары.
І хай чырвоным цьветам заіскрыцца
Паэтава імя ў календары!

Твой «сьпелы бор у сьпелым леце» — вось ён
Зьвініць сасновай бронзай над зямлёй.
Па сьледу мастака, што ўцёк у восень,
Ты йдзеш па краі песьняю сваёй.

## Браніслаў Пяткевіч

ГАЗЭЦЕ «НАША НІВА»

Свае віншаваньні для вас пасылаю,
Каб моц гартавалі вы роднаму краю.
Каб ворагаў-злыдняў прагнаць у каршэнь
І зьняць канфрантацый, нарэшце, мішэнь.
Каб чыстае неба глядзела на нас
І волю здабыў Беларускі Парнас.
Каб роднае слова тут сьмела гучала,
А ўсё, што чужое, зьнялося з прычала.
Ты наша калыска — газэтная Ніва,
Расьці сваіх дзетак умела, шчасьліва,
Каб гэты тыгрыны (у сымбалі) год
Спаткаў, прыгалубіў свабоды прыход.

## Крысьціна С.

***

Краіна, як жахлівая пустэча,
Хаця калісьці тут было жыцьцё.
Сяджу ў цемры і трымаю сьвечку:
Шукаю шкадаваньня пачуцьцё.

Мне не шкада пакутнікаў і вязьняў,
Я нават ім зайздрошчу ў гэты час.
Навошта ж лёс мяне з табой абразіў
І не зрабіў нябожчыкамі нас?

Навошта мы жывем у гэтым сьвеце,
Калі душа ўжо даўно на тым?
Замест пачуцьцяў нас хвалюе вецер,
І сьлёзы выклікае толькі дым.

Мы не патрэбныя ў сваёй краіне,
Не ўспрымаюць нас яе сыны.
Чаму ж ніяк надзея не загіне,
Што ўсё ж мы дойдзем, дойдзем да вясны?..

## Алесь Шадрын

СЫМФОНІЯ НЯБЕСНАГА КАХАНЬНЯ

Сымфонію нябеснага каханьня
Я чую ў шэпце восеньскага дня;
Бяру аловак і спрабую натаваць
Мэлёдыю натхнёнага паветра,
Сугучную зь цяперашнім настроем
Душы маёй, якая прагне зноўку
Здабыць абшар зямны, абсяг нябесны,
Адлегласьцяў бясконцых далягляды,
І непаўторнасьць родных краявідаў;
Каб цішыні парушыўшы спрадвечнасьць,
Як гэтая сымфонія, — ускліккнуць,
(Бы апантаны музыкай ласкавай),
Зацята крыкнуць усім з задавальненьнем
Пра мараў урачыстае зьдзяйсьненьне.

Сымфонія нябеснага каханьня
Дакладна ў тахт з маім самотным сэрцам,
Яго біцьцём гучыць, але мне цяжка,
Сэнс гукаў дасканалых зразумець,
Таму паперу й псуюкаю дарэмна,
Я нотамі сымфоніі цудоўнай,
Цудоўнай, мілагучнай і працяглай,
Як нашае бязьмежнае каханьне
Народжанае травеньскім дыханьнем
Нябёс загадкавых, якія паспрыялі
Сустрэцца ў сьвеце душам адзінокім.

Але, ня маюць сэнсу намаганьні,
Усё безвынікова, летні подых,
Музычнае гармоніі сугучнасьць,
Ды горкі водар п'янага паветра
Ізноў мяне прымусілі паверыць
У казачную мрою пра любоў,
Той подых — асалоды і каханьня
Зьнячэўку зьнікнуў у неабсяжным моры,
У звыклай паўсядзённасьці загінуў
Чароўны міт, пакінуў межы сэрца,
Загінуў ад пытаньняў матэр'яльных,
Пра тое, апранууцца лепей як,
Дзе грошай ўзяць на тое, каб ня ўмерці,
А й надалей працягваць існаваньне
Нікому не патрэбнае на сьвеце;
Навошта ж доўжыць гэткія пакуты,
Трываючы праклёнаў цяжкі крыж,
Калі ўсё роўна не спазнаць, ня ўбачыць,
Ды не пазбавіць твор той ад нябыту?!

Сымфонію нябеснага каханьня
Я чуў у шэпце восеньскага дня,
Яна была нібы наканаваньне
Нам зробленае лёсам, а цяпер
Яна — прадвесьнік нашага расстаньня,
Яна — адбітак згаслага агня.

## Сымон Шаўцоў

***

Сама прырода круціць сваё кола,
А зь ёю й мы ў вечным руху.
Усё жыве, жыве і рухаецца наўкола:
Вясна ў красках-кветках,
Лета ў сьпелых палетках,
Восень у пладах садовых,
Зіма ў сьнежнай завірусе.
А людзі ў струсе ў Беларусі.
Цэлы год у калаўроце
Пры цяжкай рабоце.
Іх ломяць, круцяць
З году ў год,
Бо то ж — беларускі народ!
Жывуць, як пры землятрусе,
Церпяць бяду ды хваляцца —
«Мы — беларусы!»

Я думаю бацькавай мовай.
Як я думаю, так і пішу.
Яна мне мілей за ўсё ў сьвеце,
Другой я не прашу.
Таму заўсёды яе ў сэрцы нашу.
І гэтым ганаруся,
Што я зь Беларусі.

## Гэндальф Шэры

***

Штодзённа мяне забіваюць
Штодзённа Надзею крадуць
Жывым у труну запіхаюць
Жывым у магілу кладуць

Чужынцы Айчыну зьнішчаюць
Чужынцы да скону вядуць
Лукавымі вуснымі дбаюць
Лукавыя сьпевы пяюць

Штодзённа Народ забіваюць
Штодзённа Надзею крадуць
Жывым у труну запіхаюць
Жывым у магілу кладуць

## М.Яўмененка

ПЕРШЫ РАЗ — У ПЕРШЫ КЛАС

Пажар вайны на Захад пакаціўся.
Баі ішлі за Друць і за Дняпро.
Калгас у сорак трэцім адрадзіўся.
Ізноў на люд накінулі аброць.

Яшчэ гарматных стрэлаў гул раскатны
Чуваць быў ноччу месячнай у нас,
А ўжо для школы зьняты дом прыватны,
Каб мы пайшлі вучыцца ў першы клас.

Як сінявокая мая Айчына,
Па-беларуску, нават вершамі
Вітала нас цікавая жанчына —
Мая настаўніца шчэ першая:

«Дзень добры, дзеці, шчыра вас віншую
З прыходам першы раз у першы кляс!
Чытаць, пісаць, лічыць вас навучу я
І пакажу дарогу на Парнас».

Пісалі на шпалерах, зь сьценак зьдзёртых,
Чарнілам быў крушынавы адвар.
Чыталі ўслых мы, стоячы бадзёра,
Бо быў адзіны на ўвесь кляс буквар.

Тады ў бацькоў ня спыталі па-руску:
«На якой мове навучаць дзяцей?»
«На мове нашых продкаў-беларусаў» —
пацьвердзіў бы і прашчур Дземянцей.

Яго нашчадак Мікалай Іваныч —
Вярхоўнага Савету старшыня
Хоць беларус, але зманкуртаваны,
Трасяніў мовай рускаю штодня.

І ўрэшце рэшт з трыбуны мусіў мовіць:
«Кто как хаціт, тот так і гаварыт».
Культура нізкая палітпрамоўцаў
Падмурак моўны ставіць дагары.

Ужо зацьверджаны Закон аб мовах.
Правы дзяржаўнай наша набыла.
А школа клясаў беларускамоўных
Дабраахвотна так і не ўявіла.

Там, дзе кіруюць антыдэмакраты,
Яны пужаюць правых пасадзіць —
Каго на чорны хлеб, каго за краты
Каб не змаглі Радзіму адрадзіць.

Такі вось выбар нам дае сыстэма.
Яна, як сьмерць з імпэрскаю касой,
На беларускамоўную праблему
Паставіць крыж з крывянай кілбасой.

Пакуль саўкі ці-то натоўп савецкі
Сыстэму будуць большасьцю трываць,
Дык адраджэньню ані-ні ня сьвеціць.
Яго ня варта і кансэрваваць.

У дзевяноста першым жа паўсталі?
Ён бумэрангам вернецца ў наш дом.
Пан Мураўёў або таварыш Сталін —
Ужо ні разу болей, нізашто.

Надыйдзе час, калі у Беларусі
Па-беларуску будуць размаўляць
Усе свабодна, стала без прымусу
Як люд старэйшы, так і немаўля.

# Да гісторыі беларускага падпольнага друку

Пад час Другой сусьветнай вайны Беларускі нацыянальны супраціў быў значна слабейшым за ўкраінскі й польскі. Адпаведна слабейшым быў і беларускі падпольны друк, выдавецтвам якога займалася практычна толькі адна арганізацыя — Беларуская Незалежніцкая Партыя. Ці не адзіным нелегальным пэрыёдыкам быў «Бюлетэнь БНП».

Упершыню пра «Бюлетэнь БНП» у пасьляваенны час у Беларусі напісаў Васіль Раманоўскі ў сваёй сумнавядомай кнізе «Саўдзельнікі ў злачынствах» (Менск, 1964). Ён назваў бюлетэні «бруднымі лісткамі», якія «заклікалі беларускую моладзь і інтэлігенцыю актыўна змагацца супраць СССР, за стварэньне беларускай буржуазнай дзяржавы».

За наступныя трыццаць гадоў «Бюлетэнь БНП» так і ня быў вывучаны гісторыкамі. Уладзімер Гуленка ў энцыкляпэдычным арыкуле, прысьвечаным БНП, згадвае пра яго, але чамусьці называе «Беларускім інфармацыйным бюлетэнем».

«БЮЛЕТЭНЬ Беларускай Незалежніцкай Партыі» як «орган Вызвольнага (у апошніх нумарах — Беларускага. — С.Ё.) Сялянска-Работніцкага Руху» зьявіўся дзесьці ў другой палове 1942 году. Сябра ЦК БНП Барыс Рагуля прыгадвае, што справа заснаваньня свайго друкаванага органу кіраўніцтва партыі абмяркоўвала на нарадзе ўлетку 1942 году: «Вырашылі выдаваць падпольны бюлетэнь і выдаваць яго раз на тры месяцы. Хацелі раз на месяц, але пасьля дэбатаў спыніліся на першым варыянце. Пастанавілі выдаваць бюлетэнь у розных гарадах. Першы «Бюлетэнь БНП» выйшаў у Віцебску, але распаўсюджваць яго пачалі ў Навагрудку».

Месца выданьня першага нумару было выбрана невыпадкова. Менавіта ў Віцебску займаў пасаду бурмістра горада старшыня ЦК БНП Усевалад Родзька. Тут працаваў ва ўправе і сябра ЦК БНП Міхась Рагуля («Чорны»), які быў прызначаны рэдактарам «Бюлетэня БНП». У Віцебску ён зьяўляўся рэдактарам і дадатку да легальнай расейскамоўнай газэты «Новый Путь» — «Беларуская Старонка», які выходзіў штотыднёва зь вясны 1942 году. Першы нумар падпольнага «Бюлетэня...» быў набраны на друкарскай машынцы й памножаны на шапірографе або рататары. У ім былі зьмешчаныя праграма і статут Беларускай Незалежніцкай Партыі, а таксама інфармацыя пра заснавальніцкі зьезд БНП.

Адказным за выпуск другога нумару быў прызначаны Барыс Рагуля. Ён выдаў яго ў Навагрудку, праўдападобна, на пачатку 1943 году накладам найменш у 500 асобнікаў. Б.Рагуля ўспамінае: «Рассылалі «Бюлетэнь»... мы не адтуль, дзе ён друкаваўся, а зь іншых гарадоў. Ужо пасьля бюлетэнь прыходзіў да нас... За рассылку, фактычна, адказны быў Родзька, якога, як бурмістра Віцебска, ніхто ніколі не правяраў. Да мяне прыяжджаў кур'ер і празь яго перадаваў аддрукаваны наклад у нагаворанае месца ў Менск. Адтуль яго рассылалі...

Такім чынам я выдаў толькі адзін нумар. Ня памятаю, дзе выдаваўся трэці нумар «Бюлетэню БНП». А чацьверты друкаваўся ў Бэрліне Мікалаем Шкялёнкам. Шкялёнак быў адным з найлепшых ідэолягаў партыі. Акрамя таго, ён быў таксама вельмі добрым палітыкам, які прадбачыў у перадапошнім «Бюлетэні...» падзел Нямеччыны на ўсходнюю й заходнюю часткі».

Невядома зь якой прычыны пад час нямецкай акупацыі на працягу 1942-44 гадоў у Беларусі выйшлі ўсяго два нумары «Бюлетэню БНП». Магчыма, кіраўніцтва партыі сутыкнулася з праблемаю адсутнасьці дастатковай тэхнічнай базы, або аддало перавагу больш апэратыўным улёткам.

Тым часам «Бюлетэні Беларускай Незалежніцкай Партыі» шырока разышліся па Беларусі й адыгралі важную прапагандысцкую ролю. У адрозьненьне ад легальнага друку, які быў пад нямецкай цэнзурай, у падпольным выданьні БНП побач з антыкамуністычнай прапагандай была й антыфашысцкая фразэалёгія. Зразумела, што «Бюлетэнь...» карыстаўся вялікай папулярнасьцю, асабліва сярод моладзі.

БНП праводзіла прапагандысцкую працу ня толькі сярод нацыянальных партызанаў, але й сярод савецкіх. Пісьменьнік, былы савецкі партызан, Уладзімер Калесьнік, успамінаў, як трапіў яму ў рукі ў Налібоцкай пушчы «прысланы невядома кім орган Беларускай Незалежніцкай Партыі «Бюлетэнь» (Беларусь, 1994, №10). Шырока былі ахопленыя ўплывам партыі й беларускія вайсковыя фармацыі, дазволеныя акупантамі.

Трэці нумар «Бюлетэню БНП» выйшаў ужо ва Ўсходняй Прусіі ў жніўні 1944 году. Выдаваўся ён пры беларускім дэсантным батальёне «Дальвіц» і праз парашутыстаў, якіх скідвалі зь нямецкіх самалётаў, дастаўляўся ў Беларусь. Увосені 1944 году ў Бэрліне пабачыў сьвет чацьверты нумар. Пяты, апошні «ваенны» «Бюлетэнь БНП», быў аддрукаваны ў сьнежні 1944 году альбо ў студзені 1945-га. Мікола Панькоў у сваім «Паказьніку беларускіх выданьняў на чужыне за 1945-50 гг.» (Нью-Ёрк, 1952) памылкова піша, што ў 1945 годзе выйшла пяць нумароў «Бюлетэню...» На самой справе ў апошні ваенны год мог выйсьці толькі адзін нумар — пяты.

У Нямеччыне БНП зноў пачынае аддаваць перавагу ўлёткам. Лейтэнант дывізіі «Беларусь» Аўген Усюкевіч успамінае Генадзя Казака, які распаўсюджваў улёткі БНП сярод беларускіх вайскоўцаў: «У лістоўках быў заклік за саюз з прыбалтыйскімі народамі і прапаганда супраць маскалёў і палякаў. Я яшчэ сказаў Гене, каб ён асьцярожна дзейнічаў, каб хто ня выдаў яго немцам... Казак здолеў пасьля вярнуцца на Беларусь зь Нямеччыны. Зарганізаваў «Саюз Вызваленьня Беларусі» ў Навагрудку. Быў арыштаваны, атрымаў 25 гадоў канцлягераў, дзе й загінуў...»

Заканчэньне Другой сусьветнай вайны стала пачаткам новага этапу Беларускага вызвольнага руху. БНП на Бацькаўшчыне пад кіраўніцтвам генэрала Міхала Вітушкі («Канцавы», «Лось») распачала выданьне новых падпольных пэрыёдыкаў, сярод якіх галоўнае месца займаў часопіс «За Волю». На эміграцыі сябры партыі арганізаваліся ў Замежны Сэктар БНП, які ачольваў Дзімітры Касмовіч («Каршун»). Пасьля 3-й канфэрэнцыі Беларускай Незалежніцкай Партыі, якая адбылася 30 верасьня 1946 году ў Заходняй Нямеччыне, на эміграцыі быў выдадзены шосты, апошні нумар «Бюлетэню БНП». У адрозьненьне ад ранейшых нумароў, якія выходзілі на 8 балонках, ён меў іх 16. «Бюлетэнь...» зьмяшчаў партыйныя адозвы, кроніку, публіцыстыку, а таксама інфармацыю пра антыбальшавіцкі партызанскі рух на Бацькаўшчыне.

У 1949 годзе Замежны Сэктар БНП спрабаваў адрадзіць «Бюлетэнь БНП» пад іншаю назвай. Выйшлі два нумары партыйнага бюлетэню «Праца і Воля», які зьнешнім выглядам быў вельмі падобны да свайго папярэдніка.

На гэтым можна было б і закончыць кароткі нарыс пра «Бюлетэнь БНП», але... Беларускі эміграцыйны гісторык Вацлаў Пануцэвіч лічыў, што першы нумар «Бюлетэню...» выйшаў у 1941 годзе і, магчыма, быў «сьвежа адбіты пры ўдзеле (айца) Гадлеўскага ў Варшаве». Нібыта яго меў Усевалад Родзька на нарадзе актыву БНП у польскай сталіцы ў канцы жніўня 1941 году (Спадчына, 1993, №6, с.70).

Я думаю, што Пануцэвіч памыліўся, пераблытаўшы два розныя выданьні. У Нацыянальным архіве некалькі гадоў таму мне ўдалося выявіць цікавы дакумэнт — данясеньні савецкай выведкі ў Маскву пра дзейнасьць Беларускай Незалежніцкай Партыі. «У студзені месяцы 1943 году, — цытую дакумэнт, — Цэнтральны Камітэт БНП выпусьціў зварот да беларускага народу і апублікаваў праграму партыі. Гэтая праграма была сфармуляваная задоўга да вайны і апублікаваная ў першым нумары бюлетэня беларускіх эмігрантаў за 1940 г. У праграме адзначаюцца прынцыпы, якія ляжаць у аснове БНП.

Прывядзем некаторыя пункты гэтай праграмы:

«1. Мы змагаемся за незалежную сувэрэнную беларускую дзяржаву ў этнаграфічных межах Беларусі.

2. Мы ведаем, што найвышэйшым аўтарытэтам і сілай беларускай дзяржавы зьяўляецца арганізаваная і дысцыплінаваная беларуская нацыя. Мы змагаемся за нацыянальную Беларускую рэспубліку. Мы супраць парлямэнцкага рэжыму, які падзяляе і аслабляе сілы нацыі. Супраць дыктатуры некалькіх слаёў і палітычных групіровак у народзе.

3. Мы прызнаем, што толькі адзіная палітычная партыя, якая складаецца зь лепшага нацыянальнага элемэнту і кіруецца разумным правадыром, зьяўляецца асноўнай сілай народу і дзяржавы. Мы імкнемся аб'яднаць у шэрагах БНП увесь сьведамы беларускі актыў, які апынуўся здольным носьбітам дзяржаўнага аўтарытэту Беларускай рэспублікі (гл. стар. 3 і 5 бюлетэня №1, 1940 г.)» (НАРБ, Фонд 4, вопіс 33а, справа 524, аркуш 185).

Такім чынам, зусім магчыма, што Ўс.Родзька на Варшаўскай нарадзе ў 1941 годзе меў якраз эмігранцкі бюлетэнь ад 1940 г., які выдаў айцец Вінцэнт Гадлеўскі, а не «Бюлетэнь БНП». Але гэта ўжо новая, яшчэ неразгаданая тайна, якая чакае свайго дасьледчыка.

**Сяргей Ёрш**

**Прысяга Беларускай Незалежніцкай Партыі**

Прысягаю да Бога, што буду верным да сьмерці свайму Народу і Бацькаўшчыне, буду аддана і самаахвярна змагацца за незалежнасьць Беларусі і за шчасьце і волю Беларускага Народу. Уступаючы ў рады БНП, прысягаю ня здрадзіць яе спраў і тайнаў ані словам, ані чынам, хоць бы мяне чакалі найбольшыя спакусы і мукі. За справу БНП прысягаю аддаць у кожную хвіліну жыцьцё, бо ведаю, што яе справа — гэта справа волі і шчасьця Беларускага Народу і Бацькаўшчыны, і што сяньня толькі ў шчыльных радох БНП мы здабудзем незалежнасьць Беларусі і дамо адпор нашым ворагам. Ведаю, што за здраду спраў і тайнаў партыі кожны яе сябра караецца сьмерцю. Ад сяньняшняга дня —я актыўны змагар і працаўнік БНП.

*(З архіву аўтара)*

**Ад ЦК Б.Н.П.**

Мінуў адзін са шматлікіх гадоў гісторыі Беларусі. І здавалася бы на першы пагляд, што гэты год, як кожны зь мінулых — год змаганьня за адвечныя ідэалы, год вечных надзеяў, чаканьняў, духовых уздымаў і вечных расчараваньняў.

Але не! Гэты год розьніцца ад усіх іншых. Ён зьяўляецца годам вялікіх надзеяў і годам адраджэньня веры ў народзе ў собскія сілы.

Гэта год, у якім даканаўся вялікі псыхічны пераварот у шырокіх масах Беларускага Народу, бо ў гэтым годзе, больш як у іншым, пераканаўся наш народ, што адно толькі ёсьць безумоўна пэўным у вялікім змаганьні за незалежнасьць — гэта СОБСКІЯ СІЛЫ і дзеля таго падняў ён зноў сьцяг адвечнага змаганьня, арганізуючы БЕЛАРУСКАЕ КРАЁВАЕ ВОЙСКА, вырасшае з нашага паўстанчага руху на родных загонах.

Беларускае Краёвае Войска, гэта доказ здаровай народнай думкі і вера ў свае сілы.

Таму сёньня, уступаючы ў новы год нашае эры, уступаем у новы этап нашага змаганьня.

Мы, партыйцы, уступаем у яго зь пераканьнем, што створанае намі Беларускае Краёвае Войска, узгадованае на нашых ідэалах бескампраміснага змаганьня з усімі акупантамі нашай зямлі, ёсьць фактам даказаным і гэта дадае нам сілы і жалезнай вытрымаласьці ў нашым вялікім змаганьні.

Ад імені Партыі ЦК вітаю Вас, змагары БКВ, з Новым Годам і жадаю, каб Вы ўлілі ў свае рады ўсіх тых, хто яшчэ да гэтай пары блудзіць на раздарожжы, шукаючы надарэмна чужацкіх саюзьнікаў у змаганьні за нашыя народныя ідэалы.

Вітаю Вас, браты, загнаныя вайной на чужыя землі і жадаю Вам усім у гэтым Новым годзе мець шчасьце прыступіць да змаганьня, але ўжо не за чужыя нам інтарэсы, а за нашую МАЦІ —НЕЗАЛЕЖНУЮ БЕЛАРУСЬ.

Вітаю Вас, сябры БНП, жаўнеры штурмовых аддзелаў і ўсіх тых, хто зьяднаўся пад сьцягам БНП з адною думкай: здабыць НЕЗАЛЕЖНУЮ БЕЛАРУСЬ, або згінуць у змаганьні за Яе.

І вітаю Цябе, Беларускі Народ, з Новым Годам і запэўняю Цябе, што сыны Твае ўступаюць у яго зь цьвёрдым перакананьнем, што год гэты, калі ня будзе годам аканчальнай перамогі, то прынамсі годам, у якім ужо выразна зарысуецца Твая Вольная Постаць, годам вялікага прагрэсу ў змаганьні за Незалежнасьць!

Няхай жыве Беларускі Народ!

Няхай жыве Беларускае Краёвае Войска!

Няхай жыве Незалежная Беларусь і Яе Змагары!

Канцавы

*(«Бюлетэнь БНП», № 5, сьнежань 1944 — студзень 1945 (?)).*

**Інструкцыя**

аб карыстаньні і перахоўваньні «Бюлетэню»

1. Пільнуй, каб ня трапіў «Бюлетэнь» у рукі ворага.
2. Ніколі не пакідай у няпэўным месцы.
3. Як найменей насі пры сабе.
4. Прачытай сам, дай прачытаць свайму добраму знаёмаму — сьведамаму беларускаму патрыёту, які ня здрадзіць і забяры назад.
5. Матар'ял выкарыстоўвай у гутарках зь сябрамі, але будзь пры гэтым асьцярожны.
6. Перадавай іншым толькі ў «чатыры вочы», без прысутнасьці каго-небудзь трэцяга.
7. Аб загінуўшым экзэмпляры дакладай як найхутчэй таму, ад каго атрымаў.

**Беларуская моладзь**

— Беларуская моладзь праходзіць яшчэ больш цяжкую і крыжовую дарогу, чымся ўвесь Беларускі народ.

— На яе душы адыйгрываецца ў найбольш яркай форме ўся агіда і крывадушнасьць нашых ворагаў.

— Непатрэбна шмат аргумэнтаў, каб даказаць, колькі крыўды мусіла перанесці нашая моладзь пад польскай акупацыяй Заходняй Беларусі і зьдзек маральны на ўсіх адрэзках маладое душы ў паняволеньні камсамолу.

— Ня зрокся надзеі паняволеньня душы нашай моладзі і кораткатрывалы акупант нашай Бацькаўшчыны — гітляроўская Нямеччына.

— Немцы добра ведалі, што моладзь ёсьць будучыня беларускага народу і хочучы спыніць яе нацыянальны ўздым, накінулі маладой арганізацыі бязхрэбетнае і халуйскае кіраўніцтва ў асобе Ганька. Гэтым самым думалі яны, што пры помачы бяздушнага інструмэнту, якім быў у нямецкіх руках Ганько, удасца выкарыстаць маладую беларускую сілу для сваіх мэтаў.

— Аднак здаровая ў сваіх асновах нашая моладзь хутка адшрыфтавала гэтыя подлыя намеры. Ёй ня трудна было пераканацца, што вызначаны ім немцамі кіраўнік гэта нікчэмны «эрзац», і яна хутка знайшла сабе правадыроў, вырасшых зь яе радоў.

— І так, памятаючы яшчэ польскія экспэрымэнты з гарцэрствам, бальшавіцкія з камсамолам і перажываючыя апошнія нямецкія і зноў савецкія, дайшла да перакананьня, што кожны чужынец імкнецца да аднаго: забіць духова беларускую моладзь, каб лягчэй апанаваць народ. Але як бы ня імкнуліся да гэтага нашыя ворагі, ім ня ўдасца дасягнуць сваёй мэты, бо Беларуская Моладзь нацыянальна ўжо сьпелая. І яна зразумела, якую адказнасьць на сваіх плячах нясе, яна пераканалася, што ад яе залежыць будучыня Беларусі і таму ня мае права прадаць сябе і сваёй душы чужынцам.

— І сёньня загнаная сілай у рады Чырвонай Арміі з аднаго боку, а з другога кінутая ў нямецкія лягеры і фабрыкі, страціўшы ўсё ім дарагое: Бацькаўшчыну і сям'ю, ня страціла аднаго — гэта ІДЭІ. Ня страціла адвечнага імкненьня да сонца і свабоды, да незалежнага жыцьця ў Вольнай Бацькаўшчыне! Наш народ маючы такую моладзь можа быць спакойны за сваю будучыню.

— Вы, маладыя арляняты, падняліся ў прастору па СОНЦА. Дык не дазвольце чужынцам зламаць Вам крыльле!

— Трымайце цьвёрда штандар незалежнасьці ў сваіх маладых руках! З Вамі народ! З Вамі Беларуская Незалежніцкая Партыя!

Грунтуйцеся каля ЯЕ! Пашырайце ЯЕ ідэю, бо ідэя БНП — ідэя народу!

**Каладзей**

*(«Бюлетэнь БНП», №5).*

Аўтар удзячны сп. Юрыю Туронку за копіі «Бюлетэняў Беларускай Незалежніцкай Партыі».

# «У лесе я сустрэў шмат такіх, як я»

*Інтэрвію з камандзірам беларускіх партызанаў*

Гутарка зь Віктарам Сікорам адбылася ў кастрычніку 1997 году ў вёсцы Малыя Алашкі каля Шаркоўшчыны.

*Даведка: Віктар Сікора нарадзіўся ў 1925 годзе ў Малых Алашках у сям'і Івана Сікоры, вядомага садавода, які на пачатку стагодзьдзя вёў перапіску з Коласам, Купалам, Львом Талстым. Віктар скончыў 6 клясаў польскае школы, а пад час нямецкай акупацыі — шасьцімесячныя курсы, пасьля якіх у 1942 годзе паступіў у Пастаўскую настаўніцкую сэмінарыю. У 1943 годзе, калі арганізаваўся Саюз Беларускай Моладзі, Віктар стаў адным зь яго кіраўнікоў у Паставах. З красавіка 1944 году — сябра падпольнай Беларускай Незалежніцкай Партыі (БНП). Вясноюлетам 1945 году — камандзір атраду беларускіх «лясных братоў» на Шаркоўшчыне. Арыштаваны 5 сьнежня 1945 году. З бальшавіцкіх канцлягераў на Бацькаўшчыну вярнуўся ў 1955 годзе.*

**— Спадар Віктар, што ўяўляў сабой Пастаўскі СБМ?**

— У нашай мясцовасьці СБМ распачаўся ўвосень 1943 году пры настаўніцкай сэмінарыі. Амаль усе навучэнцы адразу запісаліся ў Саюз, а тыя, хто пажадаў стаць малодшымі кіраўнікамі, паехалі на адмысловыя курсы СБМ у Альбярцін пад Слонімам. Быў там месяц і я. Вярнуліся адтуль мы ўжо дружыновымі.

Я ачольваў СБМ у настаўніцкай сэмінарыі, а ў Пастаўскім раёне — Аўген Занкавіч. Пастаўскі раён уваходзіў тады ў Глыбоцкую акругу. Акруговым кіраўніком СБМ у хлопцаў быў Аўген Мацюшонак, а пасьля яго — Мечыслаў Рачыцкі. У дзяўчат акруговай кіраўнічкай была Ульяна Куштэльян. Пасьля Мацюшонак накіраваў мяне ды Рачыцкага ў Менск на 40-дзённыя курсы.

**— У якім гэта было годзе?**

— У 1944-ым. З усёй Беларусі зьехаліся хлопцы. Лейтэнант Язэп Сажыч вёў ваенную справу, нас муштраваў. На гэтых курсах найбольшую ролю адыгрываў Родзька. Сымпатычны, малады, яму было 23-24 гады. Родзька быў выдатным прамоўцам, адным з самых разумных людзей, якіх я ведаў. Быў яшчэ Барыс Рагуля, камандзір коннага эскадрону. Ён прыяжджаў некалькі разоў і вельмі сябраваў з Родзькам. А вось Міхась Ганько, праваднік Галоўнага Штабу СБМ з Родзькам не сябраваў. І я ня ведаю нават чаму.

У нас на курсах выкладаў Аўген Калубовіч. Вельмі прыгожа гаварыў ён па-беларуску. Пазнаёміўся я і з Міколам Шкялёнкам, першым намесьнікам прэзыдэнта Беларускай Цэнтральнай Рады. Калі ён ішоў па Менску, дык мяне ўсё браў, як ахову. Бо Менск разбураны быў, ляжаў у руінах. У мяне былі два пісталеты, якія выдаў Родзька...

**— Калі Вы ўпершыню пачулі пра Беларускую Незалежніцкую Партыю?**

— Было так. Спачатку ніхто нічога не гаварыў. Кожны з выкладчыкаў выказваў свае погляды, слухалі нас, прыглядаліся, як хто сябе паводзіць. Бо розныя людзі трапілі на курсы... Ну, а пасьля сталі нейк зьбірацца на тайныя сходы. Родзька нам казаў: «Трэба гуртавацца, трэба ўмацоўваць свае становішчы, зьбіраць сілы... Для нас аднолькавыя ворагі — фашызм і камунізм. Але нам няма дзе падзецца. Пападземся паміж імі й нас зьнішчаць. Цяпер самы адказны час. Яшчэ раз мы павінны выбраць меншае зло. Немцы абяцалі нас узброіць... Камунізм для нас больш вораг, бо немцам ужо прыходзіць канец... У нас ёсьць партыя падпольная, тайная. Наперадзе нас чакае змаганьне за вольную Беларусь. Мы павінны будзем змагацца з бальшавікамі. Калі ўдасца перайсьці на падпольле, будзем на нелегальным становішчы. І сыстэма ў нас будзе такая, што адзін ведае толькі трох чалавек і больш нікога».

Былі вялікія спадзяваньні на Захад, на Англію і Амэрыку. Мы верылі, і Родзька на іх спадзяваўся. «Нам трэба ўзяць у іх (немцаў) зброю, каб мы маглі пасьля ўтрымаць Беларусь», —казаў ён.

На гэтай першай сустрэчы, якая праходзіла ў гасьцініцы на цяперашняй Камсамольскай вуліцы, было 12 чалавек з эсбээмаўскіх курсаў. Усіх нас Родзька прыняў у падпольную Беларускую Незалежніцкую Партыю. Неўзабаве ён адвёз мяне й іншых хлопцаў у Вільню на вуліцу Коленштрасэ, гэта Вугальная, а па-літоўску — Англю. Там знаходзілася адна нямецкая сакрэтная ўстанова. Там нам далі запоўніць анкеты панямецку і па-беларуску, што «я, Сікора Віктар, абязуюся дапамагаць нямецкаму вэрмахту». Адрасу далі мне польскі пісталет «Радам». Родзька сказаў мне: «Стварай сваю групу і прывозь іх



*На здымку: Віктар Сікора каля магілы расстралянага фашыстамі ў 1943 годзе ў Паставах беларускага дзеяча Адама Дасюкевіча.*

сюды». Я кажу: Мы ж вярбуемся! Каб я гэта ведаў, не паехаў бы! Я зь немцамі нічога ня маю, зь імі не супрацоўнічаю. Вы ж упіхнулі мяне ня туды!.. На гэта Родзька гаворыць: «Не зьвяртай на гэта ўвагі. Трэба выконваць заданьне. Раз мы стварылі сваю незалежніцкую партыю... У нас зброі няма, а дзе мы возьмем? Ты што, ня бачыш, што вось-вось прыйдуць бальшавікі? І што, уцякаць? Трэба ж некаму застацца! Нам трэба сваю справу рабіць!» Ну і ўсё. Я вярнуўся ў Паставы і ўцягнуў чалавек сорак, амаль усіх сваіх хлопцаў.

**— Вы іх прымалі ў БНП?**

— Так. Занкавіча прыняў. Хоць ён быў маім кіраўніком у СБМ, у БНП было наадварот. Я быў прызначаны партыйным кіраўніком на Пастаўскі раён, а Аўген Занкавіч — маім намесьнікам. Былі яшчэ Лапіцкі Алег, Прыстаўка Мечыслаў, Латышонак Аляксандар, Жыхар Аўген, Грыгор'еў...

Пасьля, калі мяне арыштавалі чэкісты, я сказаў, што завэрбаваў з сэмінарыі толькі 10 чалавек. Тых, каго ў красавіку 1944 году завёз у Вільню. Тут ужо нікуды ня дзенесься. Ды яны ўсе пасьля трапілі ў батальён «Дальвіц»... У Вільні кожны атрымаў дакумэнт, што зьяўляўся кіраўніком узброенай групы Абвэру, і каб усе нямецкія органы мне аказвалі дапамогу. Некалькі разоў мяне правяралі немцы і кожны раз гэты дакумэнт дзейнічаў —адразу адпускалі.

**— Якое апошняе заданьне Вы атрымалі ад Родзькі?**

— Трэба было на Кангрэс прыехаць, які праходзіў у Менску напрыканцы чэрвеня 1944 году. Сабраць сваіх людзей і прыехаць. Родзька сказаў, што «там усё вырашыцца». Са мной было 12 чалавек, мы ехалі ўзброеныя вінтоўкамі і пісталетамі на цягніку. За Лынтупамі паравоз быў падарваны. Відаць, акоўцы зрабілі дывэрсію. Цягнік пачалі абстрэльваць зь лесу. Падзецца не было куды, мы адстрэльваліся. Аж пакуль бронецягнік не падыйшоў. Прыйшлося нам вярнуцца ў Паставы. На Кангрэс мы ня трапілі.

А апошні раз я сустракаўся з Родзькам дзесьці ў траўні 1944-га ў Вільні, на сьвяткаваньні 25-х угодкаў Беларускай гімназіі. Астроўскі там быў. Забэйда-Суміцкі выступаў, Родзька. Ён ужо быў у вайсковай форме беларускага афіцэра, старэйшага лейтэнанта. На мундзіры былі бел-чырвона-белыя пятліцы й Ярылавы крыжыкі. Я стаў там на варце, ахоўваў мерапрыемства...

**— Як сталася, што Вы ня трапілі ў дэсантны батальён «Дальвіц»?**

— Быў пачатак ліпеня. У беспарадку адступалі немцы. Хацеў адступаць і я. Але тут прыехалі людзі ад Родзькі й кажуць: «Мы ад Родзькі. Ты павінен застацца. Вось табе даведка, што ты — партызанскі сувязны. Гэта загад!» Ведаеце, загад ёсьць загад. Я застаўся, а хлопцы мае пайшлі на захад, ва Ўсходнюю Прусію. Там трапілі ў дэсантны беларускі батальён «Дальвіц». Расказваў мне Латышонак, што не ўдалося ім перайсьці да альянтаў. Паабяцалі ім дапамагчы і падвялі... Тады яны з Родзькам пайшлі пешым маршам назад, праз Польшчу. І недзе там Родзька па сваёй неасцярожнасьці быў арыштаваны. А яны далей пайшлі групай. Прыйшлі сюды, а тут «істрабкі», палявое НКВД... Многіх хутка паарыштоўвалі. Некаторых нават з Чырвонай Арміі пабралі. Ведаеце, сама структура, кансьпірацыя была яшчэ недапрацаваная... Адзін толькі Жыхар дзейнічаў.

**— Калі Вы пайшлі ў лес?**

— Я баяўся, што мяне арыштуюць, даведаюцца пра маю дзейнасьць у СБМ. Пайшоў у Чырвоную Армію. Трапіў аж на Ўкраіну, пад Белую Царкву, быў пісарам у роце. А калі даведаўся, што на 1-шы Прыбалтыйскі фронт накіроўваецца эшалён, запісаўся дабраахвотнікам. Не даяжджаючы да Дзьвінска, зь цягніка ўцёк. Гэта быў канец лістапада. Ужо пачыналіся маразы. А мае аднасяльчане напісалі з войска, што я ўцёк. Пачалі шукаць. Бацька тады выкапаў яму пад бульбай, і я там хаваўся чатыры месяцы — да вясны. А як сьнег сышоў, падаўся я ў лес. Там сустрэў шмат такіх, як я. Былі мы добра ўзброеныя, мелі нават «дзегцяры» — кулямёты.

У нас тут лясы. Аж да Браслава адзін толькі лес — ніводнай жывой душы. Разьбіліся на атрады па 20-40 чалавек, бо разам было цяжка. У цяжкадаступным месцы пабудавалі сабе ў лесе домікі, самыя пяклі хлеб — была свая пякарня, гаспадарка.

**— Колькі чалавек было ў Вашым атрадзе?**

— Каля трыццаці.

**— Вы былі ў іх камандзірам?**

— Так, слухаліся мяне. Праўда, у нас была «дэмакратыя»... А пасьля капітуляцыі Нямеччыны Саветы абвясьцілі амністыю дэзэртырам, і многія хлопцы павыходзілі зь лесу, паверылі. Шмат хто меў у вёсках сем'і...

**— Як Вы трапілі ў рукі чэкістаў?**

— Да мяне прыйшоў сувязны зь Вільні — «Каліноўшчык», які аказаўся агентам НКГБ. Малады хлопец, добра асьвядомлены ў справах БНП. Ён прыйшоў у Малыя Алашкі і ашукаў бацьку. Сказаў яму, што «пойдзем за мяжу. Што тут нічога ня робіцца, а ўжо скончылася вайна і аб'яўленая амністыя. У лесе засталося мала людзей. Тых, хто застаўся, перакідваем за мяжу». Папрасіў, каб бацька зьвёў яго са мною. З «Каліноўшчыкам» я сустракаўся некалькі разоў. Ён прапанаваў, каб я прывёў на сустрэчу ўсіх сваіх хлопцаў. А ў той час (пачатак жніўня 1945 году) са мной заставалася пятнаццаць чалавек, узброеных аўтаматамі ППШ...

Мяне не арыштавалі. Чэкісты мяне ўзялі й сказалі: «Выведзі гэтую групу зь лесу, тады цябе не зачэпім». Я кажу: «Ну дык я ўжо выйшаў...» Мяне нібыта амніставалі, уладкавалі на працу на пошту, памочнікам начальніка аддзяленьня. Жыў дома, але пад наглядам...

Я ўжо ведаў, што мяне пасадзяць. Мог уцячы, але тады чэкісты арыштавалі б маю сям'ю... Перадаў хлопцам у лес вестку, каб яны ішлі адсюль. І вось яны кажуць: «Адыходзім, пойдзем на Польшчу». І пайшлі. Гэта ўсё мясцовыя хлопцы былі, беларусы. Зь іх памятаю Міцкевіча. Хата ягоная стаяла ў лесе непадалёк ад Алашак.

Мяне ўзялі 15 сьнежня 1945 году. Прыйшлі два лейтэнанты, сяржант і сем аўтаматчыкаў, акружылі хату... Пешшу прывялі мяне ў Варапаева, а пасьля на цягніку прывезьлі ў Вялейку. Пакуль ехаў у таварным вагоне, рукі і ногі былі зьвязаныя калючым дротам... Пасьля Вялейкі завезьлі ў менскую «амэрыканку», дзе жудасна катавалі... У Воршы ў перасыльнай турме ў камэры, якая разьлічаная на 20 чалавек, сядзела 240. Каленкі ў каленкі, сьпіна да сьпіны...

**— Што пыталіся ў Вас сьледчыя?**

— Яны ўжо ўсё ведалі. На мяне далі паказаньні Родзька і Марцінкевіч. Марцінкевіч выкладаў фізкультуру ў Віленскай Беларускай гімназіі й кіраваў Віленскім камітэтам БНП. Мне адразу далі паперу: «Знаеш почырк Родзькі?» Родзька пісаў, што я быў па Пастаўскаму павету кіраўніком БНП і была мной створаная ўзброеная група...

**— Які Вам быў прысуд?**

— Дзесяць гадоў ІТЛ і 5 гадоў паражэньня праваў. Трапіў я на залатыя прыіскі ў Бадайбо, гэта Якуція. А пасьля быў у Тайшэцкім «Озерлагу». Там давялося мне аднаму хаваць ксяндза Адама Станкевіча, але гэта асобная гісторыя...

**— Вы ўспаміналі Аўгена Жыхара, які апошні змагаўся з бальшавікамі...**

— Гэта быў таленавіты хлопец, пісаў прыгожыя вершы. Родам ён зь вёскі Новадруцк. Быў у СБМ, вучыўся ў Паставах у настаўніцкай сэмінарыі. Я яго прымаў у Беларускую Незалежніцкую Партыю. А пасьля Аўген трапіў у «Дальвіц» і вярнуўся сюды з дэсантам. У яго была партызанская група. Дзейнічала яна ў Пастаўскім раёне, каля Варапаева. Тэрарызавала камуністаў, савецкіх актывістаў, даносчыкаў і гэбістаў. Я вярнуўся зь лягераў, а Жыхар яшчэ быў у лесе. Ён загінуў напрыканцы лета 1955 году. Яго акружылі на хутары ў сямі кілямэтрах ад Паставаў. Прыйшлося Аўгену пусьціць сабе кулю ў лоб...

НЕАБХОДНЫ КАМЭНТАР

*Пытаньне супрацоўніцтва БНП з Абвэрам яшчэ ня вывучанае. Зусім магчыма, што Ўсевалад Родзька выступаў перад нямецкай вайсковай контрвыведкай як кіраўнік беларускай вайсковай групы, а не старшыня ЦК БНП. Менавіта пра гэта пісаў на эміграцыі капітан Сакольскі (гл.: «Беларускі Голас» (Таронта), 1966, № 137). Але гэта тэма для асобнага арыкула, які будзе прысьвечаны Ўсеваладу Родзьку.*

**Размаўляў Сяргей Ёрш**

ПОШТА «ШУФЛЯДЫ»

# УДАКЛАДНЕНЬНЕ

*да бібліяграфіі пра генэрала Вітушку*

Шаноўная рэдакцыя,

У нумары 32 вашае газэты за 3.11.1997 надрукаваная бібліяграфія публікацыяў, прысьвечаных М.Вітушку. На жаль, гэтая цікавая і карысная праца С.Ярша не пазбаўленая недакладнасьцяў. Зусім фантастычнай выглядае ў ёй пазыцыя №9. Справа ў тым, што нумару «Бацькаўшчыны» за 3.05.1949 ў рэальнасьці не існуе, а ў ніякіх іншых нумарох гэтае газэты, што выходзілі трохі раней ці пазьней за гэтую дату, няма артыкулу пад назвай «Генэрал Вітушка змагаецца». Артыкул «Вітушка шырыць змаганьне» (пазыцыя №10 бібліяграфіі) надрукаваны ў «Бацькаўшчыне» за 30.06.1949 (а не 30.05.1949, як у С.Ярша). Артыкул «У службе «Чорнага Ката» (пазыцыя №15) зьявіўся на бачынах усё той жа «Бацькаўшчыны» (№2(62) за 25.03.1950), а не ў часопісе «Божым Шляхам»*. Хацелася б падкрэсьліць, што гэтыя недакладнасьці былі заўважаныя мною пад час усяго толькі хуткага прагляду камплектаў «Бацькаўшчыны» і «Божым Шляхам», які меў зусім іншую мэту, чым спраўджваньне названае бібліяграфіі (неабходнасьць вэрыфікацыі ўсіх пазыцыяў гэтае працы, асабліва тых, што тычацца артыкулаў з перыёдыкаў эміграцыі, пакідаю на суд Архіву Найноўшае Гісторыі). Апроч гэтага, прапаную вашай увазе інфармацыю аб іншых публікацыях, што маюць згадкі пра М.Вітушку і (ці) арганізацыю «Чорны Кот», і якія не пазначаныя ў бібліяграфіі С.Ярша:

1. Z. Byelorussia (Whiteruthenia) under russian occupation. — London, 1949. P.4.
2. Атэнтат на Сталіна прыгатаваны беларускай партызанскай арганізацыяй // Бацькаўшчына. №5 (49). 6.02.1949.
3. На Беларусі партызанскае змаганьне не сьціхае // Бацькаўшчына. №11 (55). 4.05.1949.
4. Паняволеныя народы змагаюцца // Беларус. №2. 27.11.1950.
5. Супрацьбальшавіцкая дэманстрацыя ў Вільні // Божым Шляхам. №5 (44). Верасеньнь-кастрычнік 1951.
6. «Чорны Кот» дзейнічае // За Волю. №7. 15.10.1951.
7. Беларускі партызанскі рух // Бацькаўшчына. №4/5 (186/187). 31.01.1954.
8. Крушыніч С. Партызаны ў Беларусі гатовыя і чакаюць // Бацькаўшчына. №26/27 (208/209). 18.07.1954.
9. Volacic M. The Population of Western Belorussia and 1ts Resettlement in Poland and USSR // Belorussian Review. №3. Munich, 1956. P. 27-28.

**Ігар Лялькоў**

*Парыж, 16 студзеня 1998*

**Гэтая недакладнасьць у «НН» — памылка набору (рэд.).*

# ЭПІКОН

Алесь Белы

***

Надакучыла паліць сямнаццаты карабок запалак і атручваць сябе дымам ад спаленых думак. Абрыдла гэтая жахлівая адзінота, гэты вечны сум па жыцьцю, якое ўсё зьбягае й зьбягае. Не магу больш адварочвацца ад закаханых у вечаровым суботнім мэтро і плакаць начамі з гэтай прычыны. Апастылелі мае чатыры сьцяны, падлога, столь плюс вакно з шэрым домам у ім, яшчэ шарэйшым небам і чамусьці бязглуздай фіранкай. Усё абрыдла...

Заўтра — вясна!

Вольга Колас

## У ЛЮДЗКІМ НАТОЎПЕ

Два чалавекі, некалі знаёмыя, будуць ісьці насустрач адзін аднаму і не пазнаюць, ці зробяць выгляд, што не пазналі, не павітаюцца, нават ня зьдзівяцца нечаканай сустрэчы і не паразмаўляюць пра пражытае жыцьцё (што не заўсёды прыемна, хутчэй цяжка, аналізаваць зробленае; гэта як бегчы, а потым спыніцца і падумаць, як ты бег, наколькі хутка і куды прыбег).

Два чалавекі не абмяняюцца тэлефонамі і не працягнуць гутарку, бо за некалькі хвілінаў ці дзясяткаў хвілін усяго не раскажаш і чым глыбей зацікавіўся ўласным жыцьцём з дапамогай іншага, тым болей невыразнага знаходзіш. Факты — гэта дакладнасьць; так, але дзеля чаго і чаму ты сарваў гэтыя доўгія прыгожыя кветкі і што ты зьбіраесься зь імі рабіць?

Два чалавекі, некалі добра знаёмыя, не заўважаць адзін аднаго, можа, ня хочучы размаўляць пра сябе; пройдуць побач і міма, і, верагодна, сустрэнуцца яшчэ раз аднойчы і таксама незаўважнымі; а магчыма і не наблізяцца іх дарожкі на адно кароткае імгненьне...

***

Чым бліжэй падыходзіш да старасьці, тым болей папракаеш сябе за тое, што не падтрымаў сяброўскіх сувязяў, і сам вымусіў сябе сноўдацца па чатырох кутках адзіноты.

***

Мы пазнаем сябе з дапамогай пытаньняў іншых. «Як жыцьцё?» — і мы думаем, шукаем адказ. «Ты шчасьлівы?» Так, у гэты момант, я ня хворы, у мяне ёсьць хата, сябры, мае родныя мяне акружаюць любоўю, я — у коле дабра, і яно зараз, у гэты момант, не перакрыжоўваецца з плоскасьцю зла. Я шчасьлівы. Бо нічога дрэннага сёньня не адбылося; сябры даказалі мне сваю прыязнасьць. Я нічога сёньня не адкрыў новага. Я назіраў за засьнежанымі дрэвамі, глядзеў на яснасьць блакітнай палівы неба, падбеленую паўдзённым сонцам, я ішоў па ільдзістай дарозе і быў падобны да бяззьлівага дзіцяці. Я сьмяяўся з самога сябе.

***

Я заўважыла, што пастаянна чагосьці чакаю: вечарам я думаю пра раніцу як зыходную кропку ажыцьцяўленьня задумак і частковага зьмяненьня ладу жыцьця, летам я мару пра ярка-залацістую восень, кожную раніцу я чакаю тралейбуса, я чакаю пачатку заняткаў і іх канца. Я чакаю прывітальнай усьмешкі на тварах, але ня бачу яе. Я чакаю стыпэндыі, каб хутка яе патраціць. Я чакаю часу, калі я буду свабодна валодаць некалькімі мовамі і кіну позірк на свае разумныя жаданьні, што ўжо прарасьлі з-пад зямлі. Нарэшце, я чакаю сьмерці, бо пра яе не ўдаецца ня думаць. Само жыцьцё ў сваім існаваньні ня здольнае забыць пра чорна-шэры амонім, да якога яна надзейна прывязаная грубым поясам. А можа, ня трэба чакаць і маланкава-незадумліва адчыняць усе дзьверы? Такое немагчыма. Жыцьцё — гэта чаканьне.

Сяргей Конан

## СЬВЯТОЧНАЕ

За старым, засланым цыратаю сталом, сядзеў чалавек. Перад ім ляжалі сала і хлеб, у талерцы — кіслая капуста, палітая алеем. Ён браў нож, адразаў патроху ўсяго і клаў у рот. Затым чапляў відэльцам капусту і павольна жаваў. Пры гэтым погляд яго быў скіраваны за вакно. Там ляжаў бялюткі сьнег, які займаў усю прастору, аж да самага лесу. Ён думаў аб тым, як добра зараз выйсьці на вуліцу, узяць рыдлёўку для сьнегу і пачаць прабіваць сабе сьцяжынкі. Зрабіўшы ўсё, скіравацца свае сілы ў бок лесу. Прад гэтым засунуць за пояс сякеру. Хай пачне падаць сьнег і гадзіны будзе мала, каб прабіць шлях да лесу, але дайшоўшы, увайсьці ў прыгажосьць і падумаць, што вось гэтая невялічкая елачка надаецца для будучае ролі. Колькі ўдараў сякерай, і можна вяртацца дадому: у адной руцэ рыдлёўка, у другой елачка, за поясам сякера.

Вярнуўшыся дахаты, паставіць у куток зялёную прыгажуню. Адчуўшы голад, сесьці за стол. На стале салата, бліны, смажанае мяса. Адхіліцца на хвіліну, і вось ужо гучыць музыка. Так смачней.

Сядзець, есьці, глядзець, як засыпаецца непатрэбная сьцяжына да лесу. Потым падумаць: «А навошта яна?» — зразумець, што ў жыцьці хапае невытлумачальнага.

Скіраваць погляд на елачку і ўбачыць, як яна прыбіраецца ў цацачкі. Робіцца дзіцячым адчуваньнем сьвята. Скрыня з адтулінай, туды ставіцца ствол. Месца звычайнае ля вакна. З гарышча дастаецца скрыня з цацкамі, адна за другой разварочваюцца паперкі, зьяўляюцца самыя розныя цацкі: шары, шышачкі, пеўнікі, Дзед Мароз, сьнегавікі. Зараз іх трэба пачапіць на галінкі елачкі. Яшчэ крыху дожджыка, які срэбрам адбівае сьвятло.

Вось яно — сьвята прыйшло.

Наліць у келіх віна, сесьці ў фатэль, выключыць сьвятло. Месячык сваім сьвятлом гуляецца з цацкамі. Сьнег павольны і рэдкі, перастае падаць, а ўжо проста блішчыць. Дрэвы ўбраныя ў шэрань, віно цяплом разьліваецца па целе, музыка нясе з сабою ў бясконцую даль.

Прыйшла зіма. Сьвята.

Андрэй Мыш

## БЕЛЫ — ЗНАЧЫЦЬ ЧЫСТЫ

Я быў вельмі галодны! Сьнедаў каля васьмі гадзінаў раніцы, і пасьля таго прайшло ўжо амаль дванаццаць гадзінаў. І нічога ў роце!

На прыпынак прыйшоў, не зьвяртаючы ўвагі на час — не да гэтага! Дома ж шмат смачнага!

З радасьцю ўбачыў на прыпынку, так бы мовіць, суседку Сьвету — яна не выяўляла ніякіх эмоцыяў, што мяне крыху заспакоіла.

— «Тройка» будзе? — я вельмі на гэта спадзяваўся.

— Так! — з адказу бачна — яе страўнік не турбавала нічога!

— Калі?!

— Павінна быць, — паглядзела на гадзіньнік, — праз восем хвілінаў.

У той момант я не зьвярнуў увагі на тое, як зьмяніўся яе твар, калі яна ўзьняла на мяне вочы. Пазьней я дацяміў, што зь ёй гэта здарылася таму, што дзяўчына ўбачыла маю рэакцыю на яе словы...

Задаволены, я адышоў «ўглыб» прыпынку й загадаў сам сабе нічога не адказваць страўніку,назіраючы за мінакамі і знаёмымі, якія гэтаксама як і я пакуль не хваляваліся.

Хвіліны праз чатыры сустрэўся позіркам са сваім былым вучнем з вучэльні — той, не разважаючы доўга, накіраваўся да настаўніка. «Хлопец бяз комплексаў», — узгадаў я размовы зь ім і вельмі зьдзівіўся ягонаму «здравствуйте».

Размаўляць мне ня вельмі карцела, але маючы на ўвазе час, праз які павінен быў прыйсьці аўтобус, я паціснуў хлопцу руку й запытаўся пра ягоныя справы, магчыма, адразу зірнуўшы на гадзіньнік ды Сьвету.

— Я зараз на практыцы...

— Вось як! — я ўзрадаваўся. — Дык гэта ж самы добры час навучаньня! А як з вучобай? Наколькі я памятаю, у цябе былі праблемы па многіх прадметах, акрамя біялёгіі?

— Так, — хлопец усьміхнуўся аднымі вачыма, — але ўжо ўсё добра — засталіся адныя «госы».

— Дык гэта ж прасьцей простага!

На мяне паглядзелі зь недаверам, але пагадзіліся — гэтаксама, як зрабіў бы ў такой сытуацыі я сам.

Узьнікла паўза. Непадалёк «усталяваліся» яшчэ два знаёмцы, палілі, але колькі я на іх не глядзеў — не павіталіся... Сьвета крыху адышла. Аўтобус павінен быў быць пяць хвілінаў таму.

— Дзе ты «практыкуеш»? — я зморшчыўся і чамусьці ўзгадаў папярэдні рэйс.

— На «Ўсходзе», — хлопец зварухнуўся, — вось ужо амаль два месяцы адно й тое ж.

— Табе не падабаецца?

— Чаму? Нармалёва! Хоць я й ня п'ю (зашмат), гарэлка ёсьць заўсёды — я ж на трактары. Калым! Сумна, што ня ведаю, што рабіць далей. Вучэльню, можна сказаць... — хлопец узьняў галаву, — мабыць, пайду вучыцца далей, у тэхнікум.

— Залішнім гэта ніколі ня будзе, — сур'ёзна адказаў я.

— Вось! І я так думаю. А потым, мабыць, у Горкі...

— Сур'ёзна! — я не стрымаў усьмешкі.

— Але ня ведаю — тэхнікум, гэта тэхнікум, а вось акадэмія...

— Гэта тое самае! — я зноў усьміхнуўся. — Павер мне!

Адначасова зірнулі на гадзіньнікі, і з гэтага моманту мяне пачало мучыць пытаньне, ці магу я ў дадзенай сытуацыі мацюкацца.

— Ну, а як уласна жыцьцё? — са страўнікам можна было змагацца толькі так.

— Нічога цікавага! Ды й сяброўкі няма... — хлопец пацягнуўся па цыгарэту.

— Гм! — я ўсьміхнуўся. — А табе не здаецца, невядома, што лепш — калі яна ёсьць ці калі...

Запалка спынілася на палове шляху, і са мной позіркам, якім я звычайна глядзеў, прыкладам, на свайго філёзафа, пагадзіліся.

Я зноўку «ўзрадаваўся» ды дастаў «Беламор», ня зводзячы вачэй з твару суразмоўцы — ён не адрэагаваў ніяк.

Затое не прымусіў сябе доўга чакаць «бомж» — становішча склалася ня вельмі, і я ўжо палез па папіросу, але хлопец мяне апярэдзіў.

Аб «бамжах» было столькі нагаворана, што я вагаўся, ці трэба кінуць таму ў сьпіну некалькі словаў — апярэдзілі мяне й тут.

— А мой дзядзька таксама «бамжуе», — і аніякіх эмоцыяў.

Я маўчаў, я ня мог нічога сказаць — і не сказаў.

— І наогул, з нашае сям'і адзін я трымаюся, — працягваў навучэнец ПТВ-1, — бацька... бацька хоць і есьць тройчы на дзень, але, як гаворыцца, «пад абцасам» у мачахі.

— А адкуль, калі не сакрэт, вы прыехалі? — нарэшце выціснуў я зь сябе.

— З Карабаху, — лёгка адказаў хлопец, — тры гады таму.

Я сьціўшыся. Размова станавілася занадта цікавай, і я ня верыў свайму шчасьцю — паразмаўляць з чалавекам «нетутэйшым».

Пакуль лавіў свае думкі, на даляглядзе зьявілася цікавая, і хоць мне й дваццаць адзін год, даволі нязвыклая тройца. «Мянты» вялі маладога чалавека на 99% нецьвярозага і ўсё было б добра, калі б гэты чалавек нечакана для ўсяго прыпынку, а найперш для міліцыянтаў, вырашыў далей ня йсьці.

«Боўталася» (слова вельмі падыходзіць) тройца хвілінаў дзесяць. І што мяне вельмі ўразіла, «дубінка» выкарыстоўвалася, ну два-тры разы. У дадзенай сытуацыі даволі шкада было «зялёнага», які, як толькі парушальнік(?) пачаў узбрыкваць, прышчапіў бранзалетамі яго да сябе — потым ён падаў некалькі разоў і ўвесь, гаротны, выпэцкаўся.

— Зьехалі з-за вайны? — я праводзіў тройцу вачыма.

— Так, — хлопец абыякава плюнуў, — з-за гэтага таксама. Крым таго, была небясьпека зрабіцца злодзеем.

Я нічога не зразумеў, але матлянуў галавой, упэўнены, што зараз мне ўсё патлумачаць.

— Гэта толькі спачатку страшна — забіць, а потым аўтамат — звычайная прылада дзеля існаваньня.

Такое тлумачэньне, скажам так, агаломшыла мяне. Я нат некаторы час маўчаў, але, схамянуўшыся, што юнак можа апярэдзіць мяне зноў, выціснуў:

— І ты... ваяваў? Ты... страляў... у людзей?!

На мяне ўтарапіліся насьмешлівым і чамусьці ўзрадаваным позіркам і кіўнулі галавою.

У аўтобусе нас разьдзёрлі ў розныя бакі, але я нікога не заўважаў. Нягледзячы на TV у кожным доме, пачутае было нагэтулькі далёкім і жахлівым... А найперш, такім нерэальным у маёй Бацькаўшчыне!



Здымак М.Баразны

Руслан Равяка

## З ЗАЦЕМАК БЯСКУТНІКА

Тыя, хто не плявузгаў мне ў твар усялякую мярзоту, тыя, хто не пляваў на мяне, тыя, хто падаваў мне руку, калі сустракаўся на вуліцы, тыя адзінкі казалі пры сустрэчы адно й тое ж (зразумела, акрамя «Дзень добры»): «Вяртайся дадому».

Дадому... Да якога? Да чыйго? Нашто? Ці не найлепш цягацца валацугам, аглядаючы і зьбіраючы ў памяці сусьвет, аскепак за аскепкам.

Дадому... Ці атрымаю я ад таго хоць нейкую раўнавагу, супакой? Да прыкладу, тыя ж жыды, знайшоўшы запаветны край пры Масеі, нашто расьцягнуліся пасьля па сьвеце? Ці ня доказ гэта, што ўся Зямля — адна хата? Маленькі шарык, атам касьмічнага сусьвету.

Дадому... Да бацькоў? Дзе яны цяпераka? У кожнай крупінцы жвіру, у кожнай клетцы жывой істоты.

Дадому... Я абмацваю ў кішэні ключы, што ляжаць побач з каляровымі паўнавартаснымі паперкамі. Ці не зьяўляюцца гэтыя кавалачкі мэталу (што ўпускаюць нас у нашую ж уласнасьць) часьцінкамі нашай хаты? Хаты, якая заўжды пры нас!

Дадому... А што робіць чалавек дома? Есьць, сьпіць, спраўляе патрэбу, чытае газэты, глядзіць тэлевізію. Але амаль усё гэта можна рабіць і на працы, і ў гасьцях, і ў гатэлях. Дык чаму ж хата значыць нешта для індывідуума?

Дадому... Я адчыняю дзьверы і ўваходжу... ТАК, уваходжу ў ХАТУ... Ці ўсё ж у адзін зь яе пакояў?

Усё зьнішчана, скрадзена, выпалена, выцягнута, раструшчана...

Я ВЯРНУЎСЯ... У спальным пакоі, дзе некалі месьцілася мая калыска, цяпер ляжыць застарэлы прадукт жыцьцядзейнасьці нейкай чалавечай істоты. Што далей?.. Дзе тая радасьць вяртаньня? Дзе цеплыня сустрэчы сваякоў? Дзе самі сваякі? Шыбы з вокнаў усходняй часткі дому раскіданыя на падлозе, як у дзіцячай гульні «зьбіранцы». Халодны вецер з вакенных нішаў паведамляе пра надыход новага дня. Навага дня Ўсходу. Крывавы ўсход бяз шыбы — вельмі ж натуральны.

Я сыходжу. Калі хто жадае, хай займаецца аднаўленьнем гэтай будыніны. Я вешаю ключы на цьвік, які ўбіты па-над дзьвярыма. Гэта ўжо ня мой дом, і дзіўна — няўжо я некалі вырас у ім...

Трэба вяртацца дахаты. Вяртацца ў новую хату, што збудую для сябе я сам, нёкалі па настрої...

Таццяна Сапач

# САЛДАТКА

*Я так моцна любіла яго,*
*што ня плакала;*
*Ах, ты ж, доля ліхая, —*
*адна для дваіх, — вайна...*
*У бабуліных сукнях хавала сябе,*
*ля вакна*
*Прала кужаль, сівыя палотны ткала,*
*А саткаўшы,*
*на страшныя паскі рвала.*

*Сустракала мілога ў кароткіх,*
*ды ясных снах —*
*Ён прыносіў з сабой ня зброю,*
*а кветку-ружу,*
*І ў зьнікомыя ночы*
*пяяла для нас вясна,*
*І здаваўся лагодным*
*штодзённы калючы кужаль,*
*Зь невядомай вайны*
*як чакала я мужа.*

*Ўстану я, ўстану я ранюсенька,*
*ўмыюся бялюсенька,*
*выйду я, выйду я на ганачак,*
*гляну я на зораньки...*

*Ён на золку спачыў*
*на гарачым маім плячы,*
*Ён вярнуўся жывы.*
*Толькі мне — сьвяткаваць*
*употай —*
*Пахнуць вусны яго*
*дыханьнем чужых жанчын,*
*Пахнуць русыя косы*
*гнілым чалавечым балотам.*

*Сьпі, стамлёны герой.*
*Мне пара да майго вакна —*
*Шыць палотны са сьмешных,*
*парэзаных крыва паскаў,*
*І для дзетак тваіх прыдумляць*
*праўдзівую казку.*
*Ах, ты ж доля мая ліхая, —*
*твая вайна!*



Уладзімер Арлоў

# ІНТЭРНАТ

Пасьля зьяўленьня на сьвет у полацкай радзільні на Верхнім замку я маю ўжо дзясятае па ліку жытло і, дарма што вокны маёй цяперашняй кватэры выходзяць на гармату ля ўваходу ў Нацыянальны музэй, рэшту зямнога тэрміну спадзяюся бавіць у клопатах выключна мірных і ў дом свой вечны выправіцца менавіта адсюль.

Перабіраючы ў хатнім зацішку згадкі пра былыя жыцьцёвыя прыстанкі, я пешчу ўдзячную эмоцыю да кожнага зь іх, але нязьменна прыходжу да адной высновы: найбольш плённымі з гледзішча экзыстэнцыяльнага досьведу былі гады, зьвязаныя зь сямейным інтэрнатам, што й сёньня можна адшукаць водбліз Дзьвіны паміж кінатэатрам «Космас» і манумэнтам першаму намёту наваполацкіх будаўнікоў, да бэтонавай агароджы якога былі некалі прышрубаваныя жалезныя літары, што складаліся ў лёзунг «Слава строителям коммунизма!»

У нашай інтэрнацкай сэкцыі, апрача кухні з паўтузінам сталоў рознае масьці, прыбіральні і душавога пакою, ператворанага кімсьці з гаспадарлівых насельнікаў у сьпіжарню, савецкія дойліды запраектавалі шэсьць жылых пакояў, дзьверы якіх выходзілі ў вузкі і прыцемны, як праход у начным агульным вагоне, калідор, дзе змагаліся за месца пад заседжанай мухамі лямпачкай дабітыя дзіцячыя вазочкі, зламаныя ровары й мяхі з бульбаю і раз-пораз прабягалі са сваімі клопатамі ўкормленыя прусакі.

У пакоі №1 жыў Кубінец зь ціхмянай і бляваю, падобнай да падвальнай расьліны жонкаю і сынам-мікрацэфалам Пецем, які насупор мэдычным заканамернасьцям рос хлопчыкам кемлівым і ў тры гады ўжо бойка чытаў загалоўкі артыкулаў у «Советской Белоруссии», што давала надзею на паступовае павелічэньне дробнай Пецевай галоўкі да сярэднестатыстычных памераў.

«Во дае, сука!» — замілавана казаў, слухаючы Пецю, гаспадар пакою №2 шофер Сьцёпа, які вечарамі вымочваў на кухні ў нейкіх хімікаліях скарыстаныя талёны на бэнзын. Вывеўшы штампы, Сьцёпа даводзіў талёны да ладу гарачым прасам і набываў на іх бэнзын яшчэ раз. У Сьцёпы былі два смаркатыя хлопчыкі-блізьнюкі і адна рухавая, са спакусьлівымі клубамі жонка Таня, якая прыкладна раз на месяц заходзіла да нас папрасіць кніжку пра любоў і прыкладна раз на дзень скардзілася, што малыя дрэнна засынаюць і не даюць ім са Сьцёпам нармалёва «пажыць».

Але я ня скончыў пра Кубінца. Мянушка, атрыманая пасьля службы ў войску на Кубе, прыстала да яго, быццам дадзеная ад нараджэньня, і дазваньня сьцёрла ў маёй памяці ягонае сапраўднае імя. Кубінец сьцьвярджаў, што быў у ліку сотні «савецкіх», якім Фідэль Кастра адмысловым указам падараваў па аўтамабілю «Волга».

«Волгу» Кубінец напраўду меў, аднак якога-небудзь адмысловага інтарэсу да падарунку барадатага камандантэ не выяўляў: езьдзіў на ёй гады ў рады, размовы на аўтамабільныя тэмы не падтрымліваў.

Кубінец увогуле не цікавіўся нічым. Ён не чытаў ні кніг, ні, у адрозьненьне ад сына Пеці, газэт і бясконца звальняўся і ніяк ня мог звольніцца са сваёй канторы па зборы харчовых адкідаў.

Адзіным, што змушала ягоныя выцьвілыя балотныя вочы загарэцца, былі кубінскія прыгады. На далёкай высьпе Свабоды яму падабалася ўсё: прырода, садавіна, «кармёжка» з адбіўнымі, Фідэль, які на сьвяты адпраўляў кожнаму «савецкаму» пэрсанальную пасылачку. Але найглыбейшую ўдзячнасьць сусед захаваў у сэрцы да тамтэйшых жанчын, што, калі даваць веры Кубінцу, ва ўмовах акружэньня імпэрыялістамі гатовыя заняцца з «савецкімі» любоўю ў любы момант, дзе заўгодна і па-ўсякаму.

Пра сьветласкурых грамадзянак далёкае рэвалюцыйнае краіны ён адгукаўся даволі стрымана: маўляў, белыя супраць мурынак ці мулатак — гэта як «Прыма» супраць дарагіх цыгараў, скрынку якіх ён аднойчы атрымаў ад Фідэля на Новы год. Адзіным — затое якім! — выключэньнем засталася касірка гаванскага кінатэатру, якая была аматаркаю вафляў і шырока практыкавала каронны нумар — акрабатычны снайпэрскі скачок з высокае шафы на ўзбуджанага кампанэйра, што чакаў сваю абраньніцу ў ложку.

Калі воіна-інтэрнацыяналіста наведвала натхненьне, Сьцёпа, заслухаўшыся, спальваў прасам талёны. Але потым Кубінец замаўкаў, і ягоныя вочы ўмомант і надоўга зацягвала раска абыякавасьці. Сьцёпа гаротна падлічваў фінансавыя страты, а мне думалася, што служба на Кубе сталася для гаспадара пакою №1 найвялікшай жыцьцёваю драмай. Каб не штодзённая адбіўная, не фідэлеўскія цыгары, не мурынкі і скачкі сьветласкурай вафлісткі, ён мог бы ня страціць смаку ні да беларускіх краявідаў, ні да нашых ня менш прыгожых і таленавітых жанчын, а можа, нават і да ўласнае жонкі, якую за вочы і ў вочы Кубінец за худзізну клікаў Вудачкай і з гэтае прычыны ў закутку сваёй дрымотнай душы, магчыма, зайздросьціў Сьцёпу, што любасна зваў жонку Таню Тумбачкай.

У пакоі №3 вяла рэй банкірка Тонька — таўсматая, але спрытна змайстраваная вірлавокая жанчынка з глыбокім натуральным румянкам і чутным ва ўсіх пакоях сьмехам. Гэта цяпер я называю яе банкіркаю, а тады такія словы да нашых людзей ня тое што не стасаваліся, а лічыліся ледзьве ня лаянкай.

Тонька жыла са старой маці і з мурлатым сынам Вовам, якога звала Ваўцюлём.

Мікелянджэла казаў, што мармур трымціць пры ягоным набліжэньні. Кубінец меў усе падставы сказаць тое самае аб Пракопаўне. Розьніца была адно ў тым, што ён не прыкладаў для гэтага трымценьня, як і наогул ні да чога, аніякіх высілкаў.

Пракопаўна нейкім сёмым пачуцьцём адчувала, калі Кубінец дома, і тады выйсьці з пакою, зачыненага зьсярэдзіны на засаўку, яе не прымусіў бы й сам д'ябал. На жаль, зацятае сядзеньне ў аблозе было найлагаднейшаю праяваю дачыненьняў Тоньчынае маці з Кубінцам.

Штотыдзень, зазвычай у сераду, сэкцыя прачыналася сярод ночы ад вусьцішнага ёкату. «Ратуйця! — неслася з пакою №3. — Газы!» Гэта быў толькі пачатак. Далей Пракопаўна напрамілы бог благала суседзяў схапіць душагуба, выклікаць «органы» і запраторыць героя кубінскае рэвалюцыі на Калыму.

Мацней, чым у Госпада Бога, Пракопаўна верыла ў тое, што ўначы Кубінец падкрадаецца да дзьвярэй і адмысловаю помпаю напампоўвае ў ейны пакой праз замочную шчыліну сьмяротныя газы.

Лямант на блізкіх да ультрагуку рэгістрах доўжыўся з паўгадзіны, потым Тоньцы небясьпечна вялікаю дозаю сонных пігулак удавалася ўтаймаваць ахвяру воіна-інтэрнацыяналіста, і мы мелі наперадзе адносна спакойны тыдзень, пасьля чаго ўсё, прычым без варыяцыяў — нібы Пракопаўна зноў і зноў агучвала той самы зацьверджаны недзе тэкст — паўтаралася.

Кубінец, аднак, быў ня самым страшным ворагам, бо Пракопаўна ў часе ягонае адсутнасьці, рызыкуючы трапіць у пастку, усё ж адважвалася перасоўвацца па сэкцыі. Кароткімі перабежкамі яна ў зашмальцаваным да бляску чугаі з кветкамі несымпатычнага колеру дасягала прыбіральні, а зрэдчас, лякаючы дзяцей і дарослых бяскроўным тварам і рэдкімі разбэрсанымі валасамі, зазірала і на кухню, штораз наводзячы на думку, што без усялякага грыму з посьпехам прайшла б кінаспробы ў самога Хічкока.

Акром Кубінца Тоньчына маці баялася яшчэ некага. Прычым, калі непрыяцель, так бы мовіць, унутраны дазваляў хоць зрэдку трапіць у прыбіральню, дык зьнешні вораг быў настолькі бязьлітасны, што тэрыторыю сэкцыі Пракопаўна пакідала адно раз на год, калі Тонька брала адпачынак, падганяла да інтэрнату таксоўку, загружала туды валізы з Ваўцюлём, усьлед літаральна на сабе сьцягвала маці і везла яе на вакзал, а адтуль кудысьці на радзіму пад Тамбоў.

Летняя пілігрымка ўплывала на суседку памысна: па яе вяртаньні дзесьці зь месяц Кубінцава сьмертазабойчая помпа ржавела бяз справы і прахопліваццa ўначы даводзілася праз іншае.

Іншым былі польскія народныя песьні, што разьлягаліся па-над сэкцыяй, шырокай ручаінаю выплываючы з пакою №4.

Пакой займала настаўніца біялёгіі Каця зь пяцігадовым сынам Ярыкам, які меў галоўку нармальных памераў, але чытаць, у адрозьненьне ад Кубінца-малодшага, пакуль ня ўмеў, што ў нашым клімаце не выглядала катастрофаю, бо анічога ня петрыў у літарах і Тоньчын Ваўцюль, што ўжо мусіў ісьці ў школу.

Настаўніца Каця не вызначалася нічым, апрача сваёй усьмешкі, якая ўвачавідкі пераўвасабляла замардаваную школьнымі нагрузкамі «вучылку» ў жанчыну, здольную падабацца значна маладзейшым за яе асобам супрацьлеглага полу, прынамсі — выканаўцу польскіх народных песень. (Падазраю, што адной усьмешкі тут было

Працяг на старонцы 18.

Ігар Бабкоў

# З цыклю «Сэнтмэнтальнае падарожжа Ван Вэя»

***

Чаму старадаўнія паэты
Не клапаціліся
Пра выратаваньне душаў?

Крыху віна, поўня, подых восені
І яны плачуць, як дзеці
Сузіраюць ружы ці хрызантэмы
Альбо глядзяць на мёртвыя целы
Што плывуць па Янцзы ў час бескаралеўя

Чэрпаюць месяцовы адбітак
Не зважаючы на багоў і герояў
Бог, Імпэратар — аднолькава ў вышынях

І толькі іхныя душы
Як кірлі на пясчаных плёсах
Імклівыя, незваротныя
Альбо як высокія сосны
Раскінутыя на паўсьвета
Альбо як клёны
Што раняюць лістоту
Са шкадаваньнем

Ідучы гасьцінцамі, сьцежкамі
Самотныя, разам з усімі
Лёгкія, невыносныя
Заўсёды ў небясьпецы

Яны не шукаюць ключы
Ад незамкнутае брамы
Якой няма і ня будзе
У восеньскім парку

***

Калі восень
Нечакана прыходзіць у халодным сутоньні
Ахінае крыламі астуджае раскошай
У прысадах вецер
Гуляецца з мокрым лісьцем
І кроплі дажджу цалуюць выпадковыя твары
Тады ўсюды
Як подых, як прадчуваньне
Нябачна, невідочна, уяўна
Сыйшоўшыя з далёкіх вышыняў
Красуюць белыя кветкі

Лотаці эдэльвэйсы хіба словы нешта значаць
Калі жыцьцё толькі сон і варта нарэшце прачнуцца
Разам зь імі
У краіне Чыстай Зямлі
Дзе душы, вольныя ад пераўвасабленьняў
Ад падарожжаў, ад прывязанасьцяў, ад пакутаў
Ад сьмерці
Уступаюць у чыстую дасканаласьць

Ах, прачнуцца бы там, ды толькі восень
Занадта пяшчотна абсыпае лістотай
Засьціць вочы
Шапоча пра вусьцішную радасьць каштанаў
Пра тое, што сьмерць — гэта сьвята
А чысьціня — гэта чыстыя вусны...

Восень...
Шапоча простыя зьнікомыя словы
Неба, аблокі, каханьне, сьвятло, самота
Аблокі плывуць, зьнікаюць у цішы неба
Як вечныя, празрыстыя, дасканалыя тайны
Каля якіх так імкнесься
Яшчэ крыху пабыць
Затрымацца

***

Нерасчытаная сутра
Аднаго з патрыярхаў
Забытага веравызнаньня
Невядомае веры

Там усё запісана:

Пра пераходы
Ветру і цішы
Жыцьця і руінаў
Сну й чуйнаваньня

Пра вайну зь ліхтарамі
Затрыманага часу
На маршруце жаданьняў
У лябірынце пяшчоты
Дзе замест Мінатаўра
Кроплі марціні

Сутра
Незьлічоных квікоў
З адмененых падарожжаў
У кішэнях
Начнога ветру

Тэлефонаў
Па якіх не шукаеш нікога
Запісаных забытых
На рахунку кавярні

Сутра
Адкладзенага спадзеву
На пераўвасабленьне
У мёртвую котку
Што ляжыць пры дарозе

Сутра блуканьня...
Для аднаго з патрыярхаў
Даўгачаканай самоты
У гатэльным пакоі
Дзе толькі сьцены і неба

# ІНТЭРНАТ

Працяг са старонкі 17.

недастаткова, але чаго ня ведаю, таго ня ведаю).

Ды пра начнога сьпевака — трохі пазьней.

Пакой №6 за маёй памяцьцю не адчыніўся ні разу. Хто і ў якім годзе ўключыў за ягонымі дзьвярыма — дзякуй богу, што не на поўную гучнасьць — радыёкропку, заставалася таямніцаю й давала падставы для размоваў, што час ад часу ўспыхвалі на кухні на прадмет напісаць куды сьлед і ўрэшце разабрацца. Я сьвядома не прыслухоўваўся, бо мне было даспадобы ўяўляць, што ў зачыненым пакоі некалі прычынілася забойства і там дагэтуль ляжыць, слухаючы радыё, на канапе ці стаіць у сьценавой шафе і таксама слухае навіны і музыку акуратна запакаваны ў гермэтычны поліэтыленавы мех труп гаспадара — у строгім чорным гарнітуры і пры гальштуку з «паўлінавым вокам». Паводле адной з вэрсіяў, трупаў (і, адпаведна, гермэтычных празрыстых мяхоў) магло быць два: мужчынскі — у гарнітуры — і жаночы — дасканала прыгожы і абсалютна, калі не лічыць буйных малахітавых завушніцаў, голы.

Пакой №5 — паміж трупамі і настаўніцай Кацяй — належаў нашай дружнай сям'і.

Плошчаю выдзеленая нам вальера не дацягвала да адзінаццаці мэтраў, аднак разьмясьціцца дазваляла вельмі выгодна: пры вакне стаяў стол, пры адной сьцяне (той, за якою з шасьці раніцы і да паўночы хтосьці праслухоўваў першую праграму радыё) — паўтарачны ложак, пры другой (за якой часам выконваліся песьні братняга польскага народу) — кніжная шафа і дзіцячы ложачак. Над ложачкам вісеў на цьвіку зроблены зь лесавых карэньчыкаў дракон, якога сын любіў перад сном засяроджана разглядваць і ласкава менаваў каконем.

Прасторы на тое, каб займацца падпольнымі абортамі, асабліва пасьля нараджэньня другога сына, калі рэшту жыцьцёвага абшару заняў фатэль часоў першых пяцігодак (у спальным выглядзе ён меў звычку бліжэй да раніцы абламвацца, і я падкладаў пад яго два стосы вішнёвых тамоў «Беларускай Савецкай Энцыкляпэдыі»), ужо не заставалася. Яе, прасторы, для гэткае спэцыфічнае дзейнасьці, шчыра кажучы, бракавала і раней, тым ня меней перад папаўненьнем маёй сям'і хтосьці з суседзяў напісаў заяву, што якраз падпольным абартарыем наш пакой і служыць. Саму заяву нам у міліцыі не паказалі, але выклалі дадатковыя доказы злачынства: мы жылі нелюдзіма і размаўлялі па-беларуску.

Без уліку Пракопаўны і верагоднай голай жыхаркі пакою з уключаным радыё, у сэкцыі атайбаваліся дзьве адносна маладыя незанятыя жанчыны, а таму раней ці пазьней у нашым калідоры зьявіліся б новыя мужчыны.

Густы ў Тонькі і Каці ў пэўным сэнсе супалі: да абедзьвюх хадзілі палякі.

Зрэшты, польскія імёны, польскія вусы і польскае ўсё астатняе настальгічна згадвае шмат хто з жыхарак Прыдзьвіньня.

У часы іхнае маладосьці палякі будавалі ў нас магістральны газаправод, і ў полацкіх ваколіцах густымі чародамі пасьвіліся показкі пра мужоў, якія заранa вярталіся з камандзіровак альбо, наадварот, прыбывалі са значным спазьненьнем, і ўласныя дзеці сустракалі іх на парозе радасным галёканьнем: «Дзень добры пану!»

Нягледзячы на складаную кан'юнктуру ўнутранага рынку і неаднаразовыя заявы майго знаёмага Эўгеніюша, што адсюль і да Смаленску — іхная, польская зямля, я таксама захаваў пра будаўнікоў газаправоду ўспаміны пераважна сьветлыя.

Тым часам я загрымеў з апэндыцытам у лякарню.

Выпадак аказаўся гнойным, і мяне рэзалі пад агульным наркозам. Апоўначы я выкараскаўся зь беспрасьветнае нірваны і пачаў клікаць дзяжурную сястру.

Як пазьней высьветлілася, сястрычка зь дзяжурным доктарам цешыліся ў тыя хвіліны адно адным у працэдурным пакоі, а крыкі й енкі ляжачых хворых толькі абвастралі ім асалоду.

Пачуцьцё хрысьціянскае міласэрнасьці было майму суседу па пасьляапэрацыйнай палаце калі ня вельмі роднае, дык не зусім і чужое. Наслухаўшыся маіх стогнаў, ён дацягнуўся з ложка да графіна з вадой і папусьціў той у адчыненыя дзьверы.

Графін гахнуў у калідоры аб сьценку; сястрычка, сарваўшыся зь месца, зь нянавісьцю ўшпіліла мне супрацьболевы ўкол, а суседа ўзнагародзіла адным з тых позіркаў, якімі адорвала пацыентаў ейная вядомая заакіянская каляжанка міс Гнусэн з раману Кена Кізі «Над зязюліным гняздом».

Польскія бацькі ахрысьцілі сына Адольфам, але той ветліва дазволіў — калі мне гэткае імя не да душы, зьвяртацца да яго проста як да пана Зайкоўскага.

Пан Зайкоўскі апавядаў, што на бальнічным ложку апынуўся пасьля таго, як у цёмным завулку «рускія» праламілі яму галаву «за кобет». У якасьці пакараньня за начную эскападу з графінам яго перавялі ў самую вялікую палату, а да мяне з той жа мэтай падсялілі вашывага хлопчыка Дзіму, у выніку чаго я адзіны раз у жыцьці падстрыгся «пад нуль» і згаліў бараду.

Прыблізна тады мая знаёмая Соня, што раз-пораз прыносіла мне ў рэдакцыю гарадзкой газэты вершы, зьлюбілася са сваім Вальдакам.

Чараваты і чымсьці падобны да закажанелага ў раньнім маленстве брантазаўра, Сонін муж аднойчы выпіў і ў параксызьме рэўнасьці замест каханае жонкі пасек на дробныя трэскі ўсю кухневую мэблю. Гэта была памылка. Дзеля аховы рэшты маёмасьці Соня прывяла цьвярозага і па-спартоваму падхорцістага Вальдака, які ад таго вечара стала атабарыўся ў Сонінай кватэры. Мужу Колю яны вызначылі месца ў кутку, а неўзабаве кватаранта канчаткова зацкавалі і выправілі ў сьвет цэлы.

Колю, як часта ў такіх выпадках здараецца, ніхто не шкадаваў. Шкадавалі Соню, бо ў Вальдака скончыўся кантракт, а разам зь ім адплыло, здавалася, у невараць і шчасьлівае жыцьцё з кветкамі, шампанскім і прыбытковым гандлем фірмовымі джынсамі.

Толькі Соню шкадавалі дарэмна.

Завітаўшы пасьля доўгага перапынку да мяне ў рэдакцыю, Соня прынесла ўжо ня вершы, а мадняцкую скураную валізку. Былая паэтка закурыла добрую цыгарэту і прапанавала мне напісаць пра іхнае з Вальдакам каханьне раман. Я пачуў, што Вальдак будуе для іх дзесьці пад Гданьскам дом і ўжо другі год штодня, ураньні і ўвечары, піша Соні доўгія любоўныя лісты.

«Ня веру», — ляпідарна сказаў я. Соня расшпіліла валізку і выклала на стол акуратныя зьвязкі раскладзеных па днях і месяцах лістоў.

Маім суседкам Тоньцы і Каці падфартуніла меней.

Кацін Ярык узгадоўваўся хлопчыкам выхаваным і паслухмяным. Ён рана клаўся спаць, і Каця з маладым каханкам Стасем любілася ў сябе ў пакоі. Ярык не прачынаўся нават тады, як Стась нападпітку заводзіў сваю ўлюбёную «Кукулэчку».

У Тонькі сытуацыя склалася прынцыпова іншая. Ваўцюль, пэўна, пад уплывам неўраўнаважанай бабулі, спаць не любіў і, як заведзены, да позьняга шнураваў па калідоры.

Тонька з Казікам і пляшкаю «выбаровай» сядзелі на кухні, а бліжэй да паўночы, калі жыхары сэкцыі распаўзаліся па сваіх закутках і нарэшце ўдавалася ўтаптаць у ложак зьняможанага Ваўцюля, Тонька выносіла на кухню вялікі скрутак жоўтага паралёну.

Разоў колькі я неабачліва заходзіў папіць вады, пстрыкаў уключальнікам і засьпяваў суседку і Казіка ў якой-небудзь маляўнічай пазыцыі. Казік усхопліваўся з паралёну і, прыкрываючыся даланёй, мармытаў — урэшце, ня

# «Стары сябра з Захаду»

Працяг са старонкі 19.

адной з карцінаў я пазнаў самога Фэна.

...............

На наступны дзень ён мусіў ад'яжджаць.

Праз тыдзень пачалі прыходзіць лісты. Фэн пісаў іх у цягніку й адпраўляў з усіх магчымых станцыяў па дарозе. У іх было пра ўсё: пра дзяцінства й пра каліграфію, пра кітайскую паэзію й пра Ван-Гога, пра Шанхайскую самоту, пра дзесяцімэтровы пакойчык, у якім яны жывуць разам з жонкай і маленькім дзіцём, пра тое, што мэнавіта цяпер трэба быць асьцярожным — таму яны ня змогуць адразу выслаць запрашэньне — як мы дамаўляліся ў Менску.

.........................

Апошні ліст быў зусім кароткі. Фэн паведамляў, што яны прыехалі дахаты й яшчэ мелі колькі часу на невялічкае падарожжа на Поўнач, да Вялікага Муру. Яшчэ ён пісаў, што магчыма хутка ўсё зьменіцца і яны гатовыя да ўсяго. Да ліста быў прыкладзены фотаздымак: Фэн разам з жонкай стаіць на Вялікім Муры, які губляецца ў глыбіні ляндшафту. На заднім пляне нейкія размытыя сылюэты — танныя кодакаўскія апараты не бяруць задні плян — але можна заўважыць абрысы самой сьцяны, горы й нейкія чорныя кропкі, раскіданыя паўсюль.

Фотаздымак адразу знайшоў сваё месца — на паліцы старой шафы з кнігамі, за шклом. І, нягледзячы на ўсе нашыя пераезды й ранарацыі, ён нязьменна знаходзіўся сярод папераў і кнігаў і нязьменна ўзносіўся на старую шафу. Гэтая нязьменнасьць пачала дзівіць і нават пужаць, тым больш, што ад Фэна больш не было аніякіх вестак, а мой ліст, падпісаны нязграбнымі герогліфамі, хутчэй за ўсё, не дайшоў.

Час мінаў, абвалілася Імпэрыя, і наш дзіцячы садочак з герогліфамі ўсё больш і больш адсоўваўся ў глыбіні памяці, каб выплываць адтуль у рэдкія моманты ўспамінаў. Я паступова забываў кітайскія вершы, Чжуан-Цзы, якога я быў зьбіраўся перакладаць, усё глыбей і глыбей патанаў у архіве. Маё памкненьне «на самоце граць старую мэлёдыю» таксама не атрымалася: пры першай магчымасьці я нечакана для сябе рынуўся ў вір жыцьця й праз пэўны час быў абкладзены з усіх бакоў падзеямі, праектамі, сустрэчамі, плянамі, рахункамі. Недзе раз на год, выпадкова перабіраючы паперы, я прыгадваю сваё старое жаданьне стацца вялікім самотнікам і сэнтымэнтальна ўсьміхаюся.

З часам усё мяняецца. Час увогуле надае ўсяму сапраўдны вымер і сапраўдную велічыню. Так, некаторыя рэчы на фотаздымку, які даслаў Фэн, нібы расплыліся — фотаапарат і торбачка, што трымае жонка, амаль не пазнаюцца, пераўтварыліся ў каляровыя плямкі. Затое вочы сталі больш выразнымі. У іх раптам праявілася туга, амаль што скруха. Ды й ледзь заўважныя кропкі на тле ляндшафту відавочна пабольшалі, пачалі набываць пэўную форму.

Звычайны турысцкі фотаздымак, нічога асаблівага.

Я ведаю: заўтра я напішу пра гэта апавяданьне. Там будзе шмат культурных гульняў, стылізаваных пад успаміны, крыху ўспамінаў, стылізаваных пад культурныя гульні, жменька сэнтымэнтальнасьці, разбэўленая юнацкім рамантызмам, — тонкае пісьмо, што так нагадвае ягоную ўлюбёную каліграфію. Усё гэта таксама расплываецца зь цягам часу й застанецца самае істотнае: вочы, поўныя скрухі й чорныя кропкі на даляглядзе — Барбары з поўначы, што сыпяюцца на плошчу Цянь-Ань-Мэнь.

*Менск, 1997*



*Аксана Забужко належыць да цынічнага ў адным і рамантычнага ў другім пакаленьня 80-х. Такі самы ў глыбіні й яе раман: узважаны цынізм і палымяны рамантызм. Аксана Забужко — кандыдат філязофскіх навук, паэт (зборнікі «Травеньская шрань» (1985), «Дырыжор апошняй сьвечкі» (1990), «Аўтастоп» (1994)), аўтар аповесьці «Іншаплянэтанка» (1992).*

*Ніякі твор украінскай літаратуры ня выклікаў адразу такога шквалу рэцэнзіяў ва ўкраінскай прэсе, як раман «Палявыя дасьледаваньні ўкраінскага сэксу»: «Прарыў, роўны Катлярэўскаму зь ягонай слаўнай «Энэідай»...» (Всеукраинские ведомости), «Па выбуховай сіле — Генры Мілер у спадніцы» (Книжкова тека), «Самое жыцьцё, жыцьцё без прыкрасаў» (Киевские ведомости), «Нязвыклае для посткамуністычнага чытача адчуваньне свабоды духу» (Філософські студії), «Палявыя досьледы сырога цеста» (Сучасність), «Аўтар зрабіла вельмі рызыкоўна, не адмовіўшыся ад прэміі за лепшы АЎТАБІЯГРАФІЧНЫ твор году» (духі Літера). У часопісе «На екранах України» прагучала пра «першую пасьлядоўную спробу ўкраінскай літаратурнай шчырасьці».*

*Раман Забужко падсьвядома яшчэ застаецца тэкстам асьветніцкім, які меў бы навучыць убогіх, засыпаных пархамі суайчыньнікаў, як трэба змываць вапну і дзе стрыгчы пазногці. Мова раману застаецца прыкра барочнай і мудрагелістай, прыгожасьці кампэнсуюць слабасьць сюжэту і супярэчнасьцяў, перадусім унутранага сюжэту і ўнутраных супярэчнасьцяў герояў, падштурхоўваючы замежнага чытача да высноваў пра «ўкраінскі стыль» у прозе (Забужко, Андруховіч, Цыбулька, аўтары настолькі ж розныя для ўкраінскага вока, наколькі блізкія стылем і прыёмамі для тых, хто сочыць знадвору, і тыя самыя формы пісьма мы знаходзім у зноў жа непадобных Іздрыка і Мэдвідзя), нэабуржуазнае пісьмо і барочную плынь сьвядомасьці дзеяннасьці. Філязофія раману застаецца чужой для ўкраінцаў (ідэоляг украінскіх нэанацыяналістаў Сяргей Квіт абрынуўся на Забужко за тое, што яна ўвесь час патрабуе разбурыць Картаген украінскае правінцыйнасьці, і паставіў яе ў адзін шэраг з тымі, хто «ўжывае імя Бандэры, найбуйнейшага ўкраінскага міту XX стагодзьдзя, у якасьці лаянкі»).*

*Ужо сем гадоў незалежнасьці (сем!) прайшло, а мы ўсё думаем пра ўнутраную разьняволенасьць. Прайшло сем гадоў, каб мы зразумелі: у цяперашнім грамадзтве мала скінуць тыя ці іншыя ўласьці, мала ўзяць уладу, мала зьнішчыць адныя дзяржаўныя формы і стварыць іншыя. Палітычнае пытаньне перамясьцілася да іншых кропак праблематызацыі, як сказаў бы Фуко. Ідзецца не пра «зьмяненьне сьвету», а пра «зьмяненьне свайго сьвету», свайго дачыненьня і стаўленьня да сябе і іншых. 55 тысячаў падпісантаў «Хартыі-97», дэкларуючы сваю «прагу свабоды», грамадзкай свабоды, разумеюць (вось парадокс!): нам ёсьць КАГО вызваляць — у турмах сядзяць мужныя, лепшыя людзі — але нам няма ЧАГО вызваляць. Усе формы нібыта дазволеныя: дзяржаўная незалежнасьць, асабістая творчасьць, годнае жыцьцё — і ўсе яны не напоўненыя зьместам. Няма месца для вызваленьня, усё мае быць створана, выпрадукавана. Супраціў сёньня — гэта стварэньне. Бунт сёньня — гэта адмова ад разбурэньня, ад забываньня (чаго патрабуе ад нас пануючая ідэалёгія і адміністрацыя).*

*Уласна, мы мелі б падпісаць не дэклярацыю свабоды, а дэклярацыю працы: ніхто ня зможа прымусіць нас перастаць працаваць, ствараць, здаца, скласьці рукі. Таталітарызм ужо немагчымы, значыць, грамадзкая свабода ўжо нікуды не падзенецца. А свабоду ўнутраную не абвяшчаюць, а пацьвярджаюць. Даказваюць усё жыцьцё.*

*«У гэтай краіне ня маю я волі / Вось вобласка, сяду і ў сьвет палячу / Над гэтай Гаморай, над гэтым Садомам / Ня славы, ня сілы, я волі хачу / Бо ў гэтай краіне ня маю я волі...» — пісаў Сыс. Мы падумалі, што ідзецца пра грамадзкую свабоду, а йшлося пра свабоду ўнутраную.*

**Андрэй Дынько**

**Аксана Забужко**

# ПАЛЯВЫЯ

УРЫВАК

Ну, хай бы нехта ўсё ж патлумачыў: якога ЧОРТА было нараджацца на сьвет жанчынай (ды яшчэ й ва Украіне!) — з гэтай прадажнай ЗАЛЕЖНАСЬЦЮ, закладзенай у целе, як бомба запаволенага дзеяньня, з гэтай несамастойнасьцю, з патрэбай ператалівацца ў вільготную разьлезлую гліну, утаптаную ў паверхню зямлі (зьнізу, заўжды кахала — зьнізу, распластанай на сьпіне: толькі так і пазбывалася сябе з канцамі, зьліваючыся рытмам уласных клетак з праменнай пульсацыяй сусьветных прастораў, — з тым мужчынам ніводнага разу нічога падобнага не было, у момант, калі яна, здавалася, вось-вось пачынала ўяжджаць, ён, не спыняючыся, абуджаў яе рэзкім выдыхам: «МДА, ТУТ ТРЭБА РОТУ САЛДАТАЎ!» — гэта сьмяшыла, але ня больш: «ШТО ЗА ЗАЯЎКІ?» — абуралася яна: не на словы, на адчужанасьць тону. — «ГЛУПАЯ, ГЭТА Ж КАМПЛІМЭНТ! — ТАБЕ УВОГУЛЕ ТРЭБА З ДВУМА МУЖЫКАМІ ПАСПРАБАВАЦЬ, ВЕДАЕШ, ТЫ БАЛДЗЕЛА Б!» — цалкам магчыма, што і балдзела б, нездарма ж я любіла пад час каханьня кусацца, усмоктвацца вуснамі ў палец або плячо, зацягвацца да адурэньня бяздонным пацалункам; храмавай прастытуткай — вось кім я мусіла быць у папярэднім жыцьці; але ў гэтым — у гэтым, мілы, мне ох як ня ўсё адно з кім я: помню, я колісь сядзела ў электрычцы нью-ёрскага мэтро, з галавой занурыўшыся ў апошні раман Тоні Морысан, нехта пляснуўся побач са мной на лаўку, усім целам прыціскаючы да мэталёвай парэнчыны — і мяне раптам працяла чыстым, як высокая нота, зарадам такога магутнага эратычнага покліччу, што плоць зараз жа адгукнулася ўзбуджанай напятасьцю, напучылася ўсярэдзіне, як дрэва ўвесну; адначасова ўцяміла, што гэты мужчына, хто б ён там ні быў — ужо колькі станцыяў навісаў нада мной, і не быліб мы людзьмі, то ўжо зараз качаліся б на гэтай запляванай падлозе, бо, кахаючыся па-сапраўднаму, зьліваешся не з партнэрам — не, з буйствам безназоўнае сілы, што працінае сваімі струмянямі ўсё жывое, падкочваецца да яе, каб на некалькі сэкундаў — а-ах! — катапультавацца ў чарнату, якая вібруе агністымі абрысамі, якой няма ні найменьня, ні меры, на тым грунтуюцца ўсе паганскія культы, і толькі хрысьціянства замацавала гэтае зьліцьцё за ведамствам Чарнабога, замураваўшы чалавеку ўсе выйсьці з сябе, апроч аднога — праз верх, але для нашай эпохі, хоць па сутнасьці й постхрысьціянскай, ужо адрэзаны шлях да вяртаньня назад у аргаістычнае сьвята сусьветнай еднасьці: мы, кожны паасобку, безнадзейна заражаныя праклятым усьведамленьнем важнасьці і ўшчыльненасьці ўласнага «я», і таму пераможна-чыстая, галосная нота абарвалася і згасла ў маім целе адразу ж, як толькі той, справа, — ЗАГАВАРЫЎ: недзе яшчэ праз станцыю азваўся зь дзікім акцэнтам, спытаўшыся, што я чытаю: вучуся, ці як? студэнтка? — вось тут я ў першы раз зірнула на яго — гэта быў малады, дзесьці пад трыццатку, каржакаваты, моцна збіты, як з цэльнага кавалку адліты «шпік», яго пекныя, як слівы, вочы заімгліліся пажадлівым бляскам, так глядзелі на мяне, кожны з-за кратаў свайго жыцьця, сотні мужчынаў розных нацыяў і колераў скуры, высунуцца на хвілю — можна, чаго нельга — дык гэта выйсьці назаўсім; «Pardon me?» — перапытала я тым халодным вострым голасам, якім адшываюць нахабаў. І той Хуан, ці Пабла, ці Пэдра адразу ўцяміў, што — усё, канец, кантакты размыкнутыя, — «не, нічога» праблекатаў і яшчэ штосьці далей мармытаў сабе пад нос, ужо па-свойму, — магутны жывёльны заклік яго цела завяў, скруціўся, пачаў хутка-хутка згасаць, побач са мной сядзеў самы звычайны прычэпа-эміграцнік — між іншым, неўзабаве хутка ўстаў і папраставаў — ці да выхаду, ці так куды, я ўжо не глядзела, вярнуўшыся да кніжкі: АСОБА, толькі вынырнуўшы, пазбавіла моцы чары ПЛОЦІ. Можа, сапраўды, адзінае выйсьце з гэтай вязьніцы — ісьці з хаты вечарамі, нізка насунуўшы капю-

*Рэдакцыя палічыла патрэбным некаторыя ненарматыўныя словы ў тэксьце замяніць на больш «лагодныя для вуха». Мы разумеем, што гэтым разбураем эстэтычную цэльнасьць і сілу гучаньня тэксту, адна з мэтаў якога якраз у праламаваньні прынятых умоўнасьцяў. Тым ня менш, мы робім гэта, зважаючы на непаўналетніх чытачоў «НН».

Алесь Аркуш

# Нямоглы Парыж чакае маіх вершаў

***

іду па Парыжу
як турыст
іду па Парыжу
як чужы
іду па Парыжу
як эмігрант
іду па Парыжу
як дысыдэнт
іду па Парыжу
як летуценьнік
іду па Парыжу
як змоўнік
іду па Парыжу
як барбар
іду па Парыжу
як заваёўнік
іду...

ПАРЫСКІЯ ВЕРАБ'І

На каменным беразе Сены
кармлю з далоні тутэйшых вераб'ёў

папрашайкі падобныя да полацкіх
толькі яшчэ больш нахабныя

дзясяткі фотаапаратаў японскіх турыстаў
здымаюць нас як супэрзорак

парыскія нахабнікі
лезуць у самую далонь

У МУЗЭІ ПІКАСА

У залях музэя Пікаса
думка — немастацтвазнаўчая —
не пакідала маю галаву —
для апантанага гішпанца
у цэнтры Парыжу вызвалілі палац
а для Селяшчука ў Менску
не знайшлося невялічкай залі

***

Пяць разоў на парыскіх вуліцах
сустрэчныя мінакі пыталіся ў мяне пра час
— ня ведаю — адказваў я ўсім
на шосты раз не стрымаўся
і паведаміў полацкі час
А зараз вярэдзіць маё сумленьне —
нехта з-за мяне спазьніўся на сустрэчу

ТВОЙ ПОЗІРК

Расставіўшы ногі як вежа Эйфэля
стаю над Парыжам і назіраю
за гульнёй вечаровых агнёў
Стомленыя аўто шукаюць
месца прыпаркавацца
сэкс-шопы навязьліва запрашаюць
за распусныя запавесы
чыгунныя масты па чарзе адпускаюць
рукі ад берагоў і сплываюць
па Сене разам з бляшанкамі
ад кока-колы і апошнімі жоўтымі
кляновымі лістамі
Калі вы не пасьпелі перабрацца
на патрэбны бераг не хвалюйцеся —
па сьвятлу пераходзьце
пераяжджайце — па сьвятлу
што ліецца з вакна на вуліцы Gravilliers

Ва ўтульнай кавярні
якую ведаеш зь дзяцінства
схаваесься ад вулічнай ілюмінацыі
і праз шчыліну лёгкіх фіранак
будзеш назіраць за мной
як за мімам
які нерухомы гадзінамі стаіць
на пляцы Palais Royal —
ці міргну ці варухнуся
гэткім чынам падаўшы знак

я стаю над Парыжам
і адчуваю твой позірк

***

Заўважаю пажадныя позіркі
гэтак некалі я зыркаў на новенькую ў нашай
клясе
прыгожую бялявую цыбатую дзяўчыну
бронзавыя мармуровыя гранітныя
бэтонныя шамотныя гіпсавыя вочы
праходжу — не спыняюся —
толькі — дзень добры і дапабачэньня —
музэі галерэі выставы мэмарыяльныя кватэ-
ры
Сёньня ізноў іду на ўзьбярэжжа Сены
карміць тутэйшых вераб'ёў —
нямоглы Парыж чакае маіх вершаў

*Парыж – Полацак*



# ДАСЬЛЕДАВАНЬНІ ЎКРАІНСКАГА СЭКСУ*



Здымак Алены Адамчык

шон плашча, сядаць у выпадковыя аўто, не называючы імя, рука кіроўцы на калене, нізкі, хрыпаты посьмех, гарачкавы шоргат непатрэбнай адзежы, ня трэба ўключаць сьвятло, ня трэба расплюшчваць вачэй, слухаць толькі кіпеньне крыві, і мужчынскую партыю ўдарных і сваё, ці ўжо-не-сваё раскрыцьцё-расступаньне, ОХ, ЯК ТЫ ФАЙНА РАСКРЫЛАСЯ, ну! ну! шчэ! шчэ! — ды толькі ж яны ўсе хочуць ГАВАРЫЦЬ, хочуць адсёрбнуць, разьвёўшы сьлінай і спэрмай, глыточак ЦЯБЕ: а што ты чытаеш, а куды йдзеш, а ці маеш мужа, трэба выдумваць легенду, «Как Вас зовут? — Ирина,» — было, было раз і такое, скончылася моцным, да жалезнага прысмаку, пацалункам у пад'езьдзе, вырвалася — уцякла, пасьмейваючыся самой сабе, ім усім трэба ПЕРАМАГАЦЬ, вось у чым рэч; шчыра, бясхітрасна браць і даваць, як вуглекіслата-хлярафіл-кісларод, яны ня ўмеюць, і той мужчына, які зараз даходзіць дзесьці ў пэнсыльванскай пушчы на адзінакроўнай ласцы братоўдыясparнікаў, бяз цэнта за душой і бяз слова ангельскай (а было ж калі падвучыцца, прыд-дурак), — эх, як жа ўсхадзіўся, як па-конску тады ўскінуў галаву, быццам батагом апярэзаны, калі ты, пасадзіўшы яго за столік у кавярні, спрабавала, паклікаўшы на дапамогу ўсю сваю стрыманасьць, унесьці хоць нейкую тэрапэўтычную яснасьць у гэтую супольную душэўную і цялесную нямогласьць, — усё праўда, мілы, і што я цябе ўжо не кахаю — таксама праўда: «ДЫК ТЫ ШТО, — выкінуўся лязом угору, як сьцізорык, — ДУМАЕШ, «ПАБЯДЗІЛА»?» — здаецца, так і засталася сядзець, разявіўшы рот: Мікола, хіба ж мы з табой канат перацягвалі?.. «ВЕДАЕШ, — зноў быў той зласвесны немігаючы погляд, быццам НЕШТА ІНШАЕ глядзела скрозь яго рэзка абведзеныя запаленымі правекамі вочы, як скрозь прарэзы маскі, — КАЛІ Б ТЫ БЫЛА МУЖЫКОМ, Я Б ТАБЕ ЗАРАЗ УВАЛІЎ!» Вельмі міла з твайго боку, каханы, — мне й самой часам ой як шкада, што я — не мужык).

Ты баба. Вось твая мяжа / І сьпіць твой месяц срэбнай блешняй / Як перац з кончыка нажа / У кроў утрушана залежнасьць

— мармытала сама сабе ў тыя страшныя зімовыя месяцы, па-іншаму страшныя, чым тыя, восеньскія: палова студзеня, люты, сакавік — ніводнай зьвесткі і ніводнай спробы што-небудзь даведацца — праз Атлянтыку. З Кембрыджу — ва ўкраінскае правінцыйнае мястэчка, у майстэрню, што цепліцца дрывамі, на гарышчы закінутага дому бяз адрасу і тэлефону, без клязэту і гарачай вады, з аднохой голай лямпачкай на скручаным шнурку пад стольлю, з палкай каўбасы і бляшанкай распушчальнай кавы, на запэцканым фарбамі нізенькім століку, ХОЧ' КАНАПКУ? О, ШЧЭ ПАМІДОРКА ЁСЬЦЬ, ХОЧ'? Госпадзе, жыве ж хлоп, — як сабака прыблудны, да шостай раніцы не кладзецца спаць, з-за мальбэрту за аўтамабілем гэтым сваім беспрытульным — безгаражным! — праз вакно назіраючы, у дваццаць пяць, нават у трыццаць такое яшчэ можна вытрываць: зьвярыная энэргія вывозіць — але ў сорак! Тым часам у яе кембрыдзкай хаце, раз за разам перамерванай бязмэтнай хадой з кута ў кут і назад (праца, дзеля якой быццам бы й ехала ў Штаты, рассыпалася як неахайна складзены картачны будыначак), — нешта незразумелае рабілася з тэлефонам: раз-пораз трывожылі ўначы яе сон капрызныя званкі, зрывалася, хапала слухаўку: «Хэлоў!» — дзесьці далёка на бязмоўнай лініі сьвістаў парывісты вецер і глуха ракатаў акіян, пару сэкундаў неабжытая, незаселеная прастора пад паўночным паўшар'ем давала ёй зьвестку пра сябе, быццам насамрэч у ёй «хтось крычаў скрозь ноч яе імя, як быццам у пакуце», — і ня мог дакрычацца, з-за чаго нямы сыгнал перарываўся: падводна-зеленаватым зьзяньнем успыхвалі бельмы кропак на слухаўцы, і булькатаў у раструбе бяздушны зумэр, — о, у вас абодвух хапіла б моцы павыводзіць з ладу ўсе тэлефонныя лініі над Атлянтыкай, гэтая шалёная, прагная да жыцьця моц фугасіла зь яго карцінаў і тваіх вершаў, ты пазнала яе адразу, толькі-толькі апынуўшыся ў ягонай майстэрні і начапіўшы акуляры з тоўстымі шкельцамі, стала перад палотнамі, і гэтак сама ён мусіў спазнаць тваю, — тваю,

Працяг на старонцы 22.



Адам Глёбус

## ЗАНАТОЎКІ ЭГАІСТА

# ПРА

***

Ці бывае на фотаздымках будучыня? Рыторыка. Але ж вочы сфатаграфаваных істотаў углядаюцца менавіта ў будучыню.

***

Вельмі часта ты ходзіш на могілкі з адной мэтаю — паразглядаць фотапартрэты.

***

Фота вынайшлі не мастакі й не навукоўцы, а альхімікі. Фотаздымак — двухмерная праекцыя філязофскага каменя.

***

Фота — доўгі, сапраўдны, незавершаны час.

***

Самае выбуховае, экспрэсіўнае, дынамічнае фота ўсё адно мэлянхалічнае.

***

Найгоршая памылка чалавецтва ў дачыненьнях да фотавыявы — выкарыстаньне апошняй у якасьці доказаў сапраўднасьці й неабвержнага існаваньня той ці іншай падзеі. А ці існавала пачвара Нэсі ў Лахнэскім возеры? Не. Але ж фотакартку земнаводнага з маленечкай галавою й доўгай шыяю бачылі ці ня ўсе. Фота — ускосная ўліка, як і галасы на магнітафонных стужках, як малюнкі, як паказаньні сьведак, як група крыві.

***

Палітык, як і ўся палітычная дзейнасьць, ня можа быць вытанчаным. Да такой высновы



прыходзіш, разглядаючы газэтныя й тэлевізійныя твары генсекаў, прэзыдэнтаў, правадыроў і тыранаў.

***

Шмат сваіх апавяданьняў я напісаў, дзякуючы фотакарткам: углядаўся ў твары людзей, якіх даўным даўно нямашака на белым сьвеце, яны ажывалі й ціха расказвалі пра свае лёсы, а я запісваў.

***

Спытай у мяне, што больш за ўсё на сьвеце ня любяць прыгожыя жанчыны... Уласны фотаздымак у пашпарце.

***

Тэлевізію й кіно глядзяць, а фота бачаць і разглядаюць.

# ПАЛЯВЫЯ ДАСЬЛЕДАВАНЬН

*Працяг са старонкі 21.*

якая ў тыя зімовыя месяцы, так нечакана і напавал зьбітая са сваёй, нядаўна перад тым адшуканай восі (бо ты была — жанчына, жанчына, хай яму стонаццаць чартоў: павойная расьліна, якая без вэртыкальнай падпоры, няхай бы нават і прыдуманай, — без канкрэтнага аблічча жывога каханьня — ападала долу і засыхала, губляючы ўсякую прагу да верхабежнага разгону: кожны верш быў цудоўным байструком ад якога-небудзь князька з зоркай на ілбе, зорка звычайна потым згасала, верш — заставаўся), — пакінутая без нагляду, гэтая сіла разрывала цябе зь сярэдзіны, люта драпалася ў сьценках тваёй існасьці і звальвалася ў роспачнай бясьсіласьці, —

І раптам захацелася — крычаць. / На лямпу выць і кіпцюрамі драць / Шпалеры — ад усьведамленьня страт / Бо ўжо дарэмна на цябе чакаць. —

аж пакуль, у адзін сакавіцкі дзень, не абпаліла ўсё нутро жудасная думка, што ён — памёр, вось проста ўзяў і памёр, «ляпнуўся ў кропачку», як і хацеў (прызнаўся ёй у гэтым ледзь не на пачатку — з крывой усьмешкай разганяючы аўто, як самалёт на ўзьлётнай паласе сярод ночы на заморскай шашы, і мокрыя ліхтары ў дробнаіглістай срэбнай аблямоўцы, і чорны алейны бляск сустрэчных лужын, — усё зьлілося, навальна паімчала напярэймы, захопліваючы дух, сто, сто дваццаць, сто сорак, сто... сто шэсьцьдзесят? — НЕ БАІСЬСЯ? НЯМА ЖАДАНЬНЯ — ЛЯПНУЦЦА Ў КРОПАЧКУ? — не, не баюся, не было ў мяне сапраўднага страху, ды, папраўдзе, і зараз няма — дзіўна, ды й незразумела, надта ўзяўшы пад увагу ўсё маё, ах растуды тваю так, жыцьцё-катаргу, што нядрэнна пачалося, пры нараджэньні — клінічнай сьмерцю, мама згадвала, што ўжо і цэўка калу зьвісала з дупкі, а цельца пасінела: выткнула душанька нос на сьвет і заўпарцілася — э, не, пусьціце назад! — а яе, дзякуй, адкачалі, а хутка так, дык няма чаго плявузгаць, ёсьць рэчы, страшнейшыя за сьмерць, і я іх ведаю, толькі ад ТАГО страху — прывабнага і цёмнага, заварожліва-прыцягальнага захапленьня ад ЗГУБЫ, якое ёсьць у ім, і які я часам заўважала і ў іншых — няма ўва мне, і кропка, таму ён і глядзеў на мяне зь іскрамі непрыхаванага захапленьня ў позірку, нават калі ўжо ўсё скончылася: «А ТЫ АДВАЖНАЯ!» — і «кропачка» праскочыла тады паўзь мяне, не спалохаўшы), — але гэтая думка — што ён памёр, што тыя загадкавыя тэлефонныя званкі сапраўды-ткі ад яго: з «таго боку», а значыць, што яе каханьне не зьберагло яго, што яна сама, сама, нарцысычная эгаістка, гардыняй сваёй дурной, пыхай таннай, нараканьнем пустапарожнім падпіхнула яго да «кропачкі», дзе ж бач, прынцэса знайшлася: ах так? ну што ж, тады я паехала, — вядома ж, Амэрыка — the land of opportunities*, паў-Эўропы, ня нашай доўбанай, а самай сапраўднай, ад Брытаніі да Італіі, сюды ірвецца, грошы, кар'ера («МУЗЫКА, ЖАНЧЫНЫ, ШАМПАНСКАЕ» — азваўся ён гіранічным рэхам), а ва Ўкраіне што, Украіна — Хронас, які хрумае ўласных дзетак з ручкамі і ножкамі, што ж, так і сядзець, аж пакуль жаба цыцкі дасьць, ці то бок дыяспарныя дзядулі, калі клімакс стукне, прэмію Антонавічаў? — ай Бож-жа ж мой, дык ЧАГО яно ўсё на фіг вартае, калі ён памёр, што, што зь ім здарылася?! — гэтая думка была такой нясьцерпнай, што, выскачыўшы на ганак задняга двара, узьняўшы твар да зьменлівага кембрыдзкага неба, што хутка цьмянее ў наплывах хмарнай гуашы, ухлюпваючы зьліплымі ад сядзеньня й тытуню лёгкімі ледзь улоўны подых акіяну, яна пачала маліцца — так, як перад тым малілася толькі двойчы, раз за бацьку, які далежваў у лякарні пасьля ўжо непатрэбнай апэрацыі, гадзінамі курчачыся пад залпамі-мэтастазамі болю (а да наркотыкаў яшчэ не дайшло) — каб Бог хутка прыбраў яго, і ў другі раз, сорамна ўзгадаць, — за незалежнасьць, тады 24-га жніўня дзевяноста першага году, калі ўсё вырашалі гадзіны, як яно звычайна і здараецца ў жыцьці людзей і народаў: Госпадзе, прасіла-трымцела, дапамажы — ня дзеля нас, бо нягодныя мы, а дзеля ўсіх палеглых нашых, што несьць ім ліку, — і абедзьве малітвы былі пачутыя, ТАКІЯ малітвы да адрасата заўсёды даходзяць, а тут яна прасіла: Госпадзе, зрабі так, каб ён быў жывы! — хай бы забыўся пра мяне, хай бы вярнуўся да жонкі, хай бы здраджваў зь першай-лепшай, — ня трэба мне яго за мужа, і нічога ад яго ня трэба, калі на тое воля Твая, Госпадзе, я буду кахаць іншага, і зь іншым нараджаць буду дзяцей, толькі — о Госпадзе, хай ён будзе жывы. І здаровы. І шчасьлівы. Толькі гэта, Госпадзе. Толькі гэта.

Ну, «здаровы і шчасьлівы» — гэта ты, золатка, канечне, загнула праз верх, бо сілком нікога шчасьлівым зрабіць і Бог не патрапіць, так што ў апошняй рэдакцыі тваю роспачную тэлеграму мусілі прыняць БЯЗ гэтых двух словаў — калі б Бог слухаў дурнога паганятага... (А цікава, як яно там у іх адбываецца — ці нейкі анёл-сакратар адбірае зямныя пасланьні пры апараце, вымаючы з плыні ШЧЫРЫЯ, цяжкія і гарачыя і няўмольна спускаючы ў чорную дзірку бязважкія масы ПУСТЫХ словаў? — так і зь вершамі бывае: адразу абрыдае, як толькі пачынае валіць пустая парода, — і кідаеш, недапісаўшы). І яшчэ ў адным моманце ты тады схлусіла — у «хай бы забыўся пра мяне»: лепятнула ў паўзабыцьці, насамрэч цьвёрда ведаючы, што ніколі ён цябе не забудзецца, колькі будзе жыць: сьціснуўшы недакурак двума пальцамі, шпурнуўшы яго наводдаль, ажно дугою ў паветры блісмуў: «А ТЫ ПАДУМАЛА, КОЛЬКІ МНЕ АД ЦЯБЕ АДЫХОДЗІЦЬ? ГА?» — быццам праз сілу стрымліваючыся, каб не запусьціць і ёю усьлед за недакуркам («ТЫ Ж НЕ ЗАБЫВАЙ, Я ЧАЛАВЕК СЛАБЫ, Я МАГУ Й СЯКЕРАЙ ПА КАРКУ», — прызнаўся быў раз, і табе зараз жа блісьнула: вось, вось яно! ня хлусіць, праўду кажа! — і, з умомант уключанай БЕЗАСАБОВАЙ прагнай цікавасьцю, — загулі, застагналі нябачныя драты, шпарка пераганяючы інфармацыю, — выціснула-такі тады зь яго, хоць якога задубела-адпорнага на ўсякія роспыты-лашчаньні-сюсю-пусюну-скажы-мне-лапатаньні, — скупую, пункцірную гісторыю пра тое, як калісьці даўно, расьпісваючы вясковую царкву на пару «З АДНЫМ МУДАКОМ, ЯКІ МЯНЕ ДАСТАВАЎ», дайшоў да стану, што ганяўся за гэным зь сякерай у руках — няўжо вакол царквы, падумала ты, чамусьці ўявіўшы, што гэта мусіла адбывацца ноччу, бо няма нічога больш жудаснага за начную царкву з адбітай у цёмных шыбках угары поўняй, — вось з тых часоў і кідаецца наўцёкі кожны раз, толькі пачуўшы набліжэньне ТАГО духу, — ПАНЯТНА, гмыкнула ты, ЦІКАВА, хоць па-сапраўднаму цікавай была тут і далей поўная адсутнасьць у табе страху, вось стан — і ўжо, нібы ўсё гэта апавядалася праз бар'ерчык у пакоі спатканьняў у вязьніцы ці вар'ятні: даслухаеш — і пойдзеш, і за табой з гучным скрыгатам засунуцца абабітыя цынкам дзьверы і пырсьне ўздагон, як прысак пад скуру, сухое клацаньне павернутага ў замку ключа). Колькі мне адыходзіць ад цябе, колькі табе — ад мяне, «Сколько нам так еще идти, протопоп?» — спыталася жонка ў расстрыжанага Авакума, брыдучы зь ім, выгнаньнікам, па бязьмежнай раўніне, змучыўшыся бязмэтнасьцю шляху і прысеўшы на купіне, — і пачула ў адказ: «До самыя смерти, попадья». Усходні фаталізм, эге ж — у расейцаў гэта ёсьць, з намі горш, складаней, мы, уласна, ні сёе, ні тое, Эўропа пасьпела заразіць нас мутнай гарачкай індывідуальнага імкненьня, вераю ва ўласнае «магу!» — аднак падставаў для яго ажыцьцяўленьня, учэпістых структураў, якія б тое «магу!» падхоплівалі і трымалі, мы ніколі не стварылі, боўтаючыся стагодзьдзямі на дне гісторыі, — наша ўкраінскае «магу!» самотнае і таму бясьсілае. Амін.

Чаму табе здавалася, што ты ЗМОЖАШ на сваіх плячах выцягнуць яго з той ямы, у якую ён, відавочна ж было, так пасьлядоўна ўгразаў? Уласна, западозрыць мусіла ўжо ў першую ноч — калі, яшчэ толькі распранаючыся, ён прыжмурыўся насьцярожана, нібы прымерваўся: «А ТЫ МОЖАШ РАНЕЙ ЗА МЯНЕ СКОНЧЫЦЬ?» — засьмяялася, перапоўненая хаджэньнем сілаў, як бутля маладога віна: «Я ЎСЁ МАГУ!» Дурнічка, ужо тады павінна была б заўважыць, што ён НЕ ПАРТНЭР — што, закамянелы ўнутры сябе да шматгадо-

# ФОТАЗДЫМКІ



***

Подпісы пад здымкамі, як і надпісы на фотаздымках, могуць ня толькі графічна, але й сутнасна зьмяніць фотавыяву. Напішы на твары чалавека «раб» ці «кароль», накрэмзай выразную характарыстыку пэрсанажа і пабачыш зьмену. Фота падпарадкуецца надпісу цалкам, калі ты прадэманструеш новатвор іншаму гледачу. І нават у тваёй сьвядомасьці запульсуе пытаньне: «А ці ня раб гэты чалавек на картачцы?»

***

Разглядаю свае здымкі дый думаю... Вось памру, і паляціце вы ўсе ў сьметніцу, ой паляціце.

***

Фотакарткі сьмяротныя, як і ўсё на сьвеце. Зрэшты, што можна патрабаваць ад адлюстраваньня? Ведаю адзін жорсткі варыянт: прыходзіць Чорны чалавек, ірве здымкі і б'е люстэрка.

*20.01.1998*

Здымкі Алены Адамчык





# ЎКРАІНСКАГА СЭКСУ

вай мерзлаты, проста не разумее, што ён не адзін, нават і ў каханьні («ОХ, ЯК ТЫ ФАЙНА ДАЕШ!» — выстагнаў ён у яе — пасьля доўгага няўклюднага тузаньня, пасьля пакутлівых сутаргаў, пасьля ўсіх адчайных лямантаў — «АХ, НАШТО Ж Я КРУЦІЎ!» і «АЙ, БЛЯХА, А Я ТАК ЦЯБЕ ХАЦЕЎ!», пасьля правалу ў парухвілінны сон — самотны сон, наглуха адсечаны ад яе прысутнасьці побач: не зварухнуўся, калі напнулася вызваліцца з абдымкаў, ну й пайшоў на фіг, імпатэнт няшчасны, зараз устану, апрануся, зраблю кавы, хутка пойдуць аўтобусы, і можна будзе вяртацца ў гатэль, у вокнах майстэрні незваротна бякла, вадзянела сінеча, вымалёўваліся нагрувашчаныя пад сьценамі кутчастыя стосы палотнаў з дрогкага, як пратаплязма, прыцемку, паскудны час, час хворых і саракагадовых, гэта ў такой, пэўна, шэрай каламуці мардуюцца душы на тым сьвеце, — і вось тады ён зрабіў ёй балюча, сапраўды-ткі балюча, куды там згадцы пра страту цноты, painful intercourse**, вось як гэта называецца ў мэдычнай літаратуры, якую яна, зашуганая саўковая дурніца, толькі ў Амэрыцы ўзялася вывучаць, нават да лекара была пайшла, бо грызла гнятлівае падазрэньне, каб штосьці там у ёй, чаго добрага, не сапсавалася, прабач, Госпадзе, і вытрашчылася, не даючы веры, калі лекарка паціснула плячыма: «I don't see any problems»*** — а тады віскнуўшы дзікім голасам — тыдзень пасьля налупцаваная матка ныла, як перад месячнымі, — скалануўшыся, брыкнуўшы нагамі, — «МНЕ БАЛЮЧА, БАЛЮЧА, БАЛЮЧА, ЧУЕШ?» — яна пачула адначасова зь пераможна-грозным покрыкам: «А СЛАБО ЗА МЯНЕ ЗАМУЖ ВЫЙСЬЦІ? А СЛАБО АД МЯНЕ МАЛОЕ НАРАДЗІЦЬ? ДУРНІЦА ТЫ, ДУРНІЦА, Я Ж ЦЯБЕ КАХАЮ!» — як усярэдзіне займаецца і шырыцца яго вільготны набраклы жар, ох, гэтая хвіліна, усё — дзеля яе, пабудзь, ох, пабудзь яшчэ, ня йдзі, глыбокі ўздых, ён вынырнуў зь яе з такім прамытым ад пражытых гадоў, разгладжаным вільготным унутраным сьвятлом шчасьця тварам, ажно на вачах зьявіліся сьлёзы міжвольнай пяшчоты, у тых сьлёзах худы і вострарысы, натапыраныя вушы і скулы, пасьляваенны вясковы пацанок — бацька ў лягеры пасьля нямецкага палону, маці ў калгасе на бураках — стаяў з дубчыкам на выгане, упершыню ўражаны разьлітым уздоўж далягляду, колькі хопіць вока, барвовым золатам зары ў дымна-шызым шмацьці хмараў, сьвятло гарэла і зьмянялася, усё гэта было ў яго карцінах, вызваліць таго пацанка з гэтага маўклівага, з жорсткімі вуснамі, добра дагледжанага і ахайна паголенага мужчыны — «ТЫ НЕ НАРАДЖАЛА? ТВАЕ ВУСНЫ ПАХНУЦЬ НЯСЬПІТЫМ МАЛАКОМ, — ВОСЬ ВАЗЬМУ І ЗРАБЛЮ ТАБЕ МАЛОГА, ЧУЕШ? СЫНОЧКА», — гэта была цалкам самадастатковая творчасьць, у якой твая ўласная фізычная незадаволенасьць важыла не сама многа, — застаўшыся адна — бо ён, захутаўшыся ў даўгополае, падобнае да шыняля паліто, адразу падаўся на памыўку — звычка даволі хамская, калі падумаць, але і гэта цябе тады ня ўразіла, — ты вуркатліва пацягнулася, хрумснуўшы сплеценымі над галавой рукамі, і ўсьвядоміла з хрыплаватай усьмешкай, — ну вось цябе нарэшце і ТРАХНУЛІ, сяброўка, вось так, простым тэкстам — трахнулі, упершыню ў жыцьці, бо да таго ўсё болей — дагаджалі, цацкаліся, як зь цёплым цестам, дапытваліся, якія словы любіш, а тут проста ўзялі ды й паімелі памужыцку, без цырымоніяў, — і дзіўна, нават гэтая думка не была непрыемнай, і калі ты выцягнула з сумачкі люстэрка, наперад жахнуўшыся таго, што там пабачыш, — на трэція суткі неспаньня, пасьля ўсіх выпаленых цыгарак і каньякоў апоўначы, вось дык фэстываль выдаўся! — дый сама ўспыхнула радасным зьдзіўленьнем: на цябе глянуў разлагоджаны, памаладзелы да стану тваёй аўтэнтычнай прыгажосьці — далікатны і худзенькі, амаль дзіцячы, з гарэзьлівымі чорнымі вачанятамі тварык, па якім ты заўжды сябе ведала, але ў люстэрку ня бачыла ўжо хто ведае колькі: ты вярнулася да сябе, ты была ЎХАЦЕ, — а ён сядзеў у нагах ложку, паліў і глядзеў, яго неадрыўна зьвернуты да цябе прамяніста-заваражаны твар асьвятляў яшчэ цьмяную майстэрню, — раз-пораз нахіляўся над табою: лёгенька, хаваючы ўсьмешку, пацалаваць выстаўленыя з-пад адкінутага пледу смочкі і зноў беражліва, пасялянску нясквапна, як сваё дабро, укутаць цябе аж пад шыю, падаць кубак з кавай «ГЛЯДЗІ, НЕ РАЗЬЛІ», а ты тут-такі й расхлюпала, трасучыся ў рогаце, «А Я ЦЯПЕР ГЭТЫ ПЛЕД НА ВЫСТАВУ — І ПАДПІШУ, ХТО ЗЯЛЯПАЎ» — і, зьнянацку, — «ЧАГО ТЫ ПЛАКАЛА?» — не скажу, не, яшчэ не скажу, скажу пазьней, аж праз месяц, а раз сказаўшы, буду паўтараць ледзь не штохвіліны: з-за нястачы іншых, ямчэйшых словаў — калі няма такой цыстэрны, каб зьмераць бяздонны калодзеж, застаецца зноў і зноў спускаць і выцягваць тое самае дзіцячае ведзярцо — манатоннасьць паўтору, рыпеньне калаўроту: я кахаю цябе. Я кахаю цябе. Я кахаю цябе).

**Пераклад Андрэя Скурко**

*Пераклад зроблены паводле: Оксана Забужко. Польові дослідження з українського сексу. — Київ, 1996.*

* Зямля магчымасьцяў (анг.).

** Балючы полавы акт (анг.).

*** Ня бачу ніякіх праблемаў (анг.).

# Украінскі раман для беларускай літаратуры

*Раман пані Забужко, безумоўна, трэба перакласьці на беларускую мову.*

*Чаму?*

*1. Каб пацешыць тых, хто з надзеяй гартае старонкі беларускіх кніг і з расчараваньнем уздыхае: «Ня тое!» Гэты раман — якраз тое: нацыянальная літаратура, цікавая ня толькі ў межах нацыі.*

*2. Сярод мноства непрывабных, задохлых, выдуманых дзеля падмацаваньня тых ці іншых ідэяў герояў беларускай літаратуры гераіня пані Аксаны (ня будзем удакладняць, ці не сама гэта пані Аксана) вабіць жыцьцёвасьцю, а сам раман — СЮЖЭТАМ! СЮЖЭТАМ! — няхай трохі недасканалым, але здольным зацікавіць!*

*3. Пераклад гэтага раману дасьць магчымасьць асьвяжыць і ажывіць выкарыстаньне ў беларускай літаратуры (й мове тых, хто чытае беларускую літаратру) мноства словаў, агульных для нашай мовы (і, увогуле, разуменьне нашай салідарнасьці). Мова аўтаркі — вельмі аўтэнтычная, і нам, ахвярам русізмаў у пісьме і вуснай гаворцы, было б карысна да яе прыслухацца. (Асабістае назіраньне: у рамане сустракаюцца, прыкладам, словы «трузбыты», «бутлыты», «капсекіты», якія выкарыстоўвае мая бабуля — мяне гэта вельмі ўсьцешыла).*

*4. Іншая справа, што раман, пра які йдзецца, так і ня стаў ва Ўкраіне бэстсэлерам. Афіцыйны наклад выданьня — 5 тысячаў асобнікаў, падпольны (па словах самой пані Забужко) — 15 тысячаў. І гэта на 50-мільённую краіну! Няма падставаў для «Вівату». Але, як мне падалося, гэты раман і ня мог стаць масавым выданьнем — занадта ён разумны і філязафічны для гэтага.*

*Але, як і кожная якасная літаратурная рэч, украінскі бэстсэлер, які не адбыўся, можа стаць ускоснай практыкай натхненьня нашых аўтараў (з тых, чые імёны грэюць сэрцы нешматлікіх беларускіх чытачоў). Бо беларускіх чытачоў мала якраз таму, што ў беларускай літаратуры няма чаго чытаць, а не наадварот — няма літаратуры, бо няма чытачоў?!*

**Натальля Бабіна**

СТО ТВОРАЎ XX СТАГОДЗЬДЗЯ



# Ян Булгак. Выгляд з Зарэчча

*«Вартасьць фотаапарату ня толькі ў тым, што ён можа пераўтварыць фатографа ў мастака, але і ў тым, што ён падштурхоўвае яго глядзець і глядзець на сьвет...»*

*Брукс Андэрсан, «Аднойчы вакол сонца»*

... Беларусь не была радзімаю фатаграфіі, але беларусы аднымі зь першых падхапілі гэтае вынаходніцтва — рабіць імгненьне вечным. Яшчэ ў першай палове мінулага стагодзьдзя выбітны беларускі вучоны Наркевіч-Ёдка вырабіў першую ў сьвеце электраграфію — выяву на мэталe, зробленую пры дапамозе электрычных разрадаў. У 1883 годзе віцебскі фатограф Юркоўскі вынайшаў шторна-шчыльны затвор, прыстасаваны для кароткіх вытрымак, што дазволіла фатаграфаваць рухомыя аб'екты. Яшчэ напрыканцы мінулага стагодзьдзя слава беларускіх фатографаў набыла такія памеры, што для здымкаў імпэратарскае сям'і ў Пецярбург быў запрошаны фатограф з Магілёва Карл Була. Калі ў 1912 годзе з ініцыятывы Фэрдынанда Рушчыца Археалягічная камісія гарадзкое Управы Вільні вырашыла стварыць віленскі фотаальбом, альтэрнатывы не было — зь вёскі Перасека з-пад Менску быў запрошаны майстар Ян Булгак...

... Ці ня першым фатографам-мастаком у Беларусі быў Юзаф Чаховіч. Менавіта ён, фатограф і маляваьшчык, сябра гэткіх славутых мастакоў як Андрыёлі, Сьляндзінскі, Ромер, першы пакінуў сьцены атэлье і выйшаў пад бясконцы купал неба. Выхад у натуру, дзе кожная сэкунда мяняе ў несупыннум бегу стан сьвятла і настрою, запатрабаваў ад фатографа значна большае рупнасьці і ўвагі. Урэшце, да фатаграфіі сталі ўжывацца крытэры жорсткага адбору, вылушчваньня з лішняга самага істотнага. Гэта й ёсьць мастацкі працэс... Менавіта Чаховіча Булгак уважаў за свайго ідэйнага настаўніка. Яму ён прысьвяціў пазьней нямала ўдзячных старонак у сваіх артыкулах і кнігах. Дарэчы, пералік сяброў Чаховіча невыпадковы — усе яны мелі непасрэднае дачыненьне да паўстаньня 1863 году, як і сам Юзаф Чаховіч, які пакінуў па сабе і галерэю партрэтаў паўстанцаў. Тое, што Булгак шанаваў яго вышэй за астатніх фатографаў, узводзячы ў ранг мастака — сьведчыць і пра ягонае ўласнае крэда, якому ён застаўся верным да канца дзён — «вобразы мілыя роднага краю», насталь гічныя элегіі па старасьвеччыне, нацыянальны рамантызм кошту пралітае крыві...

... Ян Булгак нарадзіўся ў Асташыне... Асташын — невялікае, некалі вельмі рамантычнае, мястэчка пад Навагарадкам, слыннае найперш унікальным гатычным кальвінскім зборам. Гэты кальсальны збор-крэпасьць на старым замчышчы, у атачэньні пірамідальных стромкіх таполяў, дайшоў да нас выключна дзякуючы здымкам Яна Булгака. Магутны дах у дробнай лусцы дахоўкі, каржкаватая вежа, якая нагадвае дойлідзтва Эгіпту, і тонкі мур зь пекнаю барочнаю брамкаю... Нязвыклая архітэктура, незвычайнае месца. Бадай, ад гэтага мястэчка, выспы цывілізацыі сярод стромых пагоркаў, абкружаных гушчарамі лясоў, у Булгака і засталося ў крыві ўменьне бачыць нечаканае ў трывіяльным, таямнічае ў паўсядзённым, цаніць кожны аскепак цывілізаванасьці ў забраным краі. Радзіма ягоная — незвычайнае месца, калі, вядома, у Беларусі былі недзе і мясьціны звычайныя....

... Доўгі час Булгак жыў пад Менскам, арэндуючы зямлю ў вёсцы Перасека. Тут ён спасьціг ці ня самае для сябе галоўнае — падмуркам любое цывілізаванасьці ёсьць зямля й тыя, хто яе ўрабляе. Адсюль, зь нетраў беларускага абшару, у сталіцу краю, у Вільню струменіла ягоная думка... Нястомная прага самавыяўленьня празь беларускі космас падштурхоўвала яго, самавука, вынаходзіць, адзначаць, улоўліваць усё жывое навокал. Аб'езьдзіўшы паўБеларусі, ён стаў аўтарытэтам сярод этнографаў, фатографаў, мастакоў — шараговы арандар, адзін з сотняў тысячаў гэткіх жа шляхціцаў-земляробаў... Ягоныя здымкі, у кожным зь якіх было памкненьне неяк выламіць стэрэатып, паглыбіць пэрспэктыву, даць яшчэ, яшчэ і яшчэ болей паветра, акрайца бясконцага космасу, сустракалі гледачоў са старонак розных часопісаў — «Ziemia», «Kwartalnik Litewski», «Wieś ilustrowana» ды розных іншых. Сярод «іншых» і тагачасная «Наша Ніва».

... Сяброўства Булгака зь беларушчынай пачалося ледзь ня зь першых крокаў на ўласную творчасьць. Улетку і позьняй восеньню, як ужо з палёў сабраныя былі апошнія зямныя плады, фатограф наяжджаў у Вільню. Сярод тых, з кім ён ладзіў свае першыя шпацыры па горадзе — Іван Луцкевіч і Фэрдынанд Рушчыц. Разам з Луцкевічам па панядзелках яны хадзілі ў дом на Зарэччы, над стромым берагам хуткацечнае порсткае Вялейкі, якая нясьціхана вуркацыць нават на Ліліпаўку. Тут, у кватэры Рушчыца зьбіраўся незвычайны салён — квеценць віленскае культуры, жорстка адабраная самім гаспадаром. Адзін са сталых гасьцей Рушчыца, публіцыст Чэслаў Янкоўскі гэтак апісваў тыя «салёны»: «Кожны тыдзень, па панядзелках, вечарамі, зьбіралася ў Рушчыца мастацка-літаратурная кампанія. Ніякіх «захожых» гасьцей не бывала, зразумела, пад час «сымпозыюмаў». Ніколі ніхто не гаварыў па-расейску. Падсілкаваўшыся, падпіўшы, пачыналі — хтосьці ўжо дэклямуе, хтосьці грае, хтосьці сьпявае... калі не, то перашкаджаючы, падымаючы сур'ёзныя тэмы пра лёс краю»...

... Падчас аднае з тых вечарынаў на Зарэччы Ян Булгак атрымаў замову ад гарадзкога галавы Вільні спадара Міхала Вэнслаўскага — стварыць поўны «гарадзкі фотаархіў». Рушчыц на раніцу ня толькі нагадаў Вэнслаўскаму аб прапазыцыі, але й здолеў упэўніць урад Вільні ў пільнай неабходнасьці салідна фундаваць унікальны праект. Булгак, які, дзякуючы гэткаму зьбегу абставінаў, здолеў перабрацца ў Вільню з-пад Менску, напісаў пра гэта: «... Гарадзкая Ўправа, нягледзячы на расейскія строі, была наогул чыста тутэйшаю... Той самы задуманы ёю «Городской фотографический архив» быў складзены ўручную. Я мусіў з кансультацыямі Рушчыца інвэнтарызаваць усе помнікі віленскае архітэктуры пры дапамозе шэрагаў здымкаў агульных і фрагмэнтарных, і ствараць зь іх альбомы... Як пазьней сьцьвярджаў першы мастак-жывапісец, які не ігнараваў фатаграфіі, не адмаўляў ёй у праве йснаваць у мастацтве, я мусіў арыгінальна распавесьці пра дэталі мінулага выбітнага разьвіцьця Вільні...» Задача перад Булгакам паўстала куды шырэй, чым «інвэнтарызацыя». «... Хараство Вільні склалася з таго, што дае прырода й стварыў чалавек», — гэтыя словы Фэрдынанда Рушчыца сталі дэвізам унікальнага праекту...

З 1912 да 1919 году Булгак выканаў некалькі тысячаў здымкаў сакральнае архітэктуры, палацаў, могілак, вуліц і завулкаў Вільні. Ягоную ўнурлівую й натхнёную працу не перапынілі ні нямецкая, ні бальшавіцкая, ні літоўская акупацыі... Чароўны вобраз Вільні па-над часамі і ладамі, які Булгак утрываліў навечна, паўстае перад намі бясконцаю чарадою сюжэтаў і настрояў, сьвятла й ценю. Для сваіх мастацкіх выправаў ён наўмысна абіраў сонечныя дні, гадзіны першых звонкіх прамянёў й мядовага сьвятла папалудні. Пазьней, у сваёй кнізе «Эстэтыка сьвятла», у 1936 годзе Булгак пісаў: «Архітэктура бяз сонца — мёртвая й пляскатая... У той жа час, як па-іншаму выглядае кожны гмах у сонечным бляску, калі бакавое сьвятло выяўляе плястыку брылёў сьценаў і дахаў, падкрэсьлівае сакавітасьць арнамэнтыкі, паглыбленьняў вокнаў і парталяў, рытм аркадаў, узносіць стральчатасьць вежак, хвалістую акругласьць купалоў і шаломаў! У сонцы белыя муры ясьнеюць нерухомай бельлю, выпраменьваюць зь сябе сьвятло й радасьць. А ўжо нашыя будынкі — белы касьцёл, белы палац, белы дом, можна палюбіць толькі ў сонцы, спасьцігнуць і раскрыць вымоўна... Архітэктура ёсьць творам чалавека, а чалавек — дзіцём зямлі і неба. Чалавек ня здолеў жыць бяз сонца — як бы бяз сонца магла абысьціся архітэктура?» Сапраўды, нягледзячы ні на што, уся нізка віленскіх здымкаў Булгака поўная сонечнага сьвятла, як успамін пра дзяцінства...

Сярод гэтага віру сьвятла й ценю ёсьць адзін здымак... Адзіны зь віленскіх здымкаў Булгака, дзе няма зыркіх прамянёў, а толькі бясконцасьць шарае гадзіны, паўзмрок, што праз хвіліну абрынецца навальніцай на сыходзе дня, ахутае вусьцішным жалем па нечым, чаго ўжо ніхто ніколі не адчуе. Гэта здымак «Выгляд з Зарэчча». Ці Булгак здрадзіў сабе?.. Гэты ж здымак адзіны, які застаўся непазначаны пэўным годам. Выцяты зь нізкі, выцяты з часу, выцяты з мэлёдыі сонца. Аднойчы Ядвігін Ш. напісаў пра сваё ўражаньне ад Вільні, калі зірнуў на яе з Зарэчча: «... Мілае места. Калі на які з пагоркаў узыдзеш, праз імглу аблокаў імкнуцца ўгару вежы, вежачкі, на якіх калі званы зазвоняць, невядома, ці скардзяцца, ці пра ласку просяць, ці жалобны ўзносяць голас». Можа гэта і быў галоўны твор Булгака ў Вільні. Мяккі й ціхі, сур'ёзны і ўзьнёслы, як апошні пацалунак на йлбе.

Рыхлыя, ірваныя хмары ўсё ніжэй, ніжэй бягуць долу, уціскаюць, уціскаюць, места — дом людзей... Здымак неба. Неба на дзьве трэціх здымка. За неба адчайна чапляюцца бажніцы, драпаюць пульхіны аблокаў. Ніхто ня памятае, калі і хто паставіў іх, сьпічастых, іклістых, чыста-вострых тут, унізе, між пагоркаў. Здымак бажніцаў. Бажніцы ўчарнелі.

Гэты выгляд абсалютна бязь зьменаў можна й сёньня пабачыць у Вільні. Толькі неба іншае. Толькі Вільня іншая.

Маштабы асобы Яна Булгака зь цяжкасьцю ўлазяць у нашыя ўяўленьні пра тую пару, пра тое фота, пра тое мастацтва. Ён — заснавальнік і старшыня фотаклюбу Польшчы; віленскага фотаклюбу, саюзу польскіх мастакоў-фатографаў, польскага фатаграфічнага таварыства. Ён аўтар дзясяткаў артыкулаў і шматлікіх кніг. Ён — пэдагог, бібліёграф, фальклярыст, гісторык мастацтваў. Менавіта Булгак — першы беларускі гісторык фатаграфіі. Яму належыць спэцыяльная праца «Пра першых віленскіх фатографаў з XIX стагодзьдзя», якая выйшла асобнай кнігай у Вільні ў 1939 годзе. Як пісаў Міхась Раманюк: «... яна знаёміць з выцьцём і творчасьцю фатографаў, якія акрамя партрэтаў, зробленых у павільёне, займаліся мастацкай фатаграфіяй краявідаў, культавай архітэктуры. На падставе багатай інфармацыі ад старых віленчукоў і самых майстроў, што дажывалі свой век, яму ўдалося ўзнавіць праўдзівыя, маляўнічыя старонкі мастацтва фатаграфіі ў найважнейшым асяродку беларускае культуры мінулага стагодзьдзя, апісаць прыёмы і тэхналёгію і прыёмы работы фатографаў — першапраходцаў, падзьвіжнікаў». Праўда, усімі гэтымі ацэнкамі Раманюка ў роўнай ступені з папярэднікамі мог быць уляўраваны і сам Ян Булгак...

У 1944 годзе ягоны калясальны архіў і фотатэка (звыш 10 тысячаў адзінак) былі панішчаныя полымем савецкае бамбардыроўкі... Сярод таго, што ацалела цудам — першы мастацкі фотакраявід — цнатлівы пацалунак на разьвітаньне...

**Сяргей Харэўскі**

Ян Булгак (1876, в. Асташына Навагрудзкага павету – 1950, Варшава) мастак-фатограф, выкладчык, этнограф, фальклярыст. З 1919 па 1939 – кіраўнік лябараторыі мастацкае фатаграфіі пры Віленскім унівэрсытэце. Аўтар кніг: «Мая зямля» (1919), «Эстэтыка сьвятла» (1936), «Дваццаць шэсьць гадоў з Рушчыцам» (1939).

У папярэдніх нумарах прадстаўленыя творы:

1. Фэрдынанд Рушчыц. Зямля
2. Мсьціслаў Дабужынскі. Віцебск, лесьвіца
3. Марк Шагал. Прамэнад
4. Ільля Рэпін. Беларус
5. Марк Антокальскі. Помнік Кацярыне
6. Вітальд Бялыніцкі-Біруля. Блакітная капліца
7. Хаім Суцін. Паж
8. Казімер Малевіч. Чорны квадрат
9. Язэп Драздовіч. Пагоня Ярылы
10. Валянцін Волкаў. Менск, 2 ліпеня 1943 году
11. Манумэнт Перамогі
12. Помнік Леніну ў Менску
13. Пётра Сергіевіч. Шляхам жыцьця
14. Аляксей Глебаў. Францішак Скарына
15. Міхал Філіповіч. Бітва на Нямізе
16. Лявон Вітан-Дубейкаўскі. Касьцёл Пятра і Паўла ў Дрысьвятах
17. Лявон Тарасэвіч. Бяз назвы

"Наша Ніва"
незалежная газэта
НАША НІВА
заснаваная ў 1906,
адноўленая ў 1991
рэдактар ........ Сяргей Дубавец
выдавец ........ Рэдакцыя газэты "Наша Ніва"
заснавальнік ........ Павал Жук
адказны сакратар ........ Алег Дзярновіч
мастацкі рэдактар ........ Сяргей Харэўскі
аддзел інфармацыі ........ Андрэй Лапцёнак
Віктар Корзун
дызайн і вёрстка ........ Лявон Раманчык
набор ........ Аляксандра Макавік
стыль і карэктура ........ Паўлюк Канавальчык
пры ўдзеле ........ Сяргея Шупы

АДРАС ДЛЯ ДОПІСАЎ
220123 Менск, а/с 71
Тэл./факс 213-43-52
E-mail: niva@user.unibel.by
http://members.xoom.com/Nasa_Niva


Наклад 2938. 12 палос фармат А2 нумар падпісаны ў друк 6:01, 09/2/1998. Друкарня выдавецтва "Беларускі Дом друку". Менск, праспэкт Францішка Скарыны, 79. Замова № 673. Кошт свабодны. У шапіках "Белсаюздруку" — 9500 руб.

Пасьведчаньне аб рэгістрацыі пэрыядычнага выданьня № 581 ад 4-га ліпеня 1996 г., выдадзенае Дзяржаўным камітэтам друку Рэспублікі Беларусі. Юрыдычны адрас: г. Менск, пр. газэты "Известия", д. 8, кв. 173.

М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12